Да 200-х угодкаў паўстаньня Касьцюшкі



# *Войска ВКЛ*
# *Ад Сасаў да Касьцюшкі*
# *(1765-1794)*

М.Грыгор'еў

# Войска ВКЛ
# Ад Сасаў да Касьцюшкі
# 1765 - 1794

Менск
Выдавец Зьміцер Салошкін
1994

ББК 68.49 (4Беі)
Г 91
УДК 355 (476) (091) "1765-1794"

Грыгор'еў Міхась
Г 91 Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі (1765-1794).
Выдавец З.Салошкін , Менск , 1994. - 168 с.: іл.

ISBN 985 - 6090 - 01 - 6

У кнізе разглядаюцца некаторыя асьпекты вайсковай справы ВКЛ апошняй чвэрці XVIII стагоддзя. Асаблівая ўвага надаецца гістарычным рэканструкцыям вайсковага абмундараваньня таго часу.

Уведзеныя першы раз у навуковы ўжытак узоры абмундураваньня, графічныя рэканструкцыі зброі і рэдкія гістарычныя зьвесткі робяць выданьне неацэннай крыніцай па вывучэньню вайсковай справы на Беларусі.

Каляровыя ілюстрацыі - А.Прыбылоў
Графічныя ілюстрацыі - М.Лазоўскі

Г 3550000000
(4Беі)

ББК 68.49



ISBN 985 - 6090 - 01 - 6

ГЛАВА 1

# РАЗЬВІЦЬЦЁ ВАЙСКОВАЙ СПРАВЫ Ў РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 18 СТ.

У другой палове 18 ст. Рэч Паспалітая - федэратыўная дзяржава, у склад якой ўваходзілі Карона (Польшча й Украіна) і Вялікае Княства Літоўскае (Беларусь і сучасная Жамойць) пачала паступова выходзіць з эканамічнага і палітычнага ўпадку, у якім знаходзілася з канца 17 ст.

Сялянская гаспадарка пачала паступова пераводзіцца з прыгоннай сыстэмы на чынш. Заснаваньне мануфактураў выклікала ажыўленьне гандлю і эканамічнага жыцьця дзяржавы. Значна ажывілася палітычнае жыцьцё шляхты - адзінага саслоўя, якое ўсьвядамляла сябе "народам" Рэчы Паспалітай. Шляхта нарэшце ўсвядоміла небясьпеку, якая пагражала слабаі дзяржаве з боку значна мацнейшых суседзяў. Узмацненьне дзяржавы і ейнага мацнейшага рыштунку - войска, патрабавала значных рэформаў. Войска, пакінутае ў спадчыну Рэчы Паспалітай напярэдадні першага падзелу, уяўляла сабой вартае жалю відовішча. Кавалерыя, магутная й славутая ва ўсёй Эўропе ў XYII ст., ператварылася ў першай палове XYIII ст. у недысцыплінаваныя й слаба абвучаныя аддзелы коннаі шляхты, якая толькі па назвах і на паперы ўяўляла сабоі грозныя харугвы і паўкі часоў Януша Радзівіла і Яна Сабесскага. Яна захавала свой старасьвецкі падзел на таварышаў-шляхту, якіх вербавалі за грошы, і паштовых-сялян, якіх прыводзілі з сабой на службу шляхціцы, разам з коньмі, узбраеньнем і амуніцыяй. Шляхецкая кавалерыя - гусары й панцэрныя, на якой у XYII ст. трымалася вайсковая моц Кароны і Вялікага Княства Літоўскага, на сярэдзіну XYIII ст. ужо не з'яўлялася сур'ёзнай вайсковй сілай. Вынікі бітваў на палях Эўропы вырашала рэгулярная, добра ўзброеная й абвучаная пяхота й моцная артылерыя. У першай палове 18 ст. рабіліся намаганьні ўтварыць падобную пяхоту.

Але суседзі Рэчы Паспалітай і перш за ўсё Расея, пільна кантралявалі ўсе намаганьні ўзмацніць рэгулярнае войска.

Пад час караляваньня Аўгуста II і Аўгуста III былі ўтвораныя нешматлікія пяхотныя паўкі ў Кароне й на Літве, але ўсе яны мелі характар кадравых частак, са шматлікімі афіцэрскімі кадрамі - добра аплочваемымі й дрэнна абвучанымі і мінімальнай колькасьцю абвучаных жаўнераў.

Афіцэрскія пасады набываліся за грошы і ў асобных паўках колькасьць афіцэраў ледзьве не перавышала колькасьць шэраговых жаўнераў. Уся сыстэма кіраваньня, арганізацыі й забяспячэньня войска адпавядала стану дзяржаўнай і палітычнай анархіі, якая панавала ў краі з канца 17 ст.

Пачатак вайсковых рэформаў, якія ў рэшце рэшт ўтварылі войска 1794 г., быў пакладзены разам з пачаткам караляваньня Станіслава Аўгуста Панятоўскага, якого ўзьвяла на прастол т.зв. “фамілія” - партыя, на чале якой стаялі магнаты Чартарыйскія. Гэта магнацкая партыя, усьведамляючы да якога дзяржаўнага заняпаду дайшла Рэч Паспалітая, імкнулася пры падтрымцы той жа Расеі і “свайго” караля ажыцьцявіць шэраг рэформаў, у тым ліку і вайсковых. Расея, як і астатнія суседзі Рэчы Паспалітай, не была зацікаўлена ва ўзмацненьні гэтай дзяржавы. У падобным клубку палітычных інтарэсаў і ўзаемасупярэчнасцяў быў нададзены штуршок разьвіцьцю вайсковых рэформаў.

Першым крокам было ўхваленьне соймам утварэньня Камісыі Вайсковай, якая пачала дзейнічаць з 31 сакавіка 1765 году. Гэта была ў сучасным разуменьні “парляманцкая камісыя”, якая пераняла ў гетманаў вялікіх і польных іхнія даўнейшыя прэрагатывы. Камісыя Вайсковая з моманту свайго ўтварэньня займалася ўсімі вайсковымі пытаньнямі, акрамя наданьня афіцэрскай годнасьці і непасрэднага кіраваньня войскам пад час вайны. Камісыя займалася пытаньнямі забеспячэньня і ўзбраеньня войска, кантралявала вайсковыя фінансы, “муштру” - абвучэньне жаўнераў, іх дысцыпліну, дыслякацыю асобных частак, Вайсковы суд. У Вялікім Княстве Літоўскім была заснавана асобная Камісыя Вайсковая, якая пачала дзейнічаць

у Горадні з 24 лютага 1765 г. У ейны склад увайшлі: прэзыдэнт Міхал Агінскі, камісары: паручнік пяцігорцаў (лёгкай кавалерыі) Нарбут, обер-лейтэнант Рэгімэнту (паўку) Коннага Булавы Польнай Бітаўт, генералўмаёр Пац і пісар польны Сасноўскі. Такім чынам упершыню ў гісторыі Вялікага Княства быў створаны абраны соймам, калегіяльны орган, які сканцэнтраваў у сваіх руках усе пытаньні арганізацыі і забясьпячэньня войска. Абедзьве Вайсковыя Камісыі першага складу пасьпелі праз сойм значна павялічыць вайсковы бюджэт, і намагаліся ўпарадкаваць войска ў рамках сьціплага "этату" (колькасьці) вызначанага яшчэ соймам 1717 г. У 1767 г. супольнымі намаганьнямі абедзьвух Камісыяў быў выдадзены новы "Рэгулямін" - статут для кавалерыі.

Вялікае значэньне для падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў мела утварэньне Станіславам Аўгустам Корпуса Кадэтаў, альбо Рыцарскай школы. Пачаткова гэта была 3-гадовая школа, якая павінна была падрыхтаваць добра абвучаных афіцэраў, якіх моцна бракавала ў войску Кароны й Літвы. Пазьней яна была рэарганізавана ў сямігадовую агульнаадукацыйную школу з вайсковай сьпецыялізацыяй для шляхецкай моладзі. Вучні корпусу выхоўваліся ў духу патрыятызму й адданасці Бацькаўшчыне і разам з тым атрымоўвалі выдатную вайсковую падрыхтоўку. Выпускнікамі Рыцарскай школы былі ўраджэнцы Вялікага Княства Тадэвуш Касьцюшка, Якуб Ясінскі, Юл'ян Нямцэвіч. У 1778 г. гарадзенскі стараста Антоні Тызэнгаўз уфундаваў падобны Корпус Кадэтаў у Горадні, які пасля быў пераведзены ў Вільню. Ён быў разлічаны на навучаньне 20 кадэтаў штогод і падрыхтоўваў афіцэраў выключна для войска Вялікага Княства Літоўскага.

Разьвіццё вайсковых рэформаў запаволіў выбух Барскай Канфэдэрацыі 1768-1772, якая паслужыла нагодай для ўвядзеньня на тэрыторыю Рэчы Паспалітай расейскіх войскаў і першага падзелу Рэчы Паспалітай. Пад націскам вайсковай моцы сойм, які ратыфі- каваў першы падзел, абвясціў утварэньне новага дзяржаўнага інстытуту, т.зв. Рады Няспыннай, якая

складалася з 5 дэпартамантаў, 6 лістапада 1776 году. Зь іх адзін - т.зв. Дэпартамант Вайсковы аддаваўся пад уладу 4 гетманаў (2-х каронных і 2-х літоўскіх). Разам з тым сойм 1773 - 1775 гадоў ухваліў узбуйненьне вайсковага бюджэту і павялічэньне колькасьці войска да 30000 чалавек. Сойм таксама зьліквідаваў сыстэму аплаты афіцэраў з сумаў жалаваньня, прызначаных для аплаты шэраговых. Сойм ухваліў арганізацыйны падзел войска на 5 дывізыяў: 3 каронныя й 2 літоўскія. Была рэарганізавана шляхецкая конніца. З харугваў гусарскіх (цяжкой кавалерыі) і панцэрных (сярэдняй) былі ўтвораны ў войску ВКЛ 2 брыгады т.зв. Кавалерыі Нарадовай ў колькасьці 1500 вершнікаў кожная. З харугваў лёгкай конніцы былі ўтвораны 5 палкоў т.зв. Пярэдняй Стражы. У кавалерыі быў пакінуты ранейшы падзел на таварышаў-шляхціцаў і паштовых нешляхецкага паходжаньня. Але трэба адзначыць, што ў Вялікім Княстве ў Паўкі Пярэдняй Стражы вербаваліся пераважна безьзямельныя шляхціцы, татары й "людзі лёзныя" (па-за саслоўныя), бо служба ў іх вымагала меней выдаткаў і лічылася неганаровай для заможных і радавітых шляхціцаў. Паўкі Пярэдняй Варты павінны былі забясьпечваць ахову дзяржаўных межаў Вялікага Княства. Але, як паказала вайна 1792 і Паўстаньне 1794, Паўкі Пярэдняй Стражы былі больш баяздольнымі часткамі, чым брыгады Кавалерыі Нарадовай. Соймам 1773-1775 гг. былі зьліквідаваныя ў войску Вялікага Княства 3 драгунскія паўкі, якія былі пераведзеныя ў пяхоту.

Пасьля намаганьня вайсковага перавароту, які спрабаваў учыніць вялікі гетман каронны Ксаверы Браніцкі, сойм 1776 г., які абвесціў сябе канфэдэрацыйным (на якім не магло ўжывацца права "ліберум вета"), моцна абмежаваў уладу гетманаў. Найвышэйшая ўлада над войскам Рэчы Паспалітай была перададзена Вайсковаму Дэпартаманту, у якім гетманы мелі толькі сяброўскую пасаду. У гетманаў было адабрана права наданьня афіцэрскіх патэнтаў. Патэнт на афіцэрскі чын з гэтага моманту выдавала Вайсковая Канцылярыя Яго Каралеўскай Мосьці за подпісам караля. Фінансавыя справы перайшлі да

Камісыі Скарбавай. Сойм 1776-1778 году прызнаў, што ўхваленую папярэднім соймам лічбу войска ў 30000 дасягнуць немагчыма з-за недахопу грошай. Праектаваная лічба войска была зьменшана да 24000, прычым сойм ухваліў сьціраваньне ўсіх "суператаў" (розьніцы паміж дзяржаўнымі прыбыткамі й выдаткамі) на павялічэньне колькасьці кароннай і літоўскай пяхоты. На практыцы гэтых грошаў хапіла толькі на ўтрыманьне да 1788 г. 4500 жаўнераў літоўскага войска. Як і ў 17 ст., пяхота набіралася шляхам вярбоўкі добраахвотнікаў, а кавалерыя - вярбоўкай шляхты, якая з'яўлялася на службу з паштовым. У кавалерыі працягваў існаваць падзел на таварышаў "прытомных" - тых, хто служыў у шыхте і "савітых", (тых, хто сядзеў у сваіх фальварках, а замест сябе выстаўляў у шыхт 2 паштовых, узброеных і апранутых за ўласны кошт). Галоўнай перашкодай для павелічэньня колькасьці войска, перш за ўсё пяхоты, была немагчымасьць увядзеньня рэкруцкай сыстэмы, з дапамогай якой набіраліся ўсе войскі моцных суседзяў Рэчы Паспалітай. Дэпартамант Вайсковы не насьмельваўся нават прадставіць падобны праект узбуйненьня войска на разгляд Сойму, ведаючы наперад рэакцыю на яго дэпутатаў. Шляхта страшэнна баялася згубіць хоць адну пару працоўных сялянскіх рук, дбаючы выключна пра уласны дабрабыт, але не пра небясьпеку дзяржавы.

Нягледзячы на малую колькасьць войска й шчуплы вайсковы бюджэт, ішла праца над узвышэньнем узроўню баявой падрыхтоўкі войска. Вялікая ўвага надавалася адраджэньню артылерыі, якая цалкам прыйшла ў заняпад у першай палове 18 ст. Ініцыятарамі гэтых падзеяў былі камандуючы коннай артылерыяй Алойзы Брюль і генерал артылерыі літоўскай Казімір Нестар Сапега. Былі адноўлены людвісарні ў Варшаве й Вільні, распачата павялічэньне колькасьці і абвучэньне жаўнераў Корпусу Артылерыі Літоўскай. У 1776 г. у Варшаве была заснавана Каралеўская Школа Артылерыі. Штогод 50 вучняў школы (па 1 з кожнай артылерыйскай роты) праходзіла ў ёй курсы артылерыі, матэматыкі, геамэтрыі, якія чытала 10 выкладчыкаў. Выпускнікі гэтай школы зрабіліся касьцяком

кароннай і літоўскай артылерыі ў 1792-1794 гг.

Акрамя выдачы афіцэрскіх патэнтаў, кароль здолеў правесьці, па-за ўладаю сойму, яшчэ адну значную рэформу, зрабіўшы моцны ўплыў на падвышэньне якаснага ўзроўню афіцэрскага корпусу Рэчы Паспалітай. 11 траўня 1783 Вайсковая канцэлярыя Яго Каралеўскай Мосьці выдала "Дэклярацыю", згодна зь якой з 1 студзеня 1784 ва ўсім войску забараняўся продаж і набыцьцё афіцэрскіх пасадаў і чыноў. Да гэтага моманту чын афіцэра вызначаўся таўшчынёй кашальку яго самаго, альбо ягоных патронаў. "Дэклярацыя" адчыняла шлях да вайсковай кар'еры бедным, але здольным афіцэрам. Але вакансыяў у частках не хапала, паколькі раней набыўшым свае чыны афіцэрам дазволена было працягваць службу. Часам, каб атрымаць пасаду, афіцэр папросту набываў яе ў свайго папярэдніка. Яшчэ ў 1795 г. ужо пазбаўлены кароны Станіслаў Аўгуст прасіў у Екацярыны II вярнуць былым афіцэрам войска Рэчы Паспалітай 400 000 дукатаў, заплочаных тымі за свае чыны й пасады. Але, нягледзячы на недапрацоўкі, "Дэклярацыя" адчыніла шлях да пасадаў такім здольным афіцэрам, як Касьцюшка, Серакоўскі, Рушчыц, Дзедзерка й шмат якім іншым.

Дэпартамант Вайсковы, які ў сваёй дзейнасьці абапіраўся на стары склад службоўцаў Камісыі Вайсковай, распрацаваў у 1777 годзе новы "Рэгулямін" для пяхоты, а ў 1786 г. - для кавалерыі. Гэты "Рэгулямін" зьменшыў колькасьць таварышаў й павялічыў колькасьць паштовых, якія маглі набірацца шляхам вярбоўкі. Брыгады й паўкі кавалерыі былі падзелены на тактычныя адзінкі - швадроны, для якіх у "Рэгуляміне" 1786 г. была абумоўлена мэтода навучаньня й парадак баявога шыхтаваньня й дзеяньня пад час бою. Тадыж быў прыняты новы мундур кавалерыі, які адкрыў этап рэформаў у галіне абмундураваньня войскаў Кароны й Літвы.

У 1786 у Казеніцах пад Варшавай, была закладзена першая ў Рэчы Паспалітай мануфактура па вырабу ручной агняпальнай зброі.

У канцы 80-х гадоў 18 ст. імкненьне да рэформаў гаспадарства

ахапіла шырокія колы грамадства Рэчы Паспалітай. Палі- тычны лягер, які імкнуўся да глыбейшых рэформаў дзяржаўнай пабудовы, зваўся патрыятычным. Ягоныя прыхільнікі сярод шляхты разумелі, што з умяшальніцтвам суседзяў ва ўнутраныя справы дзяржавы і замахі на яе незалежнасьць магчыма пакончыць толькі шляхам павелічэньня войска й паляпшэньнем яго арганізацыі і сыстэмы кіраўніцтва. Міжнародная сытуацыя ў гэты момант складалася для патрыятычнага лягеру спрыяльна. Расея была зьвязана вайной з Турцыяй. Паміж дзяржавамі, якія ўдзельнічалі ў першым падзеле Рэчы Паспалітай існавала шмат супярэчнасцяў. Прусія, варожа настроеная ў гэты час да Аўстрыі і Расеі, была гатова падтрымаць рэфарматарскія памкненьні патрыятычнага лягеру.

На сойме, скліканым у 1788 г., пераважалі прыхільнікі рэформаў. Сойм абвесціў сябе Канфэдэрацыяй (зьнішчыўшы права “ліберум вета”) і дзейнічаў 4 гады, замест традыцыйных 2 гадоў. 22 кастрычніка 1788 г. сойм ухваліў павелічэньне колькасьці войска да 100 000 жаўнераў. Распрацоўкай і ажыцьцяўленьнем гэтага праекту павінна была заняцца Камісыя Вайсковая Абодвух Народаў, якая была ўтворана 23 лістапада 1788 г. замест Дэпартаманту Вайсковага. У склад Камісыі ўвайшлі 4 гетманы, але толькі з правамі сяброў, і 12 камісараў. З літоўскага боку ў яе ўвайшло 5 камісараў, у тым ліку Язэп Несялоўскі, ваявода наваградскі, Язэп Забелла і Мікалай Радзівіл. Кворум для прыёма рашэньняў быў вызначаны ў 7 асобаў. Усяго да канца 1782 г. Камісыя правяла 1033 пасяджэньні з кворумам. Гетманы каронныя і літоўскія фактычна ўхіліліся ад працы ў Камісыі, але жалаваньне за свае пасады ў ёй атрымоўвалі рэгулярна. Фактычным прэзыдэнтам Камісыі зрабіўся Язэп Несялоўскі, адначасова шэф 6-га літоўскага пяхотнага паўку. Камісыі былі перададзены ўсе вайсковыя справы. У канцэлярыі Камісыі працавалі з боку Вялікага Княства: пісар літоўскі Ясінскі, рэгент літоўскі Трэмбецкі, касір літоўскі Ашторп, таксама канцылярысты, архіварыусы, капіісты. Вайсковым судом ў літоўскім войску загадваў генерал-аўдзітар

Лукашэвіч. Кароль адмовіўся ад выдачы патэнтаў афіцэрам, цяпер на афіцэрскія пасады ад генерала да капітана прызначаў Сойм, а на ніжэйшыя - Камісыя Вайсковая.

Праект Стотысячнага войска прадугледжваў павялічэньне войска Вялікага Княства Літоўскага да 33 тысячаў жаўнераў, зь іх 10650 кавалерыстаў, 20330 пяхтуроў і 1661 жаўнера Корпусу Артылерыі і Інжынерыі. Колькасныя суадносіны родаў войскаў адпавядалі падобнай прапорцыі ў тагачасных эўрапэйскіх арміях. Праект прадугледжваў урэгуляваньне колькаснага складу ўсіх частак войска: поўк пяхоты - па 3 батальёны, складзеныя з 4 "кампаніяў" (ротаў) кожны, брыгада Кавалерыі Нарадовай - па 12 харугваў, поўк Пярэдняй Стражы - па 10 харугваў, і Корпус Артылерыі Літоўскай з 10 ротаў. Навацыяй павінна было зрабіцца ўтварэньне пры пяхоце Вялікага Княства 2-х батальёнаў стральцоў. Літоўскае войска, паводле праекту, падзялялася на 2 дыві- зыі, кожная зя якіх мела, апрача пяхоты, уласную кавалерыю й артылерыю, г.зн. былі адзінкамі Вышэйшага тактычнага падзелу. Жалаваньне для войска павінна была выплочваць Камісыя Скарбовая, забясьпячэньнем фуражом, харчам і забясьпячэньнем кватэр павінны былі займацца камісыі цывільна-вайсковыя, абіраемыя на сойміках.

Галоўнай перашкодай на шляху зьдзяйсненьня гэтага праекту зрабілася састарэлая сыстэма набора войска. Існаваўшая з часоў Стэфана Баторыя традыцыя вярбоўкі добраахвотнікаў больш-менш эфектыўна дзейнічала ў справе набору шляхецкай кавалерыі, але ў пяхоту шляхта ня йшла. Да тагож добраахвотнікаў дазволена было вербаваць толькі ў каралеўскіх і "духоўных" (царкоўных) мястэчках і тэрыторыях. У "добра дзедзічных" - шляхецкіх, вярбоўка была забаронена. 9 студзеня 1789 г. выйшаў наказ Сойма пра вярбоўку 120 чалавекаў на кожную роту. Дзеля гэтага паўкоўнікі пяхотных рэгімэнтаў атрымалі па 10 000 злотых. Кожнаму завербаванаму адразу выплочваўся 3-месячны "ленунг" (жалаваньне). Ад вярбоўкі звальняліся: прыгонныя ды іх парабкі, рамесьнікі й надворная чэлядзь, замежнікі, фурманы й пастухі пры статках. У выпадку

завербаваньня кагосьці з пералічаных яго наказвалася вярнуць (хаця за звальненьне паўсюдна бралі хабар). Тэрыторыя вярбоўкі абмяжоўвалася ваяводствам, ці паветам, дзе кватараваў поўк. Ад вярбунку звальняліся "людзі лёзныя", г.зн. бяз пэўных заняткаў. 9 лютага выйшаў наказ пра вярбоўку ў кавалерыю, 20 красавіка Камісыя Вайсковая са згоды Сойму дазволіла вярбоўку яшчэ 50-ці чалавек на роту, а 22 чэрвеня - яшчэ 50-ці на роту. Нягледзячы на ўвядзеньне новых падаткаў, грошаў на запланаванае пяцікратнае павялічэньне войска катастрафічна ня хапала. Да таго ж ня хапала й жадаючых, паколькі страшэнна была звужана сацыяльная прастора для вярбоўкі і ейная тэрыторыя. 21 лістапада была дазволена вярбоўка яшчэ 50-ці чалавек на роту. Фактычна дзьве апошнія вярбоўкі былі сарваныя Літоўскай Камісыяй Скарбовай, якой на набор сямі батальёнаў патрабавалася каля 3 млн. злотых, якіх невядома дзе было ўзяць.

Нарэшце 7 сьнежня 1789 г. сойм дазволіў набор "рэкрута кантановага" (якога потым назвалі кантаністам) па адным з 50-ці каралеўскіх і царкоўных "дымоў" (гаспадарак) і адным са 100 "дымоў" шляхецкіх. Шляхта, якая ня мела прыгонных, плаціла замест рэкрута па 2 злотых. Ад рэкрутаваньня была звольнена двухмільная зона каля межаў дзяржавы. Рэкрута патрабавалі пастаўляць здаровага, ня меней 66 цаляў росту, не маладзей 18 і не старэй за 35 гадоў. 50 ці 100 "дымоў", якія далі рэкрута на 6-ці гадовы тэрмін, ці "капітуляцыю", звальняліся на гэтыя гады ад новага набору. Жаўнер, які бездакорна праслужыў два тэрміны (12 гадоў), вызваляўся з прыгону.

Нарэшце войска было забясьпечана жывой сілай, адзінай магчымай на тыя гады методай. Але й гэтая сыстэма мела пэўныя недахопы. Выдача аднаго рэкрута з 50 ці 100 дымоў на пэўны тэрмін не магло забясьпечыць папўненьне стратаў у хворых і дэзэрцірах.

Вызначэньнем колькасьці рэкрутаў па паветах займаліся камісыі цывільнаўвайсковыя. Але калі на тэрыторыі паветаў, з якіх рэкрутаваўся поўк, рэкрутаў бракавала, то палкавыя каманды вярталіся ні з чым, бо ў іншыя паветы ехаць за

рэкрутамі было забаронена. Камісыі цывільна-вайсковыя шырока злоўжывалі сваімі паўнамоцтвамі, вызначаючы розную колькасьць рэкрутаў на адную й тую ж колькасьць "дымоў". 1-шы пяхотны поўк войска ВКЛ рэкрутаваўся са Слонімскага, Лідскага й Слуцкага паветаў. 2-гі пяхотны поўк, са штаб-кватэрай у Горадні, пасылаў свае каманды ў Прэны, Паставы ды Эйшышкі. 3ўці поўк, са штаб-кватэрай у Коўна, рэкрутаваўся ў асноўным жмудзінамі з Панявежы, Шаўляў, Расонаў, Вількаміра й Тэльшаў. 4-ты поўк, са штаб-кватэрай у Менску, праводзіў набор у Мазырскім і Бабруйскім паветах. 5-ты поўк са штабам у Берасьці, камплектаваўся кантаністамі з-пад Пінску й Ваўкавыску. 6-ты поўк, шэфам якога з'яўляўся прэзыдэнт Камісыі Вайсковай Ксаверы Несялоўскі, меў штаб-кватэру ў Наваградку і камплектаваўся зь ягоных ваколіцаў. 7-мы поўк набіраўся з Ашмянскага павету, Троцкага й Віленскага ваяводстваў. 8-мы поўк камплектаваўся ў Слуцаку й Нясьвіжы. Корпус Артылерыі знаходзіўся ў Вільні і рэкрутаваўся з Браслаўскага, Упіцкага й Ковенскага паветаў.

8 кастрычніка 1789 г. Сойм удакладніў запраектаваную колькасьць войскаў для ВКЛ: 8 пешых палкоў двухбатальённага складу (у батальёне - 725 чалавек),2 брыгады Кавалерыі Нарадовай па 2421 коней, 5 палкоў Пярэдняй Стражы па 1098 коней, рэгіменты гвардыі коннай і пешай. Набор рэкрутаў з-за недахопу сродкаў, маруднасьці й злоўжываньняў у камісыях цывільна-вайсковых адбываўся вельмі марудна. На пачптак 1792 г. 6 пяхотных палкоў Вялікага Княства не завершылі фармаваньне другіх батальёнаў і рушылі на вайну ў складзе аднаго батальёну. Толькі 8-мы "Радзівілаўскі" пяхотны поўк, пад камандаю здольнага палкоўніка Дзедзеркі, набраў поўны камплект рэкрутаў, і ў чэрвені 1792 г. складаўся з двух батальёнаў (8 ротаў). З набліжэньнем вайны 1792 Камісыя Вайсковая высунула праект набраньня па ўсёй Рэчы Паспалітай дадаткова 30 275 кантаністаў, але праект не пасьпелі ажыцьцявіць. Да пачатку вайны 1792, колькасьць войска ВКЛ удалося павялічыць да 18 тыс. 515 чалавекаў.

Камісыя Вайсковая актыўна займалася справай забясьпячэньня войска абмундураваньнем, зброяй і амуніцыяй. У 1789 г. была прынята новая форма для пяхоты, артылерыі й корпусу інжынераў. Паводле традыцыйнага парадку жаўнераў апраналі шэфы палкоў, атрымоўваючы на гэта грошы і пэўны ўзор. Але ў рэчаіснасьці, шэфы часта шылі мундур з больш нізкаякаснага сукна, чым тое, на якое даваліся грошы, а розьніцу ў кошце клалі сабе ў кішэню.

Літоўскі жаўнер не карміўся з палкавога катла, а набываў сабе ежу за ўласны ленунг. У 1789 г. былі выпадкі, калі асобныя паўкі не атрымоўвалі жалаваньня месяцамі, але Камісыя Скарбовая ў хуткім часе разабралася з заблытанымі фінансавымі справамі і ў далейшым выплата жаўнерам жалаваньня не затрымлі- валась.

Акрамя паляпшэньня кадравага складу Корпусу Артылерыі Кароннай і Літоўскай, былі зроблены захады па ўтварэньню новага для войска Вялікага Княства роду войскаў - Корпуса Інжынэраў. У кастрычніку 1789 г. для падрыхтоўкі вайсковых інжынэраў у Варшаве была заснавана школа інжынэраў, у якой выкладалі 3 прафесары. З 1789 г. нешматлікім Корпусам Інжынэраў Літоўскіх камандаваў палкоўнік Якуб Ясінскі.

Камісыя Вайсковая інтэнсіўна працавала над рэарганізацыяй павялічанага войска. 8 кастрычніка 1789 года быў выдадзены "кампут" (рахунак асабовага складу) на кожную пяхотную роту. Яна складалася: з 1 капітана, 1 паручніка, 1 падпаручніка, 1 харунжага, 1 фельдфебеля, 1 сержанта, 8 капралаў, 2 цесляроў, 3 барабаншчыкаў і 156 шэраговых. 22 студзеня 1790 г. Камісыя Вайсковая выпусціла ардананс на штат пяхотнага паўка 2-х батальённага складу, да якога загадвалася давесьці ўсе пяхотныя паўкі яшчэ прыказам за 14 сьнежня 1789 г. У склад штабу паўка ўваходзілі: шэф паўка, паўкоўнік, падпаўкоўнік, 2 майоры, кватэрмайстар (начальнік тылавой службы), аўдзітар (чыноўнік вайсковага суда), 2 ад'ютанты, капэлан, 8 фельчараў, 8 падхарунжых, рэгімент-фельчар (палкавы хірург), барабаншчык, пушкар, вагенмайстар (рамесьнік па рамонту вазоў), профас

(ягоны памочнік). У склад штабу ўваходзілі 29 чалавекаў. У складзе 8 ротаў была адпаведная "кампуту" колькасьць афіцэраў і унтэр-афіцэраў 1789 і 1248 - шэрагавых.

Камісыя Вайсковая клапацілася пра паляпшэньне якаснага ўзроўню афіцэрскага корпусу. Перш за ўсё Камісыя запатрабавала, каб шэфы палкоў, якія раней разглядалі сваю пасаду, як вельмі даходную сінекуру (бо яна давала магчымасьць для злоўжываньняў з паўкавой касай), цяпер павінны былі стала знаходзіцца пры сваіх рэгіментах і выконвалі абавязак першых паўкоўнікаў. Пасады першых паўкоўнікаў (як і майораў і капітанаў) былі вынікам ранейшага продажу чыноў, калі, напрыклад, ротамі ў паўку камандавалі паўкоўнікі, ці майоры, атрымоўваўшыя адпаведнае жалаваньне, першым у чыне лічыўся камандзір пэўнага вайсковага злучэньня. Абодва гетманы, вялікі і польны, пазбаўляліся свайго шэфства над паўкамі.

Дзякуючы той жа ранейшай практыцы продажу чыноў, у войску адчуваўся вялікі недахоп дасьведчаных і абвучаных афіцэраў. У сувязі з гэтым Сойм дазволіў прымаць на службу ў войска ўраджэнцаў Рэчы Паспалітай, якія служылі афіцэрамі ў войсках суседніх дзяржаваў - перш за ўсё Аўстрыі і Прусіі. Дзакуючы гэтаму ў войска Кароны й Літвы патрапілі шмат якія афіцэры й генералы, імёны якіх неразрыўна зьвязаны з паўстаньнем 1794. Так князь Язэп Панятоўскі й генерал Вельгорскі служылі раней у Аўстрыйскім войску, генералы Забелла й Макраноўскі - у французскім, Тадэвуш Касьцюшка атрымаў чын генералўмайора каронных войскаў ужо будучы брыгадзірам амэрыканскага войска. Усяго ў войску Рэчы Паспалітай было на той час 18 генеральскіх вакансыяў, 11 зь якіх занялі генералы старой школы, часцей за ўсё набыўшыя гэту пасаду за грошы.

У вайну 1792 г. усе яны, апрача генрал-майора Літоўскай кавалерыі Беляка, паказалі сваю няздатнасьць. Новыя генералы пачалі займаць свае пасады з 1790 г. 19 сакавіка Камісыя Вайсковая выдала ардананс, акі патрабаваў ад афіцэраў адказнасьці за ўзровень навучаньня жаўнераў. Афіцэры павінны

былі стала знаходзіцца пры сваіх частках. 5 красавіка чарговы ардананс патрабаваў ад афіцэраў гатоўнасьці разам са сваімі часткамі да маршу ў любы момант, пад пагрозай касацыі (адстаўкі). Нарэшце ў 1791 быў выдадзены "Вопіс павіннасьцяў" - службовы статут, у якім былі апісаны службовыя абавязкі ўсіх чыноў паўка, з шэфа да шэраговага. У 1790 г. быў папраўлены "Рэгулямін" для кавалерыі 1786 г. і выдадзены новы "Прэпіс для муштры" - вучэбны статут для пяхоты. У восень 1792 г. пад Менскам былі праведзены першыя ў гісторыі Літоўскага войска манэўры з удзелам пяхоты, кавалерыі ды артылерыі.

Нягледзячы на ўсе намаганьні па павялічэньню войска да пачатку вайны 1792 г. у пяхотных паўках войска Вялікага Княства ў большасьці было па аднаму батальёну (725 жаўнераў) і фактычна не было паўкавой артылерыі. У брыгадах Кавалерыі Нарадовай налічвалася ў сярэднім па 1500 вершнікаў, а ў паўках Пярэдняй Стражы па 700 - 800 чалавекаў. Брыгады падзяляліся на 8 швадронаў альбо 16 харугваў (прыкладна па 100 чал. у харугве). Паўкі Пярэдняй Стражы дзяліліся на 8 харугваў. Артылерыя была ўкамплектавана й абвучана, але мела вельмі мала гарматаў. Колькасьць усяго войска складала 18515 жаўнераў і афіцэраў.

Недахоп жаўнераў прымусіў Сойм дазволіць браць на жалаваньне валанцёраў і павятовую міліцыю.

Пад час вайны 1792 г. Камісыя Вайсковая - галоўны орган вайсковага кіраваньня, дзейнічала аператыўна й разумна. Але здрада Таргавіцкай канфэдэрацыі, недахоп дасьведчаных ды энэргічных генералаў, нежаданьне караля ўзначаліць арганізацыю цьвёрдай абароны захопнікам зьвялі на нішто яе намаганьні, як і гераізм малодшых афіцэраў і жаўнераў. Трыумф Таргавіцкай канфэдэрацыі і ганебная капітуляцыя перад ворагам вырашылі лёс Вайсковай Камісыі Абодвух Народаў. Гарадзенскі Сойм 1793 г. ратыфікаваў 2-гі падзел Рэчы Паспалітай. Былі адноўлены дзяржаўныя органы, існаваўшыя да 1788 г. Для Вялікага Княства Літоўскага была ўтворана асобная Камісыя

Вайсковая пад неабмежаванай уладаі гетмана-здрадніка Сымона Касакоўскага. Сойм ухваліў "рэдукцыю" (скарачэньне) войска Вялікага Княства да колькасьці ў 6584 жаўнераў.

Рэдукцыя пачалася пад пільным наглядам расейскіх вайскоўцаў. Паўкі Вялікага Княства Літоўскага, злучаныя пад час вайны 1792 г. у 2 дывізыі, былі разьведзеныя па асобных мейсцах кватараваньня і аточаны моцнымі аддзеламі расейскіх войскаў. Некаторыя, найбольш бяздольныя, часткі было вырашана ўключыць у склад расейскага войска. Напрыклад, найлепш укамплектаваны 8-мы пяхотны поўк быў адведзены дзеля гэтай мэты ў Нясьвіж, але адмовіўся прысягаць "матухне імпэратрыцы". 19 жніўня 1793 г. ён быў раззброены расейскай Вайсковай камандай на чале зь генералам Кнорынгам. Найбольш бяздольная кавалерыйская частка - 2-я Пінская брыгада Кавалерыі Нарадовай была падзелена на 2 брыгады й адаслана пад Кіеў. Планавалася прывесьці да прысягі ды ўключыць у склад Расейскага войска ўсе часткі Кароны й Літвы. Шмат якія "ненадзейныя" афіцэры й шэфы паўкоў былі вывезены ў Расею й заменены прыхільнікамі Сымона Касакоўскага. Распачатая рэдукцыйная акцыя глыбока абурыла лі- тоўскае войска й прысьпешыла выбух Паўстаньня 1794 г. у Вялікім Княстве.

Паўстаньне 1794 г. зьнішчыла апошні архаічны элемент у сыстэме кіраваньня войскам Вялікага Княства - гетманскую ўладу. Апошні Вялікі гетман Літоўскі, актыўны выканаўца расейскіх загадаў, "дыктатар Літвы", галоўнакамандуючы войскам Вялікага Княства Сымон Касакоўскі, быў арыштаваны 23 красавіка 1794 г. у Вільні і па прысуду Крымінальнага суда павешаны на Ратушным Пляцы.

ГЛАВА 2.

# МУНДУР І АМУНІЦЫЯ КАВАЛЕРЫІ, ПЯХОТЫ І АРТЫЛЕРЫІ ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 18 ст. І ПАД ЧАС ПАЎСТАННЯ 1794 г.

На пачатку караляваньня Станіслава Аўгуста літоўская пяхота, як і польская, апраналася пераважна "па-нямецку", а хутчэй так, як з ва ўсёй тагачаснай Заходняй Эўропе. Мундур шэраговага - "гемайна" складаўся з чорнага двухкутнага капялюша - "бікорна", сягаючага кален мундура - "сурдута" альбо "райтрока", пад які апраналася камізэлька, штаноў да кален ці "плудраў", панчохаў, гамаш і чаравікоў. Бікорн абшываўся па краі белым галуном у шэраговых і жоўтым у афіцэраў, з бакоў зьвісалі два невялікія кутасы. На пярэдняй верхняй частцы прышпільваўся гузікам пампон. Афіцэры замест пампону насілі на капялюшы белую кукарду у выглядзе тканевога банту з прымацаванай да яго "кіткай" - плюмажам зь белых пер'яў каплуна. Абавязковым з'яўлялася ўжываньне парыка. Ззаду парык быў заплецены ў касу, якая месьцілася ў скураным футарале й была завязаная на чорны бант. На шыю апраналі шаўковую хустку, чырвоную у шэраговых і чорную ў афіцэраў. Пад мундур, на кашулю, апраналі белую палатняную камізэльку, зашпіленую на шматлікія металічныя гузікі. Унізе камізэлька мела дзьве невялікія кішэні з клапанамі, якія зашпільваліся на тры гузікі кожны. Дзяга, з фарбаванай у белы колер скуры, апраналася пад мундур, на камізэльку. Мундур меў невялікі адкладны каўнер, манжэты з двумя гузікамі, лацканы, якія даходзілі да паса з нашытымі на іх гузікамі, і кішэні з клапанамі, якія зашпільваліся на 3 гузікі. У парадным шыхце крысо мундура загортавалася па баках і зашпільвалася на асобны ніжні гузік. На ногі шэраговыя апраналі кароткія белыя штаны, панчохі й чаравікі са спражкамі. Зьверху на панчохі і чаравікі апраналіся

2. Зак. 5181.

"гамашы" - высокія замшавыя гетры, якія зашпільваліся збоку на шматлікія гузікі. Афіцэры звычайна ўжывалі высокія боты. Крой усяго мундуру быў аднолькавы для шэраговых і афіцэраў. Адзнакай афіцэрскай годнасьці былі: афіцэрскі шарф затканы па срэбру цёмна-чырвонай ніткай, эпалеты, альбо "шліфы" і цемляк на шпагу, ці як тады казалі "фельдцэх", тых жа колераў, як і афіцэрскі шарф.У склад амуніцыі шэроговага ўваходзіла патронная торба - лядунка, мацавалася бляшаная фляга. Агульны колер мундураў для пяхотных паўкоў Вялікага Княства быў блакітны. Паўкі розьніліся паміж сабой колерам "вылогаў" - манжэтаў, лацканаў і каўнераў, а таксама колерам верхняй паловы пампонаў на капялюшах. Розніца паміж паўкамі складалася і ў колеры прыборнага мэталу - г.зн. колеры ўсіх гузікаў, спражак ды эпалетаў. Колер прыборнага мэталу мог быць белым або жоўтым, але адным і тым жа ва ўсім паўку.

Такі ж самы крой мундураў мела артылерыя й гвардыя Вялікага Княства. Артылерысты насілі зяленыя мундуры з чорнымі вылогамі, а гвардзейцы - чырвоныя з блакітнымі. Падобны ўбор для жаўнера быў дужа цяжкі і нязручны, але мундур такога крою ўжываўся ў той час ва ўсёй Эўропе, у тым ліку ў арміях бліжэйшых суседзяў Рэчы Паспалітай - Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Але большая частка войска Рэчы Паспалітай ужывала мундуры так званага "народнага крою". Гэта было перш за ўсё Кавалерыя Нарадовая - шляхецкая конніца, якая колькасна пераважала нешматлікую рэгулярную пяхоту. У першай палове 18 стагоддзя шляхецкая кавалерыя традыцыйна злучалася ў харугвы "гусарскія" і "панцэрныя", але ўжо не ўжывала ахоўнага дасьпеху. Яна апраналася ў кунтушы й жупаны - звычайную шляхецкую вопратку. У 1746 годзе па ініцыятыве вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Радзівіла "Рыбенько" Кавалерыя Нарадовая атрымала пэўныя колеры вопраткі, пры захаваньні яе традыцыйнага шляхецкага крою. Рэгулямінам "статутам" за першае верасьня 1746 г. для гусарскіх харугваў быў уведзены цёмна-сіні жупан і цёмна-чырвоны кунтуш, для панцэрных - цёмна-чырвоны жупан і чырвоны кунтуш. Харугвы

лёгкай конніцы - татарскія й пяцігорскія - насілі сінія жупаны са сьветла-жоўтымі вылогамі й жоўтымі кунтушамі. Ня гледзячы на гэта панцэрныя ды лёгкія харугвы звычайна апраналі белыя жупаны, як больш "прызэнтуючыя", г.зн. шыкоўныя. Афіцэрам былі нададзены, як і ў пяхоце, шарфы й цемлякі на шаблі. Шляхта вельмі доўга супраціўлялася ўвядзеньню аднолькавых мундураў, лічачы іх замахам на шляхецкую вольнасьць, але афіцэрскія шарфы й цемлякі прыняла з ахвотай. Тлумачылася гэта тым, што на вайсковых пастах - "шыльдвахтах", стаялі вартавыя зь пяхотных паўкоў, якія рабілі "на каравул" толькі афіцэрам, якія павінны былі насіць шарфы й цемлякі. Таму неаднойчы з афіцэрамі шляхецкай кавалерыі здараўся канфуз, калі вартавы ў цэнтры Вільні ці Варшавы "не заўважаў" яго з-за адсутнасьці адзнакаў афіцэрскага чыну.

У 1776 годзе ўсе гусарскія й панцэрныя харугвы былі перафармаваны у брыгады Кавалерыі Нарадовай, а лёгкія харугвы - татарскія, валожскія й пяцігорскія - у паўкі Пярэдняй Стражы. Адпаведна быў зьменены і мундур новых фармаваньняў. У 1-й Ковенскай брыгадзе (захаваўшай назву гусарскай) афіцэры атрымалі мундуры сіняга колеру з чырвонымі вылогамі, залатымі эпалетамі й аксэльбантамі на правым плячы. Апраналі мундур на доўгі белы жупан, які падпярэзваўся афіцэрскім шарфам. Таварышы апраналіся гэтак сама, але ня мелі эпалетаў і шарфоў. І афіцэры і таварышы у брыгадах Кавалерыі Нарадовай і паўках Пярэдняй Стражы насілі шапкі зь мяккім верхам і баранкавым атокам (аколышам), да якога мацавалася белая тканевая кукарда зь "кіткай" з пер'я. Паштовыя ў брыгадах Кавалерыі Нарадовай насілі катанку - вопратку кшталту кароткага кунтуша з чырвонымі вылогамі й высокую шапку з чырвоным тканевым шлыкам, які зьвісаў на бок. Зьнешне яна нагадвала тагачасную шапку данскіх казакаў. Афіцэры й таварышы 2-й Пінскай брыгады засталіся пры традыцыйных сініх кунтушах з жоўтымі лацканамі й жоўтай падкладкай, якія апраналіся на доўгія белыя жупаны.

Паўкі Пярэдняй Стражы атрымалі тры ўзоры формы - для

афі- цэраў, таварышаў і паштовых. Афіцэры насілі белы мундур з кароткімі, вышэй лакця, рукавамі, з вылогамі й акантоўкай па краю рукава паводле колераў паўка. Мундур меў эпалеты і апранаўся на жупан, які запраўляўся ў штаны. Тыя шыліся з лампасамі ў колерах паўка і апраналіся ў афіцэраў паверх ботаў. Таварыш апранаўся ў такі ж самы, як у афіцэра, мундур, але без эпалетаў і насіў жупан навыпуск. Паштовы ў паўках Пярэдняй Стражы адрозьніваўся высокай т.зв. "пікаванай" шапкай са стаячым, прасьцеганым верхам. Таварыш падпярэзваўся паверх мундура кушаком, паштовы - дзягою зь беленай скуры, афіцэр - шарфом пад мундурам паверх жупана. Увогуле, мундуры шляхецкай кавалерыі больш нагадвалі кроем кунтушы з абрэзанымі адкіднымі рукавамі й укарочаным крысом, чым сапраўдныя мундзіры тагачаснай эўрапейскай рэгулярнай кавалерыі. Шыхтавы выгляд ім надавалі пэўныя мундурныя элемэнты аздобы - эпалеты ў афіцэраў, лацканы й манжэты. Мундуры ў паўках Пярэдняй Стражы былі белага колеру. Вылогі - адвароты, лацканы, акантоўкі на рукавах і падкладка мундураў былі выкананы ў колерах паўку. З тканіны палкавога колеру шыліся таксама жупаны, штаны й вярхі ў шапак.

Нягледзячы на пэўнае ўрэгуляваньне ў мундурах кавалерыі, шляхта заставалася шляхтай, аб чым сьведчаць распараджэньні Дэпартаманту Вайсковага. Арданaнс за 3 лютага 1777 г. загадваў "каб афіцэры Кавалерыі Нарадовай і Пярэдняй Стражы скончылі ўжываць да мундураў ядвабных (шаўковых - Г.М.) матэрый, галуноў і г.д., апроч нараменьнікаў (эпалетаў - Г.М.) якіх мадэлі камандант адбярэ сабе... аднастайнасці ў мундурах прытрымліваліся... у службе курткі й шаравары ўжываць, акрамя службы ў кунтушах і жупанах хадзіць мусяць. Уселякія выдуманыя крої, набліжаныя да нямецкага, альбо вэнгерскага, адрошчваньне па-швэдску валасоў і пудраваньне забаронена."

Імкненьне зьвесці недысцыплінаваную шляхецкую вольніцу хаця б па зьнешнім выглядзе да пэўнага "рэгуляміну" вяло да далейшых зьменаў ва абмундураваньні конніцы. Дэпартамант Вайскoвы выдаў у 1785 годзе "Прэпіс убору для брыгад кавалерыі

нарадовай і пярэдняй варты". Гэты дакумант уводзіў новы вайсковы ўбор, вельмі практычны, арыгінальны, але які пры ўсім тым захоўваў шмат якія традыцыйныя элементы мундуру шляхецкай кавалерыі. Пэўныя зьмены ў дэталях гэтага мундура былі зроблены наступным "Прэпісам..." за 11 сакавіка 1791 году, але ў агульным крої і колерах ён захаваўся ў кавалерыі да канца паўстаньня 1794 г.

Кардынальным чынам зьмянілася куртка (ад лацінскага "curta" - кароткая, падрэзаная), якая вяла свой радавод ад скарочанага даўнейшага кунтуша. Яна зрабілася двухбартовай, шчыльна аблягаючай тулава, завужанай у пасе. Куртка набыла высокі адкладны каўнер, рукавы з манжэтамі, ззаду мела разрэз з дзьвума конрфалдамі й дзьвума кішэнямі. Каўнер і манжэты ў кавалерыі былі чырвонага колеру. Такі ж колер мела і падшыўка на лацканах курткі альбо "капах", зашпілены па краях на гузікі. Куртку можна было зашпіляць на два спосабы: альбо на правы шэраг гузікаў - у такім выпадку каляровая падшыўка на лацканах была закрыта, альбо на гаплікі, прышытыя са споду на грудзях - тады абодва лацканы клаліся каляровай падшыўкай вонкі і прышпіляліся на правы й левы шэраг гузікаў. Каляровую падшыўку мелі й рагі крыса, якія былі падгорнуты ў гару й прышыты. Такім чынам на цёмна-сінім фоне вопраткі чырванелі прыгожыя "вылогі". Убору новага крою дадавалі прыгажосьці каляровая акантоўка па швах на сьпіне і плячах, па краях лацканаў ад кішэні і па абедзьвух контрфалдах. Пад куртку апраналася белая камізэлька без рукавоў і каўнера, падшытая палатном, якая звалася "жупанік" альбо "лейбік". Зашпіляўся лейбік на часта прышытыя гаплікі альбо гузікі, абшытыя палатном, "якія на цалю ад краю ўсунуты, каб калі зашпіліць лейбікі, каб аніякага атвору ня было". На шыю павязвалася чорная ядвабная хустка. Да курткі апраналіся ў меру шчыльныя суконныя штаны, з палатнянай падшыўкай і двума лампасамі па баках - так званыя "шаравары" альбо "райтузы". Дзеля палягчэньня апрананьня калашыны шараварaў былі ўнізе, па баках, разрэзаны да сярэдзіны лытак. Разрэзы рабіліся паміж

лампасаў і зашпіляліся на 8 шнураваных пятлічак і гузікі. Унізе шаравары мелі прышытае “стрэмячка”, якое чаплялася за падэшву бота, каб “шаравары добра на наге ляжалі”. Колер шараварАў спачатку быў вызначаны чырвоны, з белымі альбо сінімі лампасамі, З 1791 г. для афіцэраў і таварышаў былі ўведзеныя сінія райтузы з чырвонымі лампасамі. З 1794 г. паштовыя таксама зьмянілі колер штаноў на сіні, але чырвоныя з белыми лампасам і яшчэ шырока ўжываліся. Апрача суконных шараварАў да летняга ўбору паштовых дадаваліся белыя палатнявыя "чэхцеры" - легкія штаны. Боты шыліся з высокімі халявамі ўверсе скошанымі назад, з абцасамі "на пол-цалі вышыней" у таварыша і на 1 цаль (2.5 см) у паштовых. Шаравары і чэхцеры выпускаліся паверх ботаў і замацоўваліся стрэмячкамі ўнізе. Шпоры на ботах насіліся сталевыя, паліраваныя.

Рэгулямінавым (прадпісаным) галаўным уборам для афіцэраў і таварышаў брыгад Кавалерыі Нарадовай і паўкоў Пярэдняй Стражы былі шапкі з чатырохкутным верхам - “рагатувкі”. Паводле “прэпісу” 1785 г. яны былі 25 см, па прэпісу 11 сакавіка 1791 г. па 7 цаляў (18 см) вышыні, зь якіх - на 3 цалі чорны баранак - аколыш з каракуля, “а на 4 цалі чырвонага сукна”. Над аколышам шапка ў афіцэраў абшывалася палоскай срэбнага ці залатога (паводле колеру мэтала паўка) галуна. Шапкі былі набіты бавоўнай, уся канструкцыя мацавалася на вертыкальна ўшытых пласьцінах кітовага вуса. Па пласьцінах шапка была прасьцёгана - “пікавана”. З аднаго боку да шапкі прышываўся пасік “на 1/2 цалі вузкм” для зацягваньня пад падбароддзем, з другога боку ён зашпільваўся на гузік. Да 1792 году шапкі багата аздабляліся шыкоўнымі бантамі - кукардамі з каралеўскім “шыфрам” пасярэдзіне, белым, альбо чырвоным шнурам з кутасамі, ніткай з пер'яў каплуна. Паводле прэпісу 1791 г. замест тканёвых кукардаў - бантоў уводзіліся срэбны кавалерскі (мальтыйскі) крыжык, да якога мацавалася адно белае стрыжанае пяро, вышынёю ў 8 цаляў. З ужытку выводзіліся і шнуры з кутасамі, але шляхціцы працягвалі, нягледзячы ані на якія

“прэпісы” багата ўпрыгожваць свае шапкі.

Галаўным уборам паштовага з 1785 г. зрабіўся чорны фетравы даволі высокі “гівер” (ківер), які формай нагадваў турэцкую феску. Ён быў упрыгожаны белай ніткай, белымі шнурамі альбо “кардонамі”, якімі пад час моцнага ветру можна было прывязаць ківер да эпалета. З 1791 г. уводзіліся ківеры новай мадэлі “вышынёй у 8 цаляў”, зробленыя з глянцаванай скуры, з двума скуранымі брылькамі, якія засьцерагалі карак жаўнера ад дажджу, а вочы ад сьляпучага сонца. Ківер меў скураны раменчык пад падбароддзе, які зашпільваўся на гузік, прышыты да ніжняга краю ківера. Аздобай з'яўлялася бляха і нітка белага колеру, прымацаваная зь левага боку. Ківеры абодвух узораў былі досыць каштоўным галаўным уборам, таму пад час кампаній 1792 г. і 1794 г. іх, дзеля ашчаднасьці, часта замянялі суконнымі “рагатувкамі” з мяккім чырвоным, альбо цёмна-сінім верхам. Для служба па-за шыхтом, пад час дагляданьня коняў ды іншых штодзённых жа-нерскіх заняткаў паштовыя замест курткі ўжывалі кіцель з белага сукна, з вылогамі паводле колеру паўка. Замест ківераў апраналі суконныя “фуражэркі”, цёмна-сіняга колеру з акантоўкай па нізе “на 3 цалі вышынёй” у колерах вылогаў, унутры падшытыя палатном. Верх фуражэркі быў сьпічаста выцягнуты й зьвісаў набок, нагадваючы тагачасны начны каўпак альбо шапку гнома. На канцы фуражэркі прышываўся “кутасік” - кістка чырвонага колеру. Афіцэры і таварышы па-за шыхтом ужывалі мяккія “рагатувкі” з чырвоным суконным верхам.

Колерам вылогаў для паўкоў Пярэдняй Стражы Вялікага Княства быў вызначаны сьветла-пунсовы, а для брыгадаў Кавалерыі Нарадовай - цёмнаўчырвоны. Колерам првборнага мэталу для брыгадаў быў жоўты (залаты), а для паўкоў - белы (срэбны).

У зімовы час на куртку апраналася “епанча” - плашч з шырокім адкладным каўнерам, які мог накідвацца на галаву ў выглядзе каптура. Кавалерыя Вялікага Княства ўжывала цёмна-сінія епанчы з чырвонымі каўнерамі, якія зашпільваліся зьпераду на

12 гузікаў, прышытых з поду. Афіцэрам было дазволена нашэньне паверх куртак "капоты" - вопраткі кшталту доўгага сюртука. Капоты шыліся з сукна попельнага альбо сіняга колеру, з каўнерам, манжэтамі ды акантоўкай у колерах вылогаў паўка. Афіцэры й таварышы ўжывалі таксама замшавыя пальчаткі.

На куртку прышываліся эпалеты, якія зваліся таксама "шліфамі" альбо "параменікамі". Паштовыя і таварышы мелі па адным эпалеце на левым плячы, у паштовага ён быў суконны, у таварыша - зроблены з залацістай альбо срэбнай ніці. Афіцэр насіў два эпалеты з адзнакамі афіцэрскага чыну на кожным.

Адзнакай афіцэрскай годнасці быў шарф затканы па срэбры чырвонай ніткай і такі ж цемляк на шаблі, у таварышаў таксама меўся цемляк, але просты - "ніцяны", а ў паштовых ён быў зроблены са скуры. "Пендент" - пас для падвесу шаблі, у паштовага рабіўся з фарбаванай у белы колер скуры і зашпільваўся гладкай, без аніякай выявы спражкай - "клямрай". Таварышы і афіцэры да такога ж пендента ўжывалі спражку з выбітым на ёй каралеўскім "шыфрам", альбо выявай "Пагоні". Замест скуранога белага пендента таварышы часта ўжывалі тканевы, затканы срэбранай ніткай, з чырвонай акантоўкай па краях.

Лядунка - скураная торбачка для набояў у паштовага рабілася з чорнай скуры й вісела праз плячо на рамяні з ласёвай скуры, фарбаваным у белы колер з аднаго боку, з умовай ,каб "ад дажджоў не змываўся й мундур не фарбаваў". На рамяні зьмяшчаўся жалезны шомпал для пісталету. Сама лядунка была ўпрыгожана выявай "Пагоні", выбітай на круглай блясе. Афіцэры і таварышы ўжывалі такую ж лядунку. Шомпал паводле прэпісу павінен быў мясьціцца ў лядунцы, але таварышы часта мацавалі два шомпала на рамяні ад лядункі на ўзроўні грудзей. Апрача прадпісаных лядунак з чорнай скуры на белым рамяні, шляхта шырока ўжывала і "дзедаўскія і прадзедаўскія" лядункі, багата аздобленыя каштоўнымі мэталамі, якія насілі праз плячо на затканых срэбрам ці золатам "бандалетах" ці "бандальерах".

Куртка новага крою каштавала 19 польскіх злотых, жупанік

- 4 зл., шаравары - 13 зл., чэхцеры - 5 зл., клямра - 26 грошаў, пара ботаў - 12 зл., кіцель - 6 зл. 13 грошаў, фуражэрка - 1 зл., ківер з бляхай, шнурамі ды кіткай - 8 злотых 7 грошаў.

Усе часткі абмундураваньня паштовы атрымоўваў у палку ці брыгадзе. Зь "ленунга" - аплаты паштовага, якая складала 45 злотых штомесяц вылічваўся 1 злоты на рамонт зброі і амуніцыі. На штогадовы рамонт і аднаўленьне кіцеля, фуражэркі, на шыхтовы мундур, які абнаўляўся кожныя 2 гады, і епанчу, якая выдавалася раз на 4 гады, штогод зь ленунга вылічвалася 30 злотых. Афіцэры й таварышы павінны былі абмундуроўваўцца за ўласны кошт, а да 1790 г. маглі наогул "ад'ехаць" са службы, абмундураваўшы ды ўзброіўшы замест сябе двух паштовых, Апрача абмундураваньня, конскай вупражы ды ўзбраеньня, кожная кавалерыйыкая частка мела неабходныя для нясеньня службы штодзённыя рэчы. Для брыгады Кавалерыі Нарадовай у склад такіх прадметаў уваходзілі: 2 вялікіх намёты, альбо 10 малых для афіцэраў і "варты агнявой" (арсеналу) і "штандартовай" (сьцягу брыгады), намёт для капліцы й лазарэту. На швадрон для ўнтер-афіцэраў, паштовых, фельчараў, кавалёў ды інш. прыпадала 14 вялікіх намётаў. Апрача таго брыгада мела "на балянсе" 194 кацялкоў, 13 чахлоў, торбы для аўса, 25 трубаў для падачы сігналаў, 24 "абозныя харугаўкі" - шасты са сьцяжкамі для абазначэньня месца кватараваньня брыгады, 1 палявую кузьню,

Новы ўбор для кавалерыі хутка вызначыўся, як элегантны і практычны, які ня скоўваў рухаў жаўнера ані пад час верхавой язды, ані пад час пешай абознай службы. Выдатная якасьці новага мундуру садзейнічалі таму, што ў 1789 г. ён быў уведзены для пяхоты Рэчы Паспалітай. У пешых паўках войска Вялікага Княства Літоўскага ён быў афіцыйна ўведзены ва ўжытак ардanансам за 17 ліпеня 1789 г. Крой такога мундура адпавядаў тагасаснай канцэпцыі вайсковага кіраўніцтва Рэчы Паспалітай, якое меркавала ў будучыні ўжываць на полі боя толькі лёгкую пяхоту, здольную да хуткіх маршаў і манэўраў.

Нагадваем, што да 1789 г. літоўскі жаўнер насіў мундур, які

кроем сваім паходзіў яшчэ ад саксонскіх узораў 30-40 гадоў 18 ст. На крэйду для бяленьня рамянёў і пудру для парыкоў выдавалася на роту 100 злотых, тады як на порах і амуніцыю - 150 зл. штомесяц. Пасля рэформы абмундураваньня, якая адбылася ў- 1789 г., на зьнешні выглял усяго пяхотнага паўка выдаткоўвалася 1 800 зл., а на амуніцыю й рамонт зброі - 10 000 злотых штогод. У гэтых мундурах паўкі ВКЛ прайшлі вайну 1792 г. і прынялі ўдзел у паўстаньні 1794 г.

Галоўным крокам у рэформе ўбораў і пяхоты была ліквідацыя вузкага і доўгага мундзіра старога тыпу. Замест яго была ўведзена куртка "кроем курткі Кавалерыі Нарадовай зробленая", зялёнага колеру для артылерыі ды інжынераў і цёмна-сіняга для пяхоты. Колер вылогаў пяхотнай куріткі залежыў ад нумару паў- ка. Было ўсталявана 7 такіх колераў і 2 колера прыборнага мэталу: жоўты (медзь альбо латунь) і белы (цына альбо срэбра). Адзін колер вылогаў прыпадаў у гэтай сыстэме на 2 паўкі, якія розьніліся паміж сабою колерам прыборнага мэталу. Такім чынам кожны поўк быў апрануты па-іншаму. Гэта мела вялікае значэньне для ад'ютантаў ці ардынарцаў, пры дапамозе якіх кіравалі маршамі й бітвамі. Тыя зь першага позірку маглі пазнаць поўк, да якога везьлі загад, дастаткова было ўбачыць мундур хаця б аднаго жаўнера. Таксама і камандуючы, аглядаючы поле бітвы, мог па мундурах арыентавацца ў дыслякацыі ўласных палкоў.

Пад куртку апранаўся лейбік, даўжынёю на "паў-паса" са стаячым каўнерам "на паў-цалі" вышынёй, які зашпільваўся на абшытыя тканінай гузікі, альбо кручкі. На шыю павязвалі гальштук" - шоўкавую хустку чорнага колеру. Замест курткі пяхота магла апранаць белы летні калет са стаячым каўнерам у колеры вылогаў, зашпілены на гузікі "ад нізу да гары". Кароткія, да кален, штаны жаўнер зьмяніў на доўгія белыя (улетку) штаны "не абцягнутыя, ані празьмерна прасторныя, вышынёю ў пасе вышэй сьцёгнаў", якія на маршы запраўляліся ў боты, а пад час аглядаў і парадаў выпускаліся паверх і зачапляліся за падэшву стрэмячкамі. Апрача летніх, палатняных, уводзіліся суконныя

зімовыя штаны. Яны шыліся з тканіны цёмна-сінягя колеру з лампасамі ў колерах паўка.

Замест чаравікаў з панчохамі пяхота атрымала боты новага ўзору, з халявамі назад, "зьпераду высокія па калена". Такія боты былі вельмі дарэчы для маршаў па багністых абшарах Беларусі. Замест капялюшаў - "бікорнаў", шэраговыя атрымалі каскі з чонага фетру са скураным брылькам, які засьцярагаў вочы ад сонца.

У адрозьненьне ад касак кароннае пяхоты, якія нагадвалі формай невысокія цыліндры, пляскатыя ўгары, літоўскія каскі нагадвалі высокія цыліндры з пакулістым верхам. Зь верху яны былі упрыгожаныя грэбнямі з чорнага конскага воласу, замацаваныя такім чынам, што каскі нагадвалі шлемы антычных воінаў. Для прыгажосьці з левага боку каскі мацавалася яшчэ белая кітка. Рамень пад падбароддзем трывала мацаваў каску на галаве жаўнера. Зпераду каску ўпрыгожвала пласьціна белага альбо жоў- тага мэталу, на якой была выбіта выява каралеўскага вензэля, альбо "Пагоня". Са з'яўленьнем на галаўным уборы жаўнера выявы дзяржаўнага сымбаля, зьмяніўся сам рытуал аддачы вайсковай пашаны. Жаўнер пры гэтым ужо не павінен быў, яе раней, нахіляць галавы, але "у прыстойнай паставе стаўшы, левай рукой дакрануцца да пераду каскі". Каскі служылі і як дадатковая ахова пад час бою. Высокія, зробленыя з цьвёрдага фетру, зьпераду акутыя мэталам, а зьверху меўшыя грэбень з конскага воласу, яны добра баранілі галаву жаўнера ад удараў халоднай зброяй зьпераду й зьверху.

Па-за шыхтом жаўнеры ўжывалі суконныя "фуражэркі" падобнага крою, як у кавалерыі. Шынялі ў шэраговых павінны былі быць шэрага колеру, з суконнымі пагонамі, зьпераду зашпіляліся на гузікі. Даўжыня рукавоў у шынеля рэгламентавалася проста - "каб да запясьця раўняўся". "Ледерверк" - пасы для нашэньня зброі (флінтпас, пас для лядункі, пендент) захоўваўся стары. Тарністар - торба для жаўнерскага прыпасу - павінен быў быць скураны з бляшанай флягай, якая мацавалася на клапане тарністра. Лядунка, як і

раней, рабілася з чорнай скуры з выявай “Пагоні” на ёй. У зімовую пару шынель апраналася на куртку, а ледэрверк апранаўся зьверху. У дождж ледэрверк апранаўся на куртку: а зьверху жаўнер накідваў шынель. У загадах адзначалася “каб жаўнер у першым і другім выпадках мог вольна сабой валодаць у кожным ужываньні зброі, як і пры выкананьні розных эвалюцый аніякай ня меў невыгоды”.

Зьнешні выгляд шэраговага таксама вызначаўся ўжо не нямецкай модай, але элементарнымі патрабаваньнямі асабістай гігіены. Патрабавалася, каб жаўнер меў “валасы гладка зьпераду зачасаныя, ззаду у коску заплеценыя, дагары падрэзаныя, якія ў роўнасці каўнера толькі спушчаныя могуць быць” і не надта вялікія вусы.

У ніжніх чыноў аніякіх адрозненьняў у мундурах не існавала. На куртку шэрвговага прышываліся два суконныя пагоны - “на раменьнікі”, якія служылі для замацаваньня на плячы рамянёў ледэрверка. Для гэтай мэты верхнія канцы пагонаў прышпільваліся на гузік. Пагоны шыліся з тканіны паўкавога колеру. У чотных паўкоў яны, як правіла, мелі акантоўку цёмна-сіняга колеру. Унтэрафіцэры адрозніваліся ад шэраговых толькі срэбнай ці залатой (згодна з колерам прыборнага мэталу) акантоўкай з галуна на каўнерах, манжэтах і пагонах.

На сэсыі Камісыі Вайсковай 11 сакавіка 1791 г. быў прыняты рахунак на мундур шэраговага. У ягоны склад уваходзілі: мундур (куртка) коштам 19 зл., калет летні на 2 гады за 11 зл. 20 гр., штаны зімовыя - суконныя, чэхцеры (летнія палатняныя штаны) - 2 зл., падштанікаў пара і шкарпэткі за 4 зл., 2 кашулі - 7 зл., гальштук - 1зл. 19 гр., 2 пары чаравікаў - 18 зл., фуражэрка на 2 гады - 1 зл., рукавіцы зімовыя на 2 гады - 1 зл., шынэль на 4 гады - 6 зл. 13 гр., пас (пендент) - 3 зл., каска коштам у 3 злотыя. Чаравікі выдаваліся ў дадатак ад ботаў. Яны шыліся з халявамі ў 8 цаляў вышыні, абцас вышынёю ў 1 цалю. Поўны мундзір жаўнера каштаваў 38 злотых. Як бачым, пяхоце, як і ў кавалерыі, для пэўных рэчаў агаворваўся тэрмін іхняй службы, па выслузе якога яны замяняліся, астатнія выдаваліся жаўнеру

штогод. З жаўнерскага "ленунга", які складаў 14 злотых на месяц (168 злотых штогод), выдаткоўваліся грошы на ягоную абмундуроўку ды амуніцыю (апрача зброі).

Крой і колеры афіцэрскай курткі практычна не адрозьніваліся ад курткі шэраговага, патрабавалася толькі, каб ззаду, у таліі яна была больш завужана, а зьпераду разыходзілася "але так, каб клапы маглі быць зашпілены, для ўкладаньня наверх пендента і шарфа".

Такія ж самыя, як у шэраговага, ужываліся лейбік і штаны. Паверх прадпісанага чорнага шаўковага гальштука афіцэры ў 1794 г. часта павязвалі белае накрухмаленае жабо, альбо "якабінскі" гальштук, завязаны на адмысловы вузел з доўгімі вострымі канцамі, якія тырчэлі ў розныя бакі.

Шапка ў афіцэраў пяхоты была вельмі падобная на вышэйапісаныя шапкі афіцэраў і таварышаў кавалерыі. Яна была той жа вышыні, але верх шапкі абшываўся ў афіцэраў літоўскай пяхоты сінім сукном. У ніжняй частцы шапка абшывалася "баранкам" - аколышам з каракуля "на 3 цалі вышыні". Канструкцыя верха шапкі, якая надавала ёй чатырохкутную форму, адпавядала канструкцыі кавалерыйскай шапкі. Знутры яна таксама была набіта баваўнай.

Паверх аколыша, шапка абшывалася залатым ці срэбным галунам, што адзначала афіцэрскую годнасьць яе уладальніка. Да аколышы мацавалася белая тканевая кукарда з каралеўскім шыфрам. Часта замест шыфра афіцэры мацавалі на кукарду срэбны кавалерскі крыжык альбо выяву "Пагоні" э жоўтага мэталу. Дадаткова шапка ўпрыгожвалася шнурамі з кісьцямі.

Афіцэры пяхоты насілі па адным эпалеце, колерам, адпавядаўшым колеру прыборнага мэталу. На эпалеце месьціўся знак паводле чыну штаб - альбо обэрафіцэра. Знакі афіцэрскага чыну былі наступныя: чатыры папярэчныя паскі - шэф палка, тры паскі - паўкоўнік, дзве паскі - падпаўкоўнік, адна паска - майор. Капітан насіў на эпалеце 4 зоркі, паручнік - 3, падпаручнік - 2, харунжы - 1.

Пендэнт насіўся пад афіцэрскім шарфам і рабіўся з шоўкавай

цесьмы, затканай срэбнай альбо залатой ніткай, а па краях у колеры вылогаў паўка. У колеры мэталу паўка была выканана клямра - спражка да пендэнта, згодна з гэтым жа колерам і шабля ў афіцэра была апраўлена ў медзь альбо ў жалеза. Як і ў кавалерыі, афіцэрам пяхоты была дазволена апранаць паверх курткі капоту, якая шылася з цёмна-сіняга сукна, з каўнерам і манжэтамі у колерах вылогаў паўка. Капота зашпільвалася на гузікі і даўжынёй была "да паў-нагі". Пендэнт апранаўся паверх капоты.

У рэчышчы вайсковых рэформаў Чатырохгадовага сойму, паўкі пяхоты павінны былі займець асобныя роты стральцоў ці "егераў" - трапных стралкоў, якія былі ўзброены наразнымі штуцарамі і дзейнічалі рассыпным шыхтом. Але сіл й гроша на гэта не ставала і 20 красавіка 1791 г. Камісыя Вайсковая пастанавіла, каб кожнай роце было нададзена па 15 стральцоў з адным унтэр-афі- цэрам. Усяго ў пяхотным паўку трохбатальённага складу павінна было быць 120 стральцоў пры 8 унтэр-афіцэрах. Для стральцоў у 1781 г. была складзена інструкцыя з 12 пунктаў, дзе рабіўся асаблівы націск на індывідуальную падрыхтоўку кожнага стральца, каб дасягнуць належнага ўзроўню агнявой і фізічнай падрыхтоўкі. Набіралі стральцоў сярод абвучаных і дасьведчаных жаўнераў, якія вызначаліся трапнай стральбой. Разам з тым патрабавалася, каб кандыдаты ў стральцы мелі добрае здароўе, былі сярэднягя роста "лёгкія, жвавыя і спрытныя". У стральцы бралі ў асноўным былых паляўнічых, у Польшы - курпаў і мазураў, а на Літве - паляшукоў. У інструкцыі сярод шматлікіх задач, якія клаліся на плечы стральцоў, адзначалася, што тыя павінны: "скалы і горы пераадольваць, на вал ці бруствар на бягу ўзьбі- рацца, як у лесе і зараслях, альбо ў іншых мейсцах патрулі чыніць, за дрэвам, плотам, фосам, пагоркам укрывацца, з мейсц тых жа да заслоны сабе абраных, скрытна да іншых перасоўвацца". Адпаведна гэтым задачам уводзілася і форма для стральцоў. Іх апранулі ў зялёныя курткі і штаны, якія цяжэй было заўважыць у лесе. Кроем мундуры стральцоў не адрозьніваліся ад мундураў

звычайнай пяхоты. Колер вылогаў на куртках і лампасаў на штанах, а таксама колер выборнага мэталу адпавядаў колерам таго паўку, у склад якога ўваходзілі стральцы. Замест пяхотнай каскі шэраговыя стральцы атрымалі чорныя капялюшы з шырокім крысом - “рондам”, абшытыя па тулі гарунам у колеры прыборнага мэталу. Левы бок крыса звычайна загінаўся і прышпільваўся да тульі з дапамогай тканёвай какарды, упрыгожанай кіткай з белага конскага воласу. Падобныя капяюшы карысталіся ў 1794 г. вялікай папулярнасьцю ня толькі ў рэгулярных частках пяхоты, але й ў артылерыстаў, але асабліва яе ўпадабалі паўстанцкія стралецкія атрады і жаўнеры міліцыі асобных паветаў й гарадоў.

Уся амуніцыя - “ледэрверк” у стральца была зроблена з чонай скуры, каб тая ня кідалася ў вочы. Зьпераду на пендэнце мацаваўся доўгі скураны патранташ, прыкрыты зверху шырокім кляпанам, засьцерагаўшым набоі ад дажджу. Унтэр-афіцэры і афіцэры стральцоў атрымалі высокія ківеры з брылькам, упрыгожаныя па ніжняй частцы залатым ці срэбным галунам. Да ківера мацавалася какарда з кіткай. На пярэдняй частцы ківера, як і ў шэраговага стральца на капялюшы вісеў белы віты шнур.

14 кастрычніка 1789 г. Камісыя Вайсковая выдала расклад па паўкавой і ротнай амуніцыі, разлічыўшы яе на запланаванаю колькасьць паўка двухбатальённага складу (батальён - 725 чалавек) у 1394 шэраговых і унтэр-афіцэраў. У паўкавы набор рыштунку павінны былі ўваходзіць рэчы, разьлічаныя на 9-ці і 18-гадавы тэрмін ужываньня. У скдад рэчаў, разьлічаных на 9-гадовую выслугу ўваходзілі: 1394 пендэнта - па 6 злотых за штуку, 24 паса для бубнаў - па 5 зл., 1280 флінтпасаў (рамянёў для стрэльбаў) і фандэклаў (скураных чахлоўдля стрэльбаў) - па 3 зл., 1494 тарністраў - па 5 зл. У склад рэчаў, разьлічаных на 18 гадоў уваходзілі: 88 унтэр-афіцэрскіх лядунак - па 12 зл., 1248 жаўнерскіх лядунак - па 18 зл., 1394 цесакі па 12 зл., 24 паўкавых - па 90 зл., 16 сякераў і цяслярскіх фартухаў - па 32 зл. У склад палявога рыштунку для кожнай роты ўваходзілі:

намёты для ротнай варты , агнявой варты і лазарэту - 3 шт., жаўнерскія намёты - 18шт., кацялкі па адным на 4 жаўнеры, флягі бляшаныя - па адной на кожнага, чахлы на зброю, харугаўкі фуражэрныя для абазначэньня ротнага абозу, абозныя коўдры па адной на жаўнера і шанцавае начыньне. Тады ж Камісыя Вайсковая загадала паводле гэтага раскладу выплочваць ленунг - месячнае жалаваньне жаўнера, і таксама аплочваць розныя паўкавыя выдаткі. Зь ленунга, які складаў 14 зл. штомесяц, выдаткоўваліся грошы на розныя бягучыя патрэбы - на "прымундурак" (штаны, боты й бялізну), рамонт зброі, ротны посуд і рыштунак. На шматгадовыя патрэбы, як то, на зброю, ледэрверк, вялікі мундур (куртку, зімовыя штаны, каску), шынялі, грошы загадана было "пры штабах у касах рэгіментовых перахоўваць, да часу патрэбы, пад 3-мя ключамі".

Гвардыя Вялікага Княства Літоўскага як конная так і пешая,захавала пад час рэформаў 1785-1791гг. сваеасаблівы мундур, які розьніўся кроем і колерамі ад іншых частак пяхоты і кавалерыі Вялікага Княства. Поўк Літоўскай коннай гвардыі пасьля скасаваньня ў 1775 г. 3-х драгунскіх паўкоў, застаўся адзіным паўком конніцы ВКЛ , апранутым у мундуры дарэформэннага крою. Гвардзейцы працягвалі ўжываць старую драгунскую форму, але чырвонага колеру - колеру гвардыі. Шэраговыя насілі чырвоныя мундуры, двухкутныя капялюшы - "бікорны", парыкі, ужывалі ласіны - вузкія штаны з добра вырабленай, фарбаванай у белы колер ласёвай скуры, вельмі зручныя для верхавой язды. Як адзінка прыналежнасці да драгунаў, засталіся высокія батфорты з чорнай скуры й крагі - пальчаткі з раструбамі, пашытыя са сьветлай замшы. Капялюшы ў шэраговых былі абшытыя жоўтым галунам. Афіцэры коннай гвардыі насілі чырвоны мундур без лацканаў, з высокім адкладным каўнерам і манжэтамі блакітнага колеру, з двумя эпалетамі залацістага колеру. Афіцэры, як і шэраговыя, ужывалі парыкі і бікорны, насілі ласіны ,батфорты й крагі. Рэгімент першай гвардыі літоўскай таксама заставаўся ў мундурах, вытрыманых у агульнаэўрапейскіх канонах. Афіцэры і жаўнеры

ўжывалі чорныя капялюшы - бікорны і парыкі. Грэнадзёрская рота паўка першай гвардыі (адзіная такая рота ў войску ВКЛ), насіла высокія шапкі, абшытыя мехам, з высокай мэталічнай пласьцінай зь пераду, якая была ўпрыгожана выбітым каралеўскім шыфрам. Жаўнеры і афіцэры насілі чырвоныя мундуры зь сінімі вылогамі й стаячым каўнерам. Шэраговыя мелі два цёмна-сініх суконных пагона, афіцэры - два жоўтых эпалета. Дадаткова адзнакай афіцэрскай годнасьці быў "рынграф" - мэталічная пласьціна, у форме маладзіка, упрыгожаная каралеўскім шыфрам. Рынграф насілі на грудзях і ён адзначаў прыналежнасьць уладальніка да афіцэраў гвардыі. Цікавым элементам мундура гвардзейца былі цёмна-сінія штаны, якія ўпрыгожваліся адмысловай аздобай з жоўтага шнура, што рабіла гвардзейцаў падобнымі на венгерскіх гусараў.

У форме старога пакрою засталіся 4 харугвы т.зв. "венгерскай" пяхоты. Сама назва з`яўлялася рудыментам з XYI-XYII ст.ст., калі ў войску ВКЛ пэўную ролю адыгрывалі пяхотныя роты, набраныя з мад`яраў і валахаў (жыхароў часткі сучаснай Румыніі). З пачатку 17 ст. венгерскія пяхотныя харугвы вербаваліся з ураджэнцаў ВКЛ, але вопратку ды ўзбраеньне мелі паводле мад`ярскага ўзору. З пачатку 18 ст. гэтыя харугвы апраналіся і ўзброіваліся, як і ўся пяхота ВКЛ, па саксонскім ўзоры. Мундур падобнага ж крою блакітна-шэрага колеру з чырвонымі вылогамі, яны захавалі да 1794 году.

Такімі ж фармаваньнямі пяхоты, якія выконвалі функцыі ганаровай варты пры гетманах ВКЛ, былі янычарскія харугвы. Яны былі сфармаваныя на ўзор турэцкіх янычараў - адборнай турэцкай пяхоты. Жаўнеры гэтых харугваў насілі высокія янычарскія шапкі са зьвісаючым назад тканевым шлыкам. Афіцэры й жаўнеры насілі з чырвонага сукна з кароткімі рукавамі, якія апраналіся на доўгі белы жупан. Куртка афіцэраў была ўпрыгожана эпалетамі і пятлі цамі зь кісткамі і дадатковай залацістай акаёмкай па краю чорнай абшыўкі. На ногі апраналіся шырокія шаравары чырвонага сукна і боты з жоўтай скуры ўафіцэраў і чорныя ў жаўнераў. Галаўным уборам у афіцэраў

3. Зак. 5181.

янычарскіх харугваў была высокая чырвоная шапка, вакол якой намотвалася белая чалма, упрыгожаная белай кіткай.

Артылерысты войска Вялікага Княства з 1789 г. насілі мундуры аналагічныя кроем мундурам пяхоты. Колерамі артылерыі былі пры цёмна-зялёным мундуры чорныя каўнеры, лацканы, манжэты і лампасы на штанах.

Як і пяхота, артылерысты апраналі пад куртку белы лейбік. Апрача зімовых суконных штаноў зялёнага колеру з чорнымі лампасамі, артылерысты ўжывалі белыя палатняныя штаны, якія запраўляліся ў боты. Ролю галаўнога ўбору выконвала каска, вельмі падобная на пяхотную. Наперадзе каскі, над брыльком, меўся латунны паясок "кшталту галуна", над якім бамбардзіры насілі мэталічную эмблему палаючай бомбы, а кананіры - у выглядзе дзьвух скрыжаваных гарматных руляў. Тыя ж элементы аздобы былі паўтораны на лядунках. Кітка на касках была зроблена з чорнага конскага воласу й мацавалася зь левага боку круглай мэталічнай кукардай. Колер прыборнага мэталу быў для ўсіх чынаў артылерыі ВКЛ вызначаны як жоўты ці залацісты. Афіцэры артылерыі адрозьніваліся ад ніжніх чыноў шарфамі. На каске ў афіцэраў мацавалася пры дапамозе белай тканёвай какарды, блая ніткай і белы шнур. Рамень для лядункі быў чорны. Як і ў пяхоце, афіцэрам-артылерыстам было дазволена апранаць паверх курткі капоту зялёнага сукна з жоўтымі гузікамі, чорным каўнерам і манжэтамі. Замест каскі афіцэры часта ўжывалі шапку - "рогатувку", аналагічную кроем шапкам афіцэраў кавалерыі й пяхоты, але зь верхам, абшытым чорным аксамітам. Пад час паўстаньня 1794 г. усе чыны артылерыі ВКЛ шырока ўжывалі чорныя фетраваныя капялюшы з шырокім крысам - "рондам", загнутым зь левага боку, накшталт тых, якія ўжываліся ў стральцоў.

Нешматлікі корпус літоўскіх інжынэраў ужываў мундур, аднолькавы кроем і колерамі з мундурамі артылерыстаў. На касках шэраговых - сапёраў мелася выява ў выглядзе скрыжаванай сякеры й рыдлёўкі. Штабныя і старэйшыя афіцэры інжынэрных войскаў насілі парадныя мундуры сьветла-зялёнага

колеру з чорнымі аксамітнымі вылогамі. Да параднага мундуру ўжываліся белыя штаны, якія насіліся навыпуск паверх ботаў. Капота, якую насі- лі афіцэры, была зялёнага колеру, даўжынёю да каленаў. На галаве вайсковыя інжынеры насілі афіцэрскую шапку, такую як у кавалерыі й пяхоце, з чорным аксамітным верхам з аколышам "сі- вога баранку", да якога мацавалася белая кукарда зь белай ніткай.

Генеральскі мундур новага крою быў прыняты ў 1789 г. У агульным крої ён не адрозьніваўся ад афіцэрскіх мундураў, прынятых у 1785 - 91 гг. Куртка генералаў мела цёмна-чырвоныя вылогі з адзнакамі генеральскага чыну была вышыўка ў выглядзе хвалістай перавітай стужкі (усталяванай яшчэ на мундуры старога крою прыказам Дэпартаманту Вайсковага за 23 жніўня 1785г.), якая змяшчалася на каўнеры ды на манжэтах рукавоў. Генерал-майор меў вышыўку ў адну стужку, генерал-лейтэнант - у дзве. Такія ж стужкі меліся на генеральскіх шапках, вышэй аколыша. Генералам войска Вялікага Княства належала ўжываць стужку залацістага колеру. Генеральскія шапкі былі аднолькавага крою з афіцэрскімі, толькі верх абшываўся блакітным аксамітам. Пад парадны мундур апраналіся чырвоныя штаны з залатымі лампасамі, штаны насіліся паверх ботаў. У склад палявога генеральскага мундуру ўваходзілі шэрыя находныя штаны, падшытыя скурай, для верхавой язды й такія ж, але цёмна-чырвоныя з сінімі лампасамі. Па-за службай генералы насілі шапку з цёмна-сінім мяккім верхам бяз стужак, куртку з чырвонымі, таксама без адзнакаў генеральскага чыну, і чырвоныя штаны з вузкімі залацістымі лампасамі. Да так званага "малога" мундуру апраналі белыя палатняныя штаны, якія запраўляліся ў боты. Апрача таго мелася і так званая "бальная" генеральская форма, якая ўжывалася пад час палацавых прыёмаў і дзяржаўных урачыстасьцяў. Гэта была папросту генеральская форма старога (да 1789 г.) крою. Яна складалася зь сіняга доўгага мундуру , з вышытымі каўнерамі й манжэтамі, кароткіх белых штаноў, з панчохамі й чаравікамі. Парык і чорны трохкутны капялюш, абшыты па верхнім краі белым ворсам, дапаўнялі

гэта палацава-прыдворнае аблічча генерала.

Генералы артылерыі й корпуса інжынераў насілі на галаве чорны капялюш з шырокім крысам, падгорнуты з левага боку. На ім месьцілася белая тканевая кукарда й высокая чорная кітка. Тулья капалюша была абшыта па нізу шырокім залатым галунам. Цёмна-зялёная куртка з чорнымі вылогамі была ўпрыгожана па каўнеры ды манжэтах залатой хвалістай стужкай (адной у генерал-мойора і двумя ў генерал-лейтенанта). Эпалеты, як і колер усяго прыборнага мэталу, былі залацістага колеру, на зялёныя штаны нашываліся падвоеныя чорныя лампасы.

Але сярод генералаў войска Вялікага Княства , асабліва кавалерыйскіх, заставалася шмат прыхільнікаў старых "кунтушовых" убораў. У такім выпадку, каўнеры ды манжэты кунтушоў, пашытых у мундурных колерах ( сінім з чырвонымі вылогамі), упрыгожваліся генеральскімі адзнакамі - хвалістымі стужкамі.

Увесь пашыў мундураў, ботаў ды шынялёў адбываўся на мейсцах кватараваньня вайсковых частак. 23 красавіка 1790 г. Камісыяй Вайсковай была падлічана неабходная колькасьць сукна, неабходная для пашыву новай формы для літоўскіх паўкоў. Сукно на мундуры закупалася па сярэднім кошце 3 злотых 15 грошаў за локаць. З 7-мі мануфактураў у Рэчы Паспалітай, якія пастаўлялі сукно для войска, дзьве знаходзіліся на тэрыторыі Вялікага Княства. Гэта былі гародзенская мануфактура, закладзеная яшчэ гародзенскім старастам Антоніям Тызэнгаўзам і мануфактура ў мястэчцы Новы Двор. Шмат сукна закупалася ў Данцыгу, Прусіі, Саксоніі. Але сукна катастрафічна не хапала, асабліва калі былі набраны рэкруты для ўкамплектаваньня пяхотных паўкоў другіх батальёнаў. 29 кастрычніка 1790 г. Камісыя Вайсковая надрукавала адозву да мануфактур, асобных рамесьнікаў і купцоў з заклікам, каб тыя зьярталіся ў Камісыю са сваімі прапановамі. Часам шэфы паўкоў ці паўкоўнікі абмундуроўвалі нованабраных жаўнераў для 2-гіх батальёнаў за ўласны кошт.

Ледэрверк і ратная амуніцыя таксама замаўляліся на мейсцы,

іх выраблялі часьцей за ўсё мястэчковыя рамесьнікі па прадстаўленых мадэлях.

Падчас паўстаньня 1794 г. справамі забясьпячэньня войска займаўся Вайскавы Камісарыят, а надалей Аддзел Вайсковых Патрэбаў Найвышэйшай Народнай Рады. Праблему забясьпячэньня войска мундурамі намагаўся вырашыць Дэпартамант абмундураваньня ды палявых рэквізітаў. Галоўнай задачай дэпартаманта было здабываньне патрэбных для вырабу абмундураваньня матэр'ялаў, перш за ўсё фарбаванага сукна, палатна й скуры. Выраб неабходных элементаў абмундураваньня Дэпартамант зьдзейсняў, абапіраючыся на варштаты рамесьнікаў. У гэтых жа мэтах урад загадаў канфіскаваць мануфактуры Патоцкага й Якубовіча і пашырыць на іх вытворчасьць, а таксама разьмясціць вялікія замовы на выраб сукна на шасьці іншых вялікіх мануфактурах, у тым ліку на мануфактурах у Горадні ды Новым Двары. Але ў хуткім часе пачаў адчувацца недахоп фарбавальнікаў для сукна. Таму часам новаўтвораныя батальёны пяхоты апраналіся ў мундуры зь нефарбаванага сукна, не заўжды нават з каляровымі вылогамі. Калі пачалася падрыхтоўка да восеньскіх баёў у жніўні 1794 г. былі ўведзены кантрыбуцыйныя меры й рэквізіцыі ўсялякіх запасаў сукна, нягледзячы на ягоны колер. Рэквізавалася таксама палатно на кашулі, чэхцеры й падшыўкі. Ужо ў чэрвені праводзіліся рэквізіцыі палатна на бялізну, намёты ды іншыя вайсковыя патрэбы. Уся гэтая разнастайнасьць здабытых з розных крыніц матэр'ялаў безумоўна ўплывала на стракатасьць жаўнерскіх мундураў.

Сам начальнік паўстаньня 26 мая 1794 г. выдаў загад, у якім патрабавалася "ва абмундураваньні жаўнера не намагацца дасягнуць аднастайнасці ...апранаць жаўнера, ак найтаньней, як найвыгадней дзеля ягонага здароўя". Гэты прыказ начальніка аргумэнтаваўся наплываючымі рапартамі камандзіраў вайсковых частак аб жахлівым становішчы ў стане абмундураваньня. У восені 1794 г. асабліва роспачныя рапарты прыходзілі ад камандзіраў літоўскіх рэгулярных паўкоў ды паўстанцкіх аддзелаў. Літоўскі жаўнер на гэты момант у большасьці быў

апранут у летнюю форму без шынялёў, "а да таго галодны, варты шкадаваньня, няпэўна на такога жаўнера Бацькаўшчына спадзявацца можа". Пяхотныя роты практычна ня мелі належачых ім намётаў ротнага рыштунку і начыньня. У ліпені 1794 г. Касьцюшка выдаў загад "каб з сукна хлопскага, альбо сярмяг рабіць курткі,аздабляючы іх толькі абшлагамі каляровымі". У восені 1794 г. у справе абмундураваньня ўрад мог разьлічваць толькі на ахвяраваньні і рэквізыцыі. Асноўнымі перашкодамі для забесьпячэньня войска формай былі недахоп грошай на аплату рамесьнікаў, скарачэньне фабрычнай вытворчасі і і нежаданьне купцоў рабіць вайсковыя пастаўкі ў крэдыт. 15 і 17 жніўня 1794 г. былі абвешчаны ўніверсалы Найвышэйшай Народнай Рады, абавязуючыя вайскоўцаў да прымусовага продажу з кожных 5 дымоў 2-х кашуль задарма, адной пары ботаў за 6 зл. і адной сярмягі за 10 злотых. Цяжарам былі абложаны таксама мяшчане , а асобным універсалам яўрэі абавязаны былі даставіць 44000 кашуляў, 22000 кажухоў, 22000 штаноў і 22000 пар ботаў.

У Кавалерыі Нарадовай і паўках Пярэдняй Стражы разнастайнасьць у мундурах дадаткова вынікала з факту "даношваньня" элементаў мундура, пашытых часткова да рэформы 1785 г. альбо да 1791. Разам з тым ужываліся розныя новыя формы, асабліва галаўных убораў, якія стварала нярэдка фантазыя саміх камандзіраў. Вялікая разнастайнасьць убораў панавала ў нованабраных і добраахвотніцкіх фармаваньнях кавалерыі. Пераважаў у іх "новы мундур кавалерыі" - сярмягі, зваўшыяся таксама "гунямі". Сярмягі ў гэтым выпадку абразалі на вышыню кален і з абрэзанага сукна рабіліся высокія, абшытыя пунсовай тканінай каўнеры, а на грудзях - пунсовыя лацканы. З-за недахопу сукна сіняга колеру, шыліся зялёныя курткі й шапкі з зялёным верхам. Паўстанцкая кавалерыя ўжывала й чорныя капялюшы, кшталту стралецкіх, і "пікаваныя" шапкі, абшытыя тканінай розных колераў.

Апрача старых пяхотных паўкоў, недаўкампектаваных і дрэнна забясьпечаных, на тэрыторыі Вялікага Княства было ўтворана

25 паўстанцкіх пешых аддзелаў (конных - 19). У асноўным яны былі ўтвораны па паветах ці ваяводствах у колькасьці ад роты да батальёну. 14 аддзелаў зваліся стралецкімі альбо "атрадамі стральцоў вольных". Батальёны і атрады стральцоў імкнуліся ў меру магчымасьці апранацца ў стралецкі мундур зялёнага колеру й чорныя капялюшы з шырокім крысом, але каляровыя вылогі на куртках мелі толькі асобныя байцы. У большасці стралецкіх аддзелаў пераважалі цывільныя ўборы альбо шытыя з разнастайных тканін курткі вайсковага крою. Напрыклад батальён стральцоў зямлі бельскай быў улетку 1794 бяз ботаў ды мундураў, аніхто ў ім ня меў шынялёў, і толькі ўвосені ён атрымаў трохі патрэбных яму зялёных мундураў ды чорных капялюшаў.

У вялікіх гарадах урадам было дазволена ствараць муніцыпальную міліцыю, якая складалася з мяшчан узростам ад 15 да 50 гадоў. У Вялікім княстве міліцыя была ўтворана ў Вільні і Горадні. Яна арганізоўвалася ў дзесяткі, сотні й тысячы і абмундуроўвалася згодна з існуючымі магчымасьцямі й густамі арганізатараў. У чэрвені 1794 г. Найвышэйшая Нарадовая Рада загадала, каб афіцэры муніцыпальнай міліцыі замест эпалетаў , якія ўжываліся ў рэгулярным войску, насілі суконныя пагоны, на якіх павінны былі знаходзіцца адзнакі функцый, якія яны выконвалі. Начальнікі гарадскіх акругаў (раёнаў) насілі на пагонах літары W.C.N. ("Вольнасьць, Цэласьць, Незалежнасьць"), тысячнікі - лацінскую літару "М", сотнікі - "С", дзесятнікі - "Х". Літары выконваліся з пазалочанай бляхі.

Нямала ва ўсіх аддзелах было рэкруцкіх сярмяг, з-пад якіх выглядалі лапці, у якіх рэкрут быў забраны з хаты. На галовах стракайелі чырвоныя, чорныя, шэрыя й блакітныя "рагатувкі", чорныя капялюшы, магеркі й футраныя шапкі. У народных строях дзейнічалі цэлыя атрады паспалітага рушэньня й тэрытарыяльнай абароны, міліцыі, якую выстаўлялі ваяводствы, паветы й гарады.

Пэўны ўплыў на выгляд жаўнераў 1794 г. зрабіла французская рэвалюцыйная сымболіка. Стральцы часта заторквалі за кукарду

на капялюшы дубовыя ці яловыя галінкі, як сымбаль вольнасьці й надзеі. Паверх чорнага шоўкавага гальштука, прадпісанага статутам , афіцэры павязвалі "якабінскі" гальштук з белай накрухмаленай тканіны, які туга ахопліваў шыю і завязваўся на вузел з вострымі канцамі, якія тырчэлі ў розныя бакі.

У дзень прыняцьця Канстытуцыі 3 мая 1791 г., адзін з яе ініцыятараў Казімір Нестар Сапега, генерал-лейтэнант артылерыі літоўскай, з'явіўся на сойм са сваеасаблівай , вынайдзенай ім самім адзнакай. Яна ўяўляла зь сябе чорную, лакіраванай скуры перавязь, да якой быў прымацаваны срэбны авальны знак з надпісам "Кароль з народам. Народ з каралём!". У той жа дзень з падобнымі знакамі з'явілася яшчэ некалькі літоўскіх дэпутатаў. Падобныя перавязі сталі называць бандальерамі, раней так часам называлі перавязі для лядунак, рамяні для кавалерыйскіх карабінаў. Падчас вайны 1792 г. і паўстаньня 1794 г. афіцэры пачалі насіць на падоўжаных бандальерах, апранутых цераз плячо, шаблі. У часе кампаній 1792 і 1794 гг. на бандальерах (таксама й на рамянях для лядунак) насілі рознага тыпу бляхі і мэдальёны, абвяшчаючы тым вернасьць Начальніку й справе Паўстаньня. Найбольш распаўсюджанай аздобай бандальера былі брошы з выявай прысягаючага Касьцюшкі ды авальныя срэбныя пласьцінкі з надпісамі й лёзунгамі: "Вольнасьць, Цэласьць, Непадлегласьць"; "За Вольнасьць і Айчыну""; "Віват дзень 17/ 18 Апрыліс 1794"; "За начальнікам Касьцюшкай". На аздобных бляхах і кавалерскіх крыжах на шапках рабіліся гравіраваныя надпісы "Сьмерць альбо Перамога за Айчыну". Патрыятычная моладзь рабіла на пласьцінах бандальераў надпісы "Вольнасьць альбо Сьмерць"; "Роўнасьць, Вольнасьць"; "Адзінства і Незалежнасьць"; "За Права і Вольнасьць". Шмат на якіх з гэтых блях былі выгравіраваны выявы Касьцюшкі.

Вышэйшыя вайсковыя чыны Вялікага Княства Літоўскага, асбліва тыя, якія пачыналі службу ў 60-я гады XYIIIст., часта былі ўзнагароджаны ардэнамі Белага Арла і Сьвятога Станіслава. Ордэн Белага Арла быў утвораны ў 1705 г. каралём Аўгустам II Сасам і меў у XYIII ст. адну ступень, адзнакамі якой былі

чырвоны кавалерскі крыж з накладзенай на яго выявай белага арла і васьміканцовую залатую зорку з выявай таго ж крыжу. Крыж насіўся на цёмна-сіняй стужцы празь левае плячо, а зорка месьці- лася зьлева на грудзях. Для кавалраў ордэну шыліся адмысловыя "ордэровыя" кунтушы, упрыгожаныя вытканай на грудзях зоркай ордэну. Такія тканыя золатам зоркі рабіліся на Гарадзенскай мануфактуры Антонія Тызэнгаўза. Ордэн быў моцна скампрамэтаваны ў вачах тагачаснай грамадзкасьці, паколькі літаральна набываўся за грошы ды раздорваўся фаварытам і замежнікам. Другі ордэн Рэчы Паспалітай, якім былі ўзнагароджаны шмат якія літоўскія вайскоўцы, быў ордэн Сьвятога Станіслава. Ён быў усталяваны 7 мая 1765 г. каралём Станіславам Аўгустам у гонар ягонага патрона Св. Станіслава. Знакамі ордэна былі залаты крыж пад чырвонай эмаллю і срэбная васьміканцовая зорка. Кожны з чатырох канцоў крыжа быў падзены надвое і меў на заканчэньнях залатыя шарыкі. Крыж насіўся праз плячо, на стужцы чырвонога колеру зь белай акантоўкай. Зорка ордэна насілася на левым баку грудзей і мела ў сярэдзіне вензель Св. Станіслава, абведзены зялёнай палоскай з дэвізам ордэна. Гэты ордэн спасьцігнуў той жа лёс, што і ордэн Белага Арла. У некатоыя моманты ягоны кошт вагаўся ад 95 да 160 чырвоных, вядома пры наяўнасці ў пакупні- ка пратэкцыі ў двары ці ў сойме. Адзінай сапраўднай вайчковай узнагародай Рэчы Паспалітай да 1792 г. можна лічыць срэбны мэдаль, якім узнагароджваліся лепшыя выпускнікі Варшаўскага Кадэцкага Корпуса ды Рыцарскай школы) за выдатныя посьпехі ў навучаньні. З аднаго боку мэдаль меў выяву каралуўскага шыфра пад каронай, аблямяваны лаўровым вянком, з другога - надпіс на лаціне "Diligentia" - "Рупліваму" у аблямоўцы дубовага вянку. Падобным медалём былі ўзнагароджаны Тадэвуш Касьцюшка, Якуб Ялінскі, Юл'ян Урсун Нямцэвіч і некаторыя іншыя выпускнікі Корпусу - ураджэнцы Літвы, якія ў 1794 г. сталі на чале Паўстання.

Першым сапраўдным баявым ордэнам Рэчы Паспалітай, а значыць і Вялікага Княства Літоўскага зрабіўся ордэн "Віртуці

Мілітары", гісторыя ўзьнікненьня каторага непасрэдна зьвязана з вайной у абарону Канстытуцыі 3 мая, якая запалала ў 1792 г. Рашэньне аб усталяваньні "Вайсковых мэдалёў" было прынята каралём у першай дэкадзе чэрвеня 1792 г., на пачатку кампаніі. Першыя ўзоры ордэну былі выкананы варшаўскай майстэрняй 15 чэрвеня. 2 чэрвеня ў лісьце да князя Юзафа Панятоўскага, камандуючага каронай украінскай дывізіяй, кароль пісаў: "Прыйшло мне на розум пераслаць Табе узоры авальных мэдалёў, на якіх з аднаго боку будзе зьмешчана маё імя, а зь іншага надпіс "Virtuti Militari"... Будуць гэта мэдалі срэбныя для шэраговых і залатыя для афіцэраў", Кароль ня быў яшчэ ўпэўнны, ці будзе новы ордэн мець свой статут, ці гэта будзе памятны мэдаль, выданы ўсім удзельнікам кампаніі. Лёс ордэна вырашыла перамога пад Зеленцамі 18 чэрвеня 1792 г. Украінская дывізія пад камандаваньнем князя Панятоўскага разбіла тады групу расейскіх войскаў пад кіраўніцтвам генерала Кахоўскага. Гэта перамога не была рашаючай для хода вайны, але мела вялікае прапагандыскае значэньне. У сваім рапарце пра бітву князь Панятоўскі пажадаў як мага хутчэй увесьці новы ордэн, бо гэта магло зрабіць вялікі ўплыў на баявы дух войска. 22 чэрвеня кароль выслаў да Панятоўскага 20 залатых медалёў і пажадаў, каб тыя насіліся на стужцы тых жа колераў, як і ордэн Святога Станіслава. Было распачата далейшае адбіваньне ардэноў. Залатыя мэдалі выбіваліся ў Варшаве да канца жніўня 1792 г. Медалі - залаты і срэбны, мелі авальную форму ()42,8-32,2 мм). На галоўным баку зьмяшчалася каралеўская манаграма SAR (Stanislaus Augustus Rex), увенчаная каралеўскай каронай, пад ёй дзве скрыжаваныя пальмавыя галінкі, перавітыя стужкай. На адваротным баку - двухрадковы надпіс "Virtuti Militari" (Гонару Вайсковаму), пад ім дзьве пальмавыя галінкі, як і на першым бак. Тады ж афіцэры, узнагароджаныя мэдалём, пачалі перарабляць яго сваім коштам на крыж. Вопіс крыжу з'явіўся ў патэнце, які атрымалі пазней узнагароджаныя крыжом. Выгляд яго быў наступны: галоўны бок - залаты крыж, пакрыты чорнай эмаллю, у зялёнаэмаліраваным лаўровым вянку, у сярэдзіне,

белаэмаліраваны арол на залатым фоне, на рамёнах арла - залаты надпіс “Virtuti Militari”. Адваротны бок - залаты, на канцах крыжа гравіраваныя літары SARP (Stanislaus Augustus Rex Poloniae), у сярэдзіне ў зялёным вянку цёмнаэмаліраваная Літоўская Пагоня, пад ёй дата “1792”. У хуткім часе быў распрацаваны статут ордэна, паводле якога ён надаваўся за заслугі на полі бітваў, у сутычках з ворагам, згодна з дывізам: “Гонару Вайсковаму”. Прычынай узнагароджаньня маглі быць толькі баявыя заслугі. Не маглі атрымаць нават тыя, хто меў вялікія заслугі ў справе арганізацыі войска, але не заслужыў яго ў бітве. Крыж не магчыма было атрымаць аўтаматычна, як вайсковыя ордэны ў іншых дзяржавах, за выслугу пэўнай колькасьці гадоў у войску. Статут ордэна абумоўліваў, што крыж атрымаюць тыя, хто “ня толькі выканаў як належыць свае абавязкі, як ім наказываў гонар і доўг, але вызначыўся канкрэтным учынкам, які сьведчыў аб іх сэрцы, альбо таксама ня толькі падалі карысную для ходу вайсковых дзеяньняў параду, але дапамагалі яе выкананьню сваёй выдатнай мужнасьцю”. Ад узнагароджаных патрабавалі “цвёрдага характару й маральнасці”.

Крыж, акрамя афіцэраў, маглі атрымаць таксама шэраговыя (два апошніх класы). Статут акрэсліў падзел крыжа на 5 клясаў: 1) Вялікі Крыж, 2) Камандорскі Крыж, 3) Кавалерскі Крыж, 4) Залаты Крыж, 5) Срэбны Крыж. Крыжы прызначаны былі для нашэньня на блакітнай стужцы з чорнай акантоўкай. Да Вялікага Крыжа дадавалася шасціканцовая срэбная зорка. Статут не абмяжоўваў колькасьць узнагароджаных. Гадавы бюджэт ордэна складаў 300000 злотых. Для узнагароджаных Вялікім Крыжом прызначалася 5 пажыцьцёвых рэнт сумай у 200000 зл., для Камандораў - 20 рэнт па 2000 зл., для Кавалераў - 100 рэнт па 1000 зл. Апошнія рэнты былі прызначаны для першых па чарговасьці ўзнагароджаньня кавалераў. Кавалеры ордэна - шэраговыя жаўнеры, адзначаныя Залатым Крыжом, атрымоўвалі падчас службы падвоенае жалаваньне, былі эволены ад цялесных пакараньняў ды адсіжвалі арышт у “афіцэрскай ізбе”. У выпадку сьмерці кавалера, ягоная сям`я павінна была вярнуць ордэн у

канцылярыю капітула ордэна. Афіцэры, узнагароджаныя падчас вайны 1792 г. залатымі мэдалямі, атрымалі Кавалерскія Крыжы. Першым сярод узнагароджаных быў сам кн. Панятоўскі. Але жаўнераў, якія заслужылі ўзнагароды, было значна болей, чым зробленых медалёў. Нават свой уласны медаль князь аддаў аднаму афіцэру, які, па ягоным меркаваньні, заслужыў узнагароду. Камандорскі Крыж быў прызнаны толькі за князем Панятоўскім, за бітву пад Зеленцамі. Агульная лічба ўзнагароджаных склала 526 асобаў (1 - Крыжам Камандорскім, 86 - Кавалерскім Крыжам, 439 - Срэбным Крыжам).

Статут ордэна быў прыняты ў момант, калі Таргавіцкая канфедэрацыя, абвесьціўшы сваю ўладу над войскам, выдала першы ўніверсал супраць "бунтаўнічых знакаў". Згодна зь ім зьнішчаліся патэнты й знакі ордэна. Супраць ганебных універсалаў Канфэдэрацыі выступілі Касьцюшка ды іншыя баявыя афіцэры войска. Князь Еўстафій Сангушка ордэн "на злосьць у тры разы больш заказаў адліць ды насіў яго, выклікаючы жадаючых адняць у яго гэту ўзнагароду". нарэшце, у апошні дзень (23 лістапада 1793 г.) сэсіі Гарадзенскага сойму большасцю галасоў пастановы Канфэдэрацыі былі скасаваныя. Тады Рада Няспынная ў сваю чаргу скасавала пастанову сойма. Гэто было бяспрэцэдэнтнае парушэньне законаў Рэчы Паспалітай. Юры Белапятровіч - сябра Камісыі Вайсковай ВКЛ 28 сакавіка 1794 г. засьведчыў ад імя Камісыі, што распараджэньне пра скасаваньне ордэна ў Вялікім Княстве Літоўскім ня будзе прызнана, як супрацьзаконнае.

Падчас Паўстаньня 1794 г. Тадэвуш Касьцюшка ня прыняў ад Станіслава Аўгуста прысланыя тым 130 ардэноў. Замест ордэну начальнік узнагароджваў герояў залатымі пярсьцёнкамі з надпісам "Айчына - свайму абаронцы". Але кавалеры ордэна працягвалі насіць Крыжы. Ордэн застаўся самай папулярнай узнагародай у войску Паўстаньня 1794 г., як заслужаная адзнака мужнасьці ў баі і адданасьці Бацькаўшчыне.

ГЛАВА 3.

# УЗБРАЕНЬНЕ КАВАЛЕРЫІ ВОЙСКА ВКЛ

Ужо ў сярэдзіне 18 стагоддзя кавалерыя Рэчы Паспалітай не ўжывала ахоўнага дасьпеха - гусарскіх кірасаў ды кальчугаў у панцэрных. Але захаваўся ранейшы падзел ва ўзбраеньні паводле старой сыстэмы "таварыш - паштовы". "Таварыш біўся кап'ём, якое з цяжкога гусарскага ператварылася ў лягчэйшую піку альбо "спісу" ці "ланчу". Паштовы прыкрываў таварыша агнём з кароткага мушкета, альбо карабіна. Пад час вайсковых рэформаў 80-90 гг. вялікая ўвага надавалася тактыцы коньніцы і адпаведна яе ўзбраеньню. Цяжкасьці з фармаваньнем паўкоў рэгулягнай пехоты, прайяглыя межы ўплывалі на фармаваньне тагачаснай вайсковай дактрыны Рэчы Паспалітай. Паводле яе кавалерыя павінна была дзейнічаць (як і ў 17 ст.), практычна самастойна, як род войскаў, здольны бараніць вялікія абшары дзяржавы, выконваць самыя living rознастайныя баявыя задачы. У 1785 годзе Дэпартамент Вайсковы ўтварыў камісыю па выпрацоўцы "новарэгуляміну" для кавалерыі. З боку Вялікага Княства Літоўскага ў яе склад увайшлі: паручнікі Пузыня, Хлявінскі ды майор Ахматовіч. У ліку праблем, якія разглядала камісыя, было пытаньне пра узбраеньне коньніцы. Пад час працы камісыі было разгледжана 2 варыянты ўзбраеньня. Першы прадугледжваў захаваньне ранейшага ўзбраеньня таварышаў дзідамі ды шаблямі, але паштовых меркавалася ўзброіць карабінамі ды доўгімі прамымі палашамі. Другі варыянт прадугледжваў узброіць коп'ямі і паштовых, зняўшы зь іх узбраеньня карабіны. Частка камісіі настойвала на першым варыяньце ўзбраеньня. Аргументавалася гэта тым, што паштовы ў сваім пахпдзе вязе на сваім кані абозны мех, калкі для намётаў ды іншыя рэчы, ад якіх пазбаўлены шляхціц-таварыш. Кап'ё ў гэтым выпадку будзе толькі замінаць паштоваму, карабін жа патрэбны ў пешым баі, для абароны ў горадзе ці "на грэблі, ці

ў якім іншыя вузкім мейсцы". Кавалерыйскі аддзел, меўшы на ўзбраеньні карабіны, мог бы сам сябе абараніць у любой сытуацыі пад час бою. Узброіўшы жа таварышаў й паштовых дзідамі, трэба было б дадаваць ім асобны атрад, узброены стрэльбамі, патрэбны для выбіваньня праціўніка зь цяснін, абароны ў дамах, утварэньня засадаў, нясеньня варты. Прыхільнікі другога варыянта ўзбраеньня спасылаліся на баявы вопыт прокаў, якія агняпальную зброю ў кавалерыі "толькі як зброю бліжняга бою ўжывалі". Майор Ахматовіч, спасылаючыся на ўласны баявы досьвед удзельніка Сямігадоавй вайны, сьведчыў "... перад сваімі вачамі бачыў на вайне нямецкай сямігадовай, як кавалерыя цяжкая ды лёгкая, дасканала вывучаная, праз таварышаў дзідамі атакаваная, пераможана была, а нават і пяхота, даючы наперад агонь, а потым багінетамі дзіды адбіваючы, ад тых дзід разьбіта была". Галоўнай памылкай тагачасных кіраўні- коў войска Рэчы Паспалітай была стаўка на шматлікую лёгкую кавалерыю, як на дамінуючы й аўтаномны ў баявых дзеяньнях род войск. Але ў XYIII стогоддзі па ўсёй Эўропе кавалерыя адыгрывала ролю дапаможнага інструманта для шматлікай добраабвучанай, узброенай стрэльбамі са штыкамі пяхоты. Кавалерыя прызначалася для флангавых удараў, высяканьня ўцякаючага ворага, здзяйсьняла разьведку ды ахову камунікацыяў. Яна ня выконвала такіх няўласцівых ёй функцыяў, як абарона гарадоў ці ўтварэньне баявых засадаў. У пачатку XIX стагоддзя пад час Напалеонаўскіх войнаў, уланы - тып лёгкай коньніцы, непасрэдна нарадзіўшыся ад Кавалерыі Нарадовай, бліскуча праявілі сябе менавіта атакамі з выкарыстаньнем халоднай зброі - пікаў і шабляў.

Арданансам Дэпартаменту Вайсковага ў 1785 годзе было зацверджана канчаткова ўзбраеньне кавалерыі. Таварыш павінен быў ужываць для бою дзіды, зробленыя паводле адзінай мадэлі. Даўжыня дрэўка ў дзіды вызначалася ў 5 лакцёў (260-27- см), фарбавалася яно ў цёмна-чырвоны колер. Да 1785 гада дрэўцы ў коп'яў у Кавалерыі Нарадовай ды ў Пярэдняй Стражы размалёўваліся дыяганальнымі палосамі (кшталту шлагбаўма)

у два колеры - мундурны ды колер вылогаў. "Харугваўка" - сьцяжок на канцы дзіды, шылася з чырвонага шоўка, пасярэдзіне нашываўся кавалерыйскі (мальтыйскі) крыж белага колеру, па краях аблямаваны сінім. Сама харугаўка была ў 2 лакці даўжынёй і разрэзана пасярэдзіне наўскос, утвараючы "ластаўкін хвост". "Грот" - наканечнік дзіды быў сталёвы, трохграністы, 10 цаляў (25 см) даўжынёй, з двумя жалезнымі палосамі, адыходзячымі ад грота ўніз на 12 цаляў і ўрэзанымі ў дрэва. Гэтыя палосы засьцерагалі дрэўка ал перасяканьня яго варожай шабляй. Да дрэўка, пасярэдзіне, мацаваўся цемляк - пятля для рукі. Унізе дрэўка мацавалася скуранае стрэмяка для ўдзяваньня нагі вершніка, калі кап'ё трымалася вертыкальна. У паўках Пярэдняй Стражы дрэўца кап'я малявалася наўскос сінім і чырвоным. Харугаўка на ім павінна быць двухколернай, сіняй з чырвоным, даўжынёй у 1,5 локця. Грот, цемляк і стрэмячка былі аналагічныя, як і на коп'ях Кавалерыі Нарадовай. Але таварышы часта малявалі кап'ё наўскос і ў брыгадах Кавалерыі Нарадовай, і ня вельмі прытрымліваліся прадпісінага колеру харугавак, ужываючы на іх традыцыйнае спалучэньне колераў сваіх брыгадаў.

Акрамя дзідаў - асноўнай ударнай зброі, таварышы і афіцэры былі ўзброены шаблямі й пісталетамі. У 80-90 гады 18 стагоддзя на змену старым, дзедаўскім і прадзедаўскім "гусарскім" шаблям, з'яўляюцца шаблі новага тыпу. Перш за ўсх зьмянілася аправа рукаяці, якая ахоўвала руку - гарда. Замест скруглхнай у ніжняй частцы, выканай з чарнёнага срэбра альбо пазалочанай, з'яўляецца простая жалезная ці медная гарда, сагнутая двойчы пад простым кутом - так званая "ламаная". З верхняй папярэчыны зьнікае "палух" - скаба пад вялікі палец рукі, якая ўзмацняла ўдар. Замест яго з'яўляецца пляскатая круглая пласціна, дадаткова засьцерагаючая руку.

Гэтыя канструкцыйныя зьмены тлумачыліся вялікай патрэбай у шаблях для ўзрослай колькасьці коньніцы. Гэта і выклікала спрашчэньне канструкцыі ва ўмовах масавай вытворчасці. Старыя, добра гартаваныя, багата ўпрыгожаныя клінкі з доламі

і "малатком" - пашырэньнем ляза каля вастрыя, сатупілі мейсца гладка шліфаваным, простым клінкам. Шаблі новага тыпу былі іначай ураўнаважаны, чым старыя, гусарскія. Сярэдзіна нагі, дзякуючы адсутнасці "малатка", была адсунута бліжэй да рукаяці, што палягчала валоданьне шабляй, але паслабляля сілу ўдара. Шаблі новага тыпу былі разьлічаны на слаба падрыхтаванага жаўнера, які ня меў за плячыма шматвекавой шляхецкай школы шабельнай сечы. Свядома зьніжаючы баявыя вартасьці клінку, значна палягчалі валоданьне ім ў баі. Але рукаяць з гардай новага тыпу часта прыраблялася да старых "прадзедаўскіх клінкоў",бо падобная аправа ў 1792-1794 гадах зрабілася своеасаблівай адзнакай адданасьці ўладальніка шаблі справе канстытуцыі 3 мая. Сам Начальнік Паўстаньня і ягоныя генералы ўжывалі падобныя шаблі, як сьведчаньне сваіх дэмакратычных поглядаў. Самі шаблі падобнага тыпу ў хуткім часе пачалі клікаць "касьцюшкоўцамі". Назва падмацоўвалася выявамі самаго Касьцюшкі, гравіраванымі на клінках шабляў патрыятычна настроеных афіцэраў.

Пісталеты, якія ўжывала кавалерыя, былі прускага ўзору 1740-1786 гадоў, якія былі закуплены Камісыяй Вайсковай на Патсдамскай мануфактуры. Даўжыня пісталета складала 56 см, калібр - 15,5 мм, адлегласьць цэльнага стрэлу - 30 м. Пісталеты звычайна ўжываліся афіцэрамі і таварышамі. Пара пісталетаў захоўвалася ў "ольстрах" - кабурах па баках у пярэдняй лукі сядла. Ольстры ў паходзе прыкрываліся тканевымі чахламі.

Згаданая вышэй дыскусія 1785 года ў Камісыі Вайсковай, скончылася перамогай прыхільнікаў першага варыянту ўзбраеньня паштовых. Яны былі ўзброены карабінамі і палашамі, хаця з-за недахопу апошніх, часта ўжывалі шаблі. Карабіны былі прускай вытворчасці, драгунскія, кірасірскія і гусарскія, узораў 1740, 1786 і 1787 гадоў. Даўжыня іх была 120,5 альбо 130,1 см, калібр - 15,5 і 16,98 мм. Важыла гэта зброя 3,8 кг, страляла на адлегласьць 150 - 180 м.

Акоўкі на ложы для мацаваньня рукі і акоўкі прыклада былі выкананы з латуні. Усе карабіны мелі антабкі і колцы, дзякуючы

якім іх можна было падвешваць на баку, чапляючы да шырокага, перакінутага праз плячо, рамяня флінт-паса, альбо бандальера. Флінтпас у паштовага быў зроблены з ласёвай скуры і пафарбаваны ў белы колер. Часам апрача карабінаў паштовыя мелі пры сабе пару пісталетаў.

Халоднай зброяй паштовага з'яўляўся палаш - сякучая зброя з прамым, завостраным з аднаго боку лязом. Палаш быў зброяй значна прасьцейшай ва ўжываньні, чым шабля. Камісыя Вайсковая ўлічвала, што колькасна ўзросшая кавалерыя будзе мець у сваім складзе шмат слаба абвучаных жаўнераў, асабліва сярод паштовых, якія рэкрутавалісь з простых сялян, ніколі ня трымаўшых у руках шаблі. Палашы й клінкі для іх закупаліся пераважна ў Прусіі, па 24 зл. за штуку. Усяго закуплена было каля 7.000 гатовых палашоў. Асобна было закуплена 12.000 клінкоў, да якіх на мейсцы прырабляліся рукаяці з гардамі таго ж тыпу, што і на шаблях "касьцюшкоўцаў".

Паколькі кожны таварыш заклікаўся на службу з адным паштовым, то ў кожным швадроне першы шэраг, а за ім 3-ці, 5-ты і 7-мы павінны былі мець коп'я. На практыцы выглядала інач̆ай, бо таварыш мог любы момант ад'ехаць са службы, выставіўшы замест сябе ў шыхт двух паштовых, узброеных карабінамі.

Кап'ё таварыша каштавала 18 злотых, палаш паштовага - 22-24 зл., пара пісталетаў - 36 зл., карабін - 29 зл. Аб ступені насычанасьці коньніцы новай агняпальнай зброяй сьведчаць рапарты паўкавых камандзіраў у Камісыю Вайсковую. На 9 чэрвеня 1792 года ў першым паўку Пярэдняй Стражы, шэфам якой з'яўляўся Міхал Кіркор, на 786 чалавек асабовага складу мелася 337 прускіх карабінаў і 293 пісталетаў, 289 палашоў, 8190 набояў для зброі і 213 фунтаў пораху. У 4-м паўку пярэдняй варты, пад шэфоўствам Язэпа Беляка й камандай паўкоўніка Мустафы Ахматовіча, на 611 чалавек прыпадала 264 прускіх карабіна і 120 "старых" карабінаў (магчыма саксонскага ўзору), 308 пісталетаў, 308 палашоў прускай вытворчасьці, 22932 баявых набоя і 385 фунтаў пораху.

4. Зак. 5181.

Пад час паўстаньня 1794 года часта адзінай зброяй кавалерыі з'яўляліся дзіды ды шаблі.

Згодна з поглядам на кавалерыю, як на аўтаномную частку войска, вызначаўся й той рыштунак, які вершнік вазіў на кані. Да сёдлаў на 4 жалезных антабках (адна сьпераду, тры ззаду сядла) мацаваліся ольстры - кабуры для пісталетаў, фуражная торба для сена ды аўса, палатняная торба для хлеба й мяса, скарбніца, шчотка для чыскі каня, сякера, шнур даўжынёю ў 6 сажэняў, "ток" (скураная ўтулка) для завостранага, акутага жалезам, шаста даўжынёй у 1,5 м, прызначанага для мацаваньня намёта. Такім чынам, кавалерыя магла практычна абыйсцціся без абозаў і зьдясьняць хуткія маршы.

У канцы 18 стагоддзя аніводная кавалерыя ў Эўропе, за выключэньнем расейскіх казакаў, ня была ўзброена коп'ямі ці дзідамі. Тып узбраеньня таварыша Кавалерыі Нарадовай - кап'ё з харугаўкай, шабля, як і мундур, перайшлі пасьля падзелаў да суседзяў былой Рэчы Паспалітай разам з часткамі, сфармаванымі з яе ўраджэнцаў. У канцы XYIII - пачатку XIX стагоддзя існавалі польская аўстрыйская гвардыя, поўк Таварышаў прускіх, поўк коннататарскі й коннапольскі ў расейскім войску. Па ўзору гэтых кавалерыстаў, названых уланамі, ва ўсіх арміях Эўропы быў уведзены падобны мундур і тып узбраеньня. Шмат былых камандзі- раў і жаўнераў літоўскай кавалерыі Нарадовай вярнуліся на Радзіму ў складзе арміі Напалеона, у складзе рэгулярных уланскіх паўкоў французскай кавалерыі.

Узбраеньне драгунаў, якія засталіся пасля 1775 года толькі як поўк Літоўскай коннай гвардыі, складалася (у шэраговых) з палаша, пары пісталетаў й карабіна з "багінетам" (штыком). Багінет змяшчаўся ў похвах, прымацаваных да пендэнта, каля похваў палаша. Карабін вісеў на правым плячы драгуна на флінтпасе, альбо быў прытарочаны да сядла. Афіцэры былі ўзброены палашамі з ажурнай пазалочанай гардай, на якой месціўся каралеўскі шыфр - адзнака прыналежнасьці да гвардыі.

ГЛАВА 4.

# УЗБРАЕНЬНЕ ПЯХОТЫ ВОЙСКА ВКЛ

У пачатку 18 стагоддзя пяхота войска Вялікага Княства Літоўскага была ўзброена пераважна швэдскімі й прускімі стрэльбамі з крамнёвым замком і багінетам - прускім мушкетам узору 1701-1713 гадоў і швэдскім узору 1699 года. З 1703 па 1728 год пяхота цалкам вывела з ужытку старыя стрэльбы з кнотавым запалам і з гэтага моманту ў галіне ўзбраеньня стала на адным ўзроўні з заходнеэўрапейскай пяхотай.Стрэльбы зваліся "флінтамі". Яны зараджаліся з дапамогай драўлянага шомпала, з адным працоўным канцом, акутым жалезам. Страляла гэтая зброя на 200 крокаў, але адлегласйю трапнага стрэлу складала 100-150 крокаў. Але ўжо ў 70-я гады 18 стагоддзя падобныя стрэльбы лічыліся састарэлымі, да таго ж рэфармаваньне пяхотных паўкоў патрабавала значна большай колькасьці стрэльбаў з багінетамі. У 1759 годзе ў расейцаў была закуплена вялікая партыя прускіх стрэльбаў,здабытых імі як трафеі пад час сямігадовай вайны, і навялікая колькасьць старых, адслужыўшых тэрмін, расейскіх стрэльбаў.

23 чэрвеня 1777 года Дэпартамент Вайсковы заключыў кантракт з купцамі братамі Рафаловічамі, на дастаўку з Прусіі 4,540 шт. стрэльбаў па 34 злотыя за штуку. Зброя павінна была быць дастаўлена да ліпеня 1778 года. Кожная стрэльба павінна была быць зроблена паводле адзінай мадэлі. Стандарт якасці датычыўся як калібра, так і замкоў, ложа з сухога арэхавага дрэва, спрунжын для атрыманьня шомпала ў ложы, багінетаў на спрунжыннай зашчоўке і іншых частак стрэльбы. Кожны асобнік зброі павінен быў выпрабоўвацца на мейсцы закупкі трымя стрэламі. Пры знаходжаньні, пасля выпрабаваньня, нейкіх дэфектаў, стрэльба выбракоўвалася. Да кожнай стрэльбы дадавалася 12 формаў для ліцьця куль. У кантракце было абумоўлена, каб "жалеза было ў рулях, багінетах, замках добрае. Кожная штука ў замках добрая". Стрэльбы, закупленыя

што высыпаньне пораху на палічку робіцца немагчымым. Даводзілася прачышчаць адтуліну, што займала шмат часу. Нягледзячы на гэта, да пачатку XIX стагоддзя прускія стрэльбы з падобнай сістэмай запалу лічыліся лепшымі ў Эўропе. Стрэльбы ўзору 1750 года мелі даўжыню 1 м 14 см, калібр 17,67 мм і адпаведна важылі 5,24 кг. Стрэльбу ўзору 1780-1782 гадоў мелі адпаведна 1,45 м даўжыні, калібр 17,61 мм і важылі 5 кг. Стрэльбу ўзору 1780-1782 гадоў мелі адпаведна 1,45 м даўжыні, калібр 17,61 мм і важылі 5 кг. Абодва ўзоры мелі гладкія, без нарэзаў рулі, зараджаліся з баку рулі, з дапамогай шомпала 11 грамамі чорнага дымнага пораху і стралялі 31 грамовай куляй на адлегласьць 220 м.

13 чэрвеня 1789 года з Берліна да Варшаўскага арсенала было выпраўлена 14 950 пар пісталетаў і 7646 кавалерыйскіх карабінаў, а 9 ліпеня 15.000 пяхотных стрэльбаў з багінетамі і рэшта карабінаў, якой бракавала ў першым транспарце. 18 ліпеня 1789 года Шулеру быў пасланы загад аб дадатковай замове 6.940 кавалерыйскіх карабінаў. Паўкам быў разасланы ардананс, каб тыя дасылалі да Варшаўскага арсенала кватармайстараў з вазамі для атрыманьня новай зброі. На кожны поўк было выдадзена па 1000 шт. новых прускіх стрэльбаў, пры паўкавых арсеналах было дазволена пакінуць старыя стрэльбы, якія дагэтуль меліся на ўзбраеньні. Усяго было закуплена 15.000 кавалерыйскіх карабінаў па 36 злотых і 15.000 пяхотных стрэльбаў з багінетамі па 45 злотых за штуку. 7 красавіка 1791 года на Патсдамскай мануфактуры было замоўлена яшчэ 7.200 пяхотных стрэльбаў. Князь Курляндзкі, васал Рэчы Паспалітай, ахвяраваў на справу ўзбраеньня войска 4.080 стрэльбаў. Такім чынам была набрана колькасьць агняпальнай зброі, дастатковая, каб узброіць існаваўшую на той момант колькасьць жаўнераў. Але запасу зброі на выпадак павялі- чэньня войска не існавала. Так, паводле паўкавых рапартаў у Камісыю Вайсковую, у пяхотных паўках Вялікага Княства мелася агняпальнай ручной зброі: у 1 паўку (шэф - вялікі гетман літоўскі Міхал Казімір Агінскі, камандзір - паў- коўнік Рымінскі) мелася патсдамскай зброі на камплект

аднаго батальёну (725 чалавек), у 3 паўку шэфа гетмана Людвіка Тышкевіча, пад камандай Ігната Гедройца - поўны камплект патсдамскай зброі на 1 батальён, у 5-м паўку шэфоўства Паўла Грабоўскага, пад камандай паўкоўніка Мацея Франкоўскага мелася 117 расейскіх стрэльбаў вытворчасці Тульскага заводу, і 684 прускія стрэльбы.

У 6-м паўку шэфоўства Ксаверыя Несялоўскага, ваяводы навагрудскага, пад камандай паўкоўніка Казіміра Рушчыца мелася 634 прускіх стрэльбы. У 7-м паўку шэфоўства Казіміра Нестара Сапегі генерала артылерыі літоўскай, пад камандай паўкоўніка Феліцыяна Гаржэнскага меўся камплект патсдамскай зброі ў разліку на 1 батальён. Толькі 8-мы, Радзівілаўскі поўк, пад камандай паўкоўніка Дамініка Дзедзеркі меў 1331 прускую стрэльбу - амаль поўны камплект у разліку на 2 батальёны.

Востры недахоп агняпальнай зброі стаўся прычынай таго, што ў 1794 годзе ня толькі паўстанцкія аддзелы, але і рэгулярныя паўкі пяхоты ВКЛ былі часткова ўзброеныя дзідамі й косамі.

Стральцы ці "егеры" - адборныя стралкі ў пяхоце, былі ўзброеныя штуцарамі - наразной зброяй, прызначанай для трапнай стральбы з вялікай адлегласьці. Дзякуючы нарэзам унутры рулі, куля набывала круцячы момант, што дазваляла дасягнуць адлегласці ўбойнага стрэлу ў 400-500 м. Але нарэзы ўскладнялі зараджаньне штуцара, які саступаў пяхотнай стрэльбе ў хуткастрэльнасьці - адзін стрэл на 3 хвіліны, тады як са стрэльбы з гладкай руляй рабілі 1 стрэл за хвіліну. Вялікую ролю ва ўтварэньні стральцоў, як часткі пяхоты ў войску рэчы Паспалітай, адыграў Тадэвуш Касьцюшка. З уласнага досьведу ўдзельніка вайны за незалежнасьць Злучаных Штатаў ён ведаў, якія страты ворагу могуць нанесьці трапныя стралкі, якія дзейнічаюць разсыпным шыхтам і ўзброеныя наразнымі штуцарамі. Паводле соймавай ухвалы ад 8 кастрычніка 1789 года павінна было быць утворана 4 асобных батальёна стральцоў,потым было вырашана ўтварыць па 1 роце пры кожным рэгіменце. У выніку фінансавых цяжкасцей і недахопу наразной зброі да 1792 года ў пяхотных паўках войска Вялікага

княства Літоўскага кожнай роце было дададзена 15 стральцоў. Яны былі ўзброены пераважна штуцарамі айчыннай канструкцыі. Вытворчасьць падобных штуцараў была наладжана на мануфактуры ў Казеніцах (Польшча), закладзенай каралём у 1788 годзе. Да 1 жніўня 1790 года ў войска было пастаўлена 750 штуцараў, вырабленых на 2-х фабрыках: у Казеніцах і Конскіх. Гэта была зброя даўжынёю 109 см, вагой 3,87 кг. Калібр рулі з 7-ю нарэзамі складаў 16,4 мм. З-за недахопу штуцараў айчыннай вытворчасці, 400 шт. было закуплена на фабрыцы ў Зуле (Саксонія). У інструкцыі, распрацаванай для стральцоў, загадвалася, каб "стрэльбы ці штуцары на левым плячы трымаць, калі ў шыхце парадным, пры іншых чыннасцях вольна, паводле выгоды і ўпадабання". Улічваючы каштоўнасьць наразной зброі, у пункце 12-м інструкцыі патрабавалася, каб "пасля варты стрэльбу на калы ці дрэвы вешаць не павінны, але ў кардэгардыі (памяшканьні для варты - Г.М.) у мейсцу сухім і бясьпечным". Штуцар насіўся на флінпасе з нефарбаванай скуры (флінтпасы ў звычайных пяхотных стрэльбаў былі зробленыя з чорнай альбо бялёнай скуры).

Набой для пяхотнай стрэльбы выглядаў, як папяровая, альбо скручаная з пергаменту ( пад час паўстаньня 1794 года было знішчана шмат старых кнігаў), трубка, у якую зьмяшаліся адмераная колькасьць пораху й валавяная куля. Каб порах не высыпаўся, трубка завязвалася ніткамі з абодвух канцоў. Набоі рабілі самі жаўнеры, атрымоўваючы для гэтага паперу, порах, ніткі і кулі з батальённага арсеналу. Кулі ліліся ў Віленскім арсенале альбо, пад час баявых дзеяньняў у палявых батальённых варштатах, для чаго ў паўку заўсёды меўся запас волаву ў злітках - "сьвіньнях". Пры сабе жаўнер меў у лядунцы ад 25 да 30 гатовых набояў. Для зараджаньня стрэльбы жаўнер скусваў ніжні, завязаны на нітку, канец папяровага набою, каб порах і куля маглі свабодна прыбіцца шомпалам на дно рулі, а частка пораха - высыпацца праз запальную адтуліну на запальную палічку пад час прыбіваньня набою шомпалам. Верхняя частка папяровай трубкі ўтварала пыж - своеасаблівы кляп, які шчыльна

трымаў парахавы зарад і кулю ў рулі.

Пад час абвучэньня залпавай стральбе "плутонамі" (узвадамі) жаўнер выконваў наступныя 13 камандаў: 1) Зброю да гары 2) Адвядзі курок 3) Прыкладзіся (цэлься - Г.М.) 4) Палі 5) Курок на сваё мейсца 6) Дастань набой 7) Адкрый набой (па гэтай камандзе жаўнер скусваў зубамі ніжнюю частку набоя) 8) Падсып на палічку 9) Замкні палічку 10) Набой у рулю 11) Дастань шомпал 12) Прыбій набой 13) Шомпал на сваё мейсца. Пасля ўзбраення пяхоты прускімі стрэльбамі з варонкавым запалам зьнікла патрэба ў камандзе "Падсып на палічку", бо порах, як прыгадвалася вышэй, сам высыпаўся на палічку пры прыбіваньні шомпалам набою. На практыцы, ужо абвучаным жаўнерам падаваліся толдькі 3 каманды - "Плутон гатуйся, прыкладзіся, палі". Пад час бою, у громе страляніны й гэтыя каманды скараціліся да складаў - Тон - Туй - Цэль - Паль. Апрача баявых, ці як тады казалі "вострых" набояў, у паўку мелася пэўная колькасьць вучэбных халастых набояў без куль. Паводле пяхотнага статуту Рэчы Паспалітай 1789 года, для "агнявого экзерцерунку" 9г.зн. вучэньня - Г.М.) на кожнага жаўнера прыпадала па 18 вычэбных набояў у год. Крамянёў для замкоў на стрэльбах пачаткова было закуплена ў Берліне 60000 штук, па 20 злотых за тысячу. Кожны крамень быў разлічаны на 30 стрэлаў. Таму закупкі працягваліся, і ў траўні 1792 года ў Віленскім арсенале ў запасе мелася 249 780 крамянёў і вялікая колькасьць паперы для нарыхтоўкі набояў.

Порах для агняпальнай зброі вырабляўся на парахавым млыне пад Варшавай, вытворчасьць якога складала 21.472 фунты штогод. Апрача яго існавала яшчэ некалькі меньшых парахавых млынаў, пераважна на тэрыторыі Кароны. Сыравіны для вытворчасьці хапала. Сялітра ў вялікіх маштабаз вывозілася з Украіны, ішла на экспарт у Аўстрыю ды па Бугу ў Данцыг. Залежы серы меліся ў кракаўскім ваяводстве. Пад час паўстаньня 1794 года пэўную ролю ў забясьпячэньні порахам войска адыгралі ахвяраваньні, якія рабі- ліся купцамі й бууымі магнатамі з уласных запасаў. Пэўны запас пораху й гатовых набояў павінен

быў мець кожны рэгімент пяхоты. Так, напрыклад, 5 пяхотны рэгімент Вялікага княства Літоўскага ў 1792 годзе меў у паўкавым запасе 31770 баявых набояў, куль "неапраўленых" у паперу - 2000, апраўленых, але без пораху 7900, волаву 195 фунтаў і пораху 1138 фунтаў. 8-мы поўк, адзіны з паўкоў набраўшы двухбатальённы склад, меў у запасе 33 031 баявых набояў, 35226 вучэбных, 1358 куль, 1124 фунты волаву і 102 фунты пораху.

Халоднай зброяй у пяхоце былі шпагі й шаблі ў афіцэраў, цесакі й багінеты ва ўнтэр-афіцэраў ды шэраговых. Афіцэры паўка пешай літоўскай гвардыі былі ўзброены шпагамі, якія адпавядалі тагачасным прускім, расейскім і аўстрыйскім аналагам. Шпагі мелі паўкруглую гарду і невялікі шчыток зьверху для аховы рукі. Эфесы шпагаў былі пазалочаны. Афіцэры артылерыі й вайсковыя інжынеры ўжывалі шаблі аналагічныя шаблям Кавалерыі Нарадовай, з эфесам выкананым з простага жалеза, ці медзі, з прамакутнай гардай. Цесакі - зброя кшталту кароткай шаблі, якія ўжывалі унтэр-афіцэры й шэраговыя ў пяхоце ды артылерыі, былі пераважна айчыннай вытворчасьці і абапіраліся на саксонскі ўзор цесака 40-50 гадоў 18 стагоддзя. Яны лічыліся больш зручнымі ва ўжываньні, чым тагачасныя прускія і расейскія. Цесак насіўся на пендэнце ў скураных похвах, зшытых па форме ляза. Пэўная частка пяхоты Вялікага княства была ўзброена прускімі і расейскімі цесакамі.

Багінеты, як і стрэльбы, былі ў большасьці прускай вытворчасці, чатырохгранiстыя, даўжынёю 70 і 40 см. Трубка багінета, якой ён насоўваўся на рулі, была забясьпечана спружыннай зашчоўкай, якая забясьпечвала добрую фіксацыю багінета на рулі.

Шэраговыя янычарскіх харугваў мелі на ўзбраеньні апрача стрэльбаў з багінетамі, прамыя цесакі з шырокім лязом і рукаяцьцю, падобнай на рукаяць "карабелы" - улюбёнага тыпу шляхецкай шаблі XYIII стагоддзя. Афіцэры янычараў ужывалі аздобныя шляхецкія шаблі. Забясьпечанасьць пяхоты цесакамі была рознай у асобных паўках, так 5-ты пешы рэгімент ВКЛ меў на ўзбраеньні 117 старых расейскіх цесакоў вырабу Тульскага

заводу і 552 штукі новых, айчыннай вытворчасьці. 6-ты поўк на 724 чалавека меў 624 цесакі, 8-мы поўк, у астатнім нядрэнна забясьпечаны, меў на свой двухбатальённы склад у 1295 жаўнераў, усяго 800 цесакоў.

Рыхтуючыся да паўстаньня, ведаючы як не хапае ў краі агняпальнай зброі й абвучанай ею валодаць рэгулярнай пехоты, Касьцюшка наперад вызначыў ролю, якую павінна была адыграць адвечная сялянская зброя - косы. У Вялікім Княстве пад час паўстаньня дзейнічалі 3 аддзелы, якія зваліся касінерскімі ці пікінерскімі, але ўзброеных косамі байцоў не бракавала й ў іншых паўстанцкіх фармаваньнях. Пад час паўстаньня, упершыню ў свеце ўбачыў сьвет адмысловы падручнік па вырабу паўстанцкай зброі і тактычных прыёмах яе ўжываньня - “Кароткая навука а піках і косах” Пятра Айгнера. Па гэтай крыніцы можна скласьці ўяўленьне, як выглядала сялянская каса, перарobленая ў грозную зброю.

“Косы для кашэньня травы” і “Косы для рэзаньня сечкі, ці рэзакі” павінны былі быць насаджаны таўчком на дрэўка пасьля таго, як каваль выпраміў на агню іхнія пяткі і прабіў на іх дзьве дзіркі пад цвікі. Адмыслова падабраныя дрэўцы для баявых кос павінны былі мець 4 локця (238 см) даўжыні й таўшчынёю ў 2 цалі (5 см). У верхнім канцы дрэўка прарэзалася ўздоўж на глыбіню пяткі й ў гэтую шчыліну ўбівалася пятка касы. Дадаткова яна мацавалася да дрэўка двумя цьвікамі й грубым жалезным кальцом шырынёю ў 2 цалі, набітым наверх дрэўка. Да дрэўка мацаваліся 2 жалезныя паласы ў локаць (59,5 см) даўжынёй “адно з боку вастрыя, другое з абуха”, якія засьцерагалі дрэўка ад “сячэньня палашом”. Канцы “кос для рэзаньня сечкі” у мейсцы, дзе да пераробкі мацавалася драўляная ручка павінны былі быць кавалём “накшталт пікі, з двух бакоў расклёпаны і завостраны”.

У гэтым жа падручніку былі абумоўлены стандарты баявых дзідаў. Наканечнікі дзідаў павінны былі быць 12 цаляў (30 см) даўжыні, з гэтага 7 цаляў (17,5 см) прыпадала на грот шырынёю ў 2,5 цалі (6,25 см), а 5 цаляў - на ўтулку. Да ўтулкі былі

прыкутыя дзве жалезныя паласы, даўжынёй каля 45 см, якія прыбіваліся да дрэўка цьвітані. Як і ў баявых косаў, гэтыя палосы засцерагалі дрэўка ад удараў халоднай зброі. Унізе дрэўкі пік сканчаліся груба каванымі жалезнымі наканечнікамі - утокамі, для захаваньня раўнавагі і лягчэйшага ўтыканьня ў зямлю, пад час адпачынку пікінёраў. Для дрэўцаў пік былі ўсталяваныя 4 памеры. У першым шэрагу баявога шыхтаваньня пікінеры неслі пікі даўжынёй у 4 локці (238 см), у другім - 5 локцяў (298 см), у 3 - 6 локцяў (358 см), а дзіды прызначаныя для абароны акопаў і шанцаў, мелі даўжыню ў 7 лакцёў (418 см). Найменьш было зроблена дзідаў першага шэрагу, бо іх ўжывалі толькі ў тых атрадах, дзе наогул ня было агняпальнай зброі.

Са з'яўленьнем паўстанцкай пяхоты, узброенай падобным чынам, зьмянілася й сама тактыка бою. Атакі ворага павінны былі спыняцца агнём стральцоў ды рэгулярнай пяхоты, таксама палявой артылерыі (пры яе наяўнасці), а контратака праводзілася раптоўным наскокам касінераў, якія да гэтага моманту перазоўваліся за нейкім сховішчам. Падобныя атакі Касьцюшка загадваў праводзіць бягом, вузкімі калонамі па 4 альбо 8 чалавек у шэраг. Атака падтрымлівалася з флангаў трапным агнём стральцоў. Атакуючая калона касінераў падзялялася на паўсэкцыі ў 16 альбо сэкцыі па 32 касінеры.

Роля, якую вызначыў Касьцюшка касінерам, была аналягічная той, якую адыгрывалі ў арміях таго часу Эўропы грэнадзёрскія роты, якія ўжывалі для атакаў "у багінеты", калі бой дасягаў рашаючай фазы. Для падобных атакаў дзіды й косы былі нават выгаднейшыя, чым стрэльбы з багінетамі. Найкарацейшая з косаў ці пік мела перавагу над стрэльбай з багінетам у даўжыні, у паўметры.

Пры ўсіх моцных баках гэтай зброі, касінеры й пікінеры маглі эфектыўна дзейнічаць толькі пад прыкрыцьцём палявых умацаваньняў з артылерыяй і пры падтрымцы рэгулярнай пяхоты, якая павінна была прыкрываць атакуючую калону касінераў агнём з абодвух флангаў. Таму асобна дзеючыя атрады касінераў, пры сутыкненьні з рэгулярнай пяхотай расейцаў і прусакаў, гераічна гінулі пад варожымі ядрамі і кулямі.

ГЛАВА 5.

# УЗБРАЕНЬНЕ АРТЫЛЕРЫІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў 1792 - 1794 гг.

У першай палове 18 ст. у арміях Францыі, Расеі, Аўстрыі і Прусіі адбыліся зьмены, якія дазволілі артылерыі заняць пазыцыі роўназначнага пяхоце й кавалерыі роду войск. На падставе досьведу войнаў XYII - першай паловы XYIII ст. у артылерыі была створана новая сыстэма арганізацыі (конная артылерыя, паўкавая артылерыя) прыняты палепшаныя сыстэмы артылерыйскага ўзбраеньня, выпрацавана новая тактыка ўжываньня ратылерыі.

Галоўнай мэтай рэформаў артылерыйскага парку было зьмяншэньне колькасьці тыпаў і калібраў гармат. Гэта разнастайнасьць стварала цяжкасці ў забясьпячэньні артылерыі і ейным ужываньні на полі бою. У 1732 годзе у Францыі генерал Вальер правёў рэформу артылерыйскага парку, якая зьменшыла колькасьць калібраў гармат. На ўзбраеньні засталіся гарматы калібрам у 24, 166 12, 8, 4 фунты. Вальер аднак ня ўлічыў узрастаньня ролі палявой артылерыі. Гарматы былі занадта цяжкія для палявых баявых дзеяньняў: руля 24-фунтавай гарматы важыла 2550 кг, 8 фунтавай - 1050 кг. У 1753 г. у Аўстрыі князь Йозеф фон Ліхтенштейн упершыню ўвёў сыстэму, якая ўлічвала патрэбу ў лёгкіх ды манэўраных гарматах. На ўзбраеньне аўстрыйскай артылерыі былі прынятыя 3, 6 і 12-фунтовыя палявыя гарматы і 7-фунтовыя гаўбіцы. Рулі гарматаў мелі даўжыню ў 16 калібраў і вагу адпаведна ў 240, 414 і 812 кг. Карыстаючыся аўстрыйскім досьведам генерал Грыбеваль таксама ўвёў у французскай артылерыі новую сыстэму, у якой палявыя гарматы 12, 8 і 4-футовага калібру мелі адпаведна вагу: 890, 590 і 300 кг. Даўжыня рулі для ўсіх гармат была вызначана ў 18 калібраў. На ўзбраеньне таксама былі прыняты 8 і 6-футовыя гаўбіцы. Былі ўведзены стандартныя памеры для лафетаў, восяў

і памераў колаў. Гэтым забясьпечвалася магчымасьць хуткай замены пашкоджаных элементаў запаснымі часткамі з артылерыйскага парку, альбо з уласных пашкоджаных гармат. З гарматамі сыстэмы Грыбаваля французская артылерыя здабыла славутыя перамогі пад час напалеонаўскіх войнаў.

Дзякуючы аблягчэньню гармат, артылерыя значна палепшыла сваю манэўровасьць на полі бою. Шырока пачалі ўжываць артылерыйскія набоі ў картузах - палатняных мяшэчках, якія зьмяшчалі неабходны зарад пораху. Для надзейнага вядзеньня агню былі ўвудзены прадпальнікі - медныя полыя трубкі, набітыя гаручым рэчывам, якія ўстаўляліся ў запальную адтуліну, замест простага насыпаньня ў запал пораху. Паляпшэньні ў сыстэме зараджаньня й паляпшэньне балістычных вартасцяў гарматаў дазволілі артылерыя атрымаць перавагу над пяхотай у дыстанцыі і хуткастрэльнасьці. Убойная адлегласьць гарматнага стрэлу дасягнула 600 - 1000 м, тады як у крамянёвай стрэльбы з гладкай руляй яна складала максымальна 200 м. Стрэл ядром з 3-фунтавай гарматы з невялі- кай адлегласьці па калоше пяхоты забіваў ад 30 да 60 чалавек, стрэл карцеччу (валавянымі кулямі) быў яшчэ больш эфектыўны. На прайягу хвіліны з гарматы можна было стрэліць 4 разы. Таму атака кавалерыі ці пяхоты на артылерыйскія батарэі ў канцы 18 стагоддзя рэдка сканчалася пасьпяхова. Агонь артылерыі зрабіўся фактарам, які вырашаў вынікі бітваў.

Рэфармаваньне артылерыі Рэчы Паспалітай, якая за першую палову XYIII ст. прыйшла ў поўны заняпад, распачаў у 60-я гады генерал Брюль, камандуючы Корпусам Артылерыі Каронная. З лі- тоўскага боку дзейсныя намаганьні прыкладаў генерал ратылерыі літоўскай Казімір Нестар Сапега, які ўзначальваў Корпус Артылерыі Літоўскай з 1775 г. Былі моцна павялічаны штаты артылерыстаў,у Варшаве ў 1776 г. была ўтворана Артылерыйская Школа, якая да 1792 г. падрыхтавала каля 400 афіцэраў для каронная і літоўскай артылерыі. У 1767 г. Брбль выдаў “Павіннасьці Корпусу Артылерыі Каронная” - статут, якім карысталіся ўсе артылерысты войска Рэчы

Паспалітай. У 1781 г. убачыла свет 3-томная праца прафесара Артылерыйскай школы капітана Язэпа Якубоўскага пад назвай "Навука Артылерыі".

Новыя гарматы для артылерыі Рэчы Паспалітай, у першыя гады караляваньня Станіслава Аўгуста, адліваліся паводле аўстрыйскіх узораў. У 1765 г. у Варшаве была аднаўлена дзяржаная людвісарня, якая ўтрымоўвалася за кошт караля. Пачаткова яна адлівала толькі палявыя 3-фунтовыя гарматы з даўжынёю рулі ў 16 калібраў і вагою ў 225 кг і 8-фунтовыя гаўбіцы. Пасля Барскай канфэдэрацыі людвісарня ўзнавіла сваю дзейнасьць і пачала адліваць, акрамя вышэйназваных тыпаў, 6 і 12-фунтовыя гарматы й марціры. Была засанавана людвісарня ў Вільні з штатам у 23 майстры пад кіраўніцтвам начальніка Віленскага арсенала генерал-майора Кронемана і механіка Францішка Заліўскага. За час свайго існаваньня ў ёй было адліта 11 3-фунтовых гармат.

З 1779 г. усе гарматы адліваліся паводле мадэляў, зацьверджаных Каралём і абапісаных пазьней у "Навуцы Артылерыі" Язэпа Якубоўскага. Сыстэма гэта абапіралася на досьвед аўстрыйскіх ды францускіх артылерыстаў. Для палявых гармат былі абраны калібры ў 3, 6 і 12 фунтаў, з даўжынёй рулі ў 18 калібраў. Вага рулі 6-фунтовай гарматы складала 500 кг. Для 3-фунтовых гарматаў даўжыня рулі была вызначана ў 12 калібраў "як для тых, якія будуць паўкавой зброяй, якая патрабуе найвышэйшай лёгкасьці". Падзел і памеравыя суадносіны частак рулі былі абраны такія, якія ўжываліся ў францускіх ды аўстрыйскіх палявых гарматах. Цапфы - часткі рулі, прызначаныя для мацаваньня рукі на лафеце, былі размешчаны на лініі канала рулі. На ліштве другога колца (літога выступа на рулі) быў выбіты нумар гарматы, на цапфах - яе вага. Пасярэдзіне "галавы" - пярэдняй часткі рулі, было ўкручана "зярно", якое служыла для нацэльваньня. "Вока" - дзірка канала рулі, заторквалася ў паходзе скуранай затычкай, прымацаванай ланцужком да гарматы. Запальная адтуліна закрывалася "клапкай" - затычкай з волава.

Гаўбіцы, якія зваліся “гранатнікамі”, ужываліся двух тыпаў: кароткія - для палявых дзеяньняў, і доўгія, якія служылі для здабываньня ўмацаваньняў. Даўжыня рулі ў кароткіх гаўбіц складала 5 калібраў, у доўгіх - 9 калібраў. Каб граната разрывалася ў неабходны момант і на адпаведнай адлегласьці, да гранаты мацавалі запал рознай даўжыні з рознай хуткасцю гарэньня. Вартасьці запалу стасаваліся да дальнасьці стрэлу гаўбіцы, каб дасягнуць эфектыўнага выбуху гранаты.

Рулі ўсух гарматаў былі ўпрыгожаныя гэрбам Рэчы Паспалітай, часам разам зь ім зьмяшчаўся гэрб караля, альбо ягоная манаграма. Гатматы, якія адліваліся за кошт ахвяравальніка, упрыгожваліся т. зв. “фундушовымі” надпісамі.

Рулі гарматаў месьціліся на лафетах, фарбаваныя ў зялёны колер. Абодва бакі лафета былі ўпрыгожаны накладным каралеўскім “шыфрам” і нумарам гарматы. Да бакоў лафета былі прымацаваны жалезныя крукі - “гакі”, на якіх месьціўся рыштунак для зараджэньня. З аднаго боку мацаваліся шчотка для чысткі канала рулі і шомпал для прыбіваньня набою. З другога боку - два шасты, з дапамогаю якіх здзясьнялі паземную наводку гарматы. На васях лафету меліся скураныя пастронкі для перасоўваньня гарматы на пазыцыі. Паміж сьценкамі лафету зьмяшчалася скрынка для амуніцыі, у якой знаходзіўся грайцар - своеасаблівы штопар, які накручваўся на канец шомпала, калі ўзьні- кала патрэба выцягнуць з рулі нястрэліўшы набой. Апрача грайцара, у скрынцы ляжаў кавалак бавоўны для чысткі гарматы і ключ - ручка ад шруба, з дапамогай якога наводзілі гармату. Амуніцыйная скрынка таксама фарбавалася ў зялёны колер, сьценкі яе былі аздобраны нумарам гарматы.

Для простападнай наводкі ў 12-фунтовых гарматаў служыў жалезны шруб. У 6 і 3-фунтовых гарматаў для гэтай мэты служыў драўляны, акуты жалезам клін, які перасоўваўся жалезным шрубам, пакладзеным паземна. Да кожнай гарматы дадаваўся парадак, альбо “процкар”, акуты жалезам, пафарбаваны ў зялхны колер. Перадок меў ланцугі для запражаньня коней і тармазы на колах.

На 12-фунтовае ядро ў рулю ўкладалася 4 і 1/2 фунтаў пораху, для набояў з карцеччу - 4,5 фунтаў. Колькасьць пораху, неабходная для стрэлу гарматай, залежала ад адлегласьці стрэлу.

Апрача гарматаў, адлітых на Варшаўскай ды Віленскай людвісарнях, на ўзбраеньні Вялікага Княства патрапіла 20 3-фунтовых гармат, адлітых у 1784 коштам генерала літоускай артылерыі Казіміра Неастара Сапегі. Гэта былі стандартныя гарматы калібрам у 3 фунты (75 см), упрыгожаныя гэрбам Рэчы Паспалітай. пад дзяржаўным гэрбам зьмяшчалася выява гэрба Сапегаў - "Ліс". Вакол гэрбаў ішоў надпіс, складзены з абрэвіятур імя Сапегі і ягоных тытулаў.

Прыказам Камісыі Вайсковай Абодвух Народаў за 27. чэрвеня 1790 г. усе 3-фунтовыя гарматы разьмяркоўваліся па пяхотных паўках. Паўкавая артылерыйская каманда складалася з 1 афіцэра, 4 унтэр-афіцэраў і 18 шэраговых. Кожнаму пяхотнаму батальёну прыдавалася па дзве 3ўфунтовыя гарматы. Да 4-х паўкавых гарматаў дадаваліся 3 вазы з амуніцыяй. На вазах павінна было знаходзіцца 133 набоі з ядрамі і 133 з карцеччу. Апрача набояў на вазах занахадзіліся: прадпальнікаў - 1000, кноту зьвязак - 6, шлеяў для перасоўваньня гарматаў - 10, 12 параў пастромкаў, 4 ланцугі для чапляньня гармат, 4 рыдлёўкі, 4 сякеры, 4 матыкі, 3 дамкраты, 1 мерка для пораху ад 1/2 лота да 1 фунта, 4 сёдлы, свеч сальных - 2 капы, 29 іглаў, 6 шыл, 6 нажніц, 6 нажоў, 1 малаток, 1 абцуг, 1 асялок, 3 ліхтара, 6 кананірскіх намётаў.

У рэчаіснаці ў вайне 1792 г. толькі 8-мы пяхотны поўк меў належачыя яму 4 гарматы, 2-гі і 6-ты паўкі мелі на дзьве 3-х фунтовыя гарматы, а астатнія наогул не атрымалі паўкавой артылерыі. У 6-м паўку на май 1792 г. мелася набояў з ядрамі - 197, а з карцеччу - 95, у 8-м паўку на ягоныя чатыры гарматы прыпадала 336 набояё з ядрамі і 60 з карцеччу. У Віленскім арсэнале ляжала 20 трохфунтовых гармат без лафетаў, у тым ліку 12 з ахвяраваных Сапегам. Там жа месьціўся стратэгічны запас - 8290 гарматных зарадаў, з іх з ядрамі 4512, запальваючых - 450, гранатаў - 303, карцечных набояў - 2823. Пораху мелася

195 цэнтнераў. 24 мая 1792 г. з Польшчы надыйшоў першы абоз артылерыі, дасланы на дапамогу Корпусу Артылерыі Літоўскай, які меў поўны штат добра абвучаных артылерыстаў, але практычна застаўся без гармат. Першы транспарт з Варшаўскага Арсеналу складаўся з 12 3-фунтовых; 18 6-фунтовых гармат і 6-ці 8-фунтовых гаўбіц кожная. Да кожнай гарматы дадаваўся асобны воз з амуніцыяй. на іх было дастаўлена да Вільні 1800 шасціфунтовых і 2400 трохфунтовых набояў з ядрамі, а зарадаў з карцеччу пдпаведна 900 і 1200. Гаўбіцы былі забясьпечаны 300 гранатамі ды 42 запальваючымі набоямі. 27 чэрвеня быў выпраўлены другі абоз, у якім везьлі 4-ры 12-фунтовыя гарматы і 300 набояў зь ядрамі і 150 з карцеччу да іх. Пад час вайны 1792 г. артылерыя ВКЛ згубіла 7 гармат. Але асноўны ўдар па баяздольнасьці Корпуса Артылерыі Літоўскай нанесла Таргавіцкая канфэдэрацыя і другі падзел Рэчы Паспалітай. У выніку другога падзелу Рэччу Паспалітай было згублена 226 гарматаў. На пачатак паўстаньня ў войску ВКЛ заставалася баяздольнымі 20 3-фунтовых палявых гарматаў, ня лічачы замкавай артылерыі і гарматаў без лафетаў. Пазней з Кароны былі прысланы на дапамогу яшчэ 18 гарматаў калібрам 6 і 12 фунтаў.

ГЛАВА 6.

# БАЯВЫЯ ДЗЕЯНЬНІ РЭГУЛЯРНЫХ ВАЙСКОВЫХ ЧАСТАК І ПАЎСТАНЦКІХ АДДЗЕЛАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ПАД ЧАС ПАЎСТАНЬНЯ 1794 г.

Першы бой, які прыняло войска Вялікага Княства, адбыўся ў Вялікодную ноч у Вільні. Расейскі гарнізон складаўся з 2-х пяхотных паўкоў (Нарвскага і Пскоўскага), батальёна егераў, данскога паўка Кірэева і 4 рот ратылерыі (18 гарматаў) пад камандай майора Тучкова. Частка расейскіх войскаў стаяла на Пагулянцы - прадмесьці Вільні. Гарнізон узначальваў генерал Арсеньеў. Літоўскія часткі, якія стаялі ў горадзе, складаліся з 2-х ротаў IY-га і 2 ротаў YII-га пяхотных паўкоў ды артылерыстаў без гарматаў. Пад Вільняй стаялі рэшта YII-га паўка і 2 швадроны татараў з Палка Пярэдняй варты Азулевіча. Паўстаньне рыхтавалася штабам на чале з паўкоўнікам Корпуса інжынераў Якубам Ясінскім. У склад паўстанцкага штабу ўваходзілі: Неслухоўскі, былы прэзідэнт Камісіі Вайсковай, князь Гедройц, брагадзір Хлявінскі, паручнік Калантай, Пацей і Хадкевіч. Паўстанцы распалагалі сіламі ў 380 жаўнераў супраць у 8 разоў большага расейскага гарнізона. Але літоўскія жаўнеры займалі Віленскі замак і Арсенал. У начы з 22 на 23 красавіка паўстанцы атакавалі расейскі гарнізон. Жаўнерамі каманадаваў Якуб Ясінскі і капітан YII-га паўку Салецкі. Паўстаўшыя хутка абяззброілі расейскі гарнізон, узяўшы ў палон 1012 жаўнераў. Капітан ратылерыі Нялепец арыштаваў на Антокалі генерала Арсеньева. Гетіан Кассакоўскі быў арыштаваны на вул.Даміні- канскай паручнікам Гаўласінскім і капітанам Клечкоўскім. Было захоплена 8 гармат, але на Пагулянцы падняў трывогу майор Тучкоў, зь якім засталіся 2200 пяхтураў і 10 гарматаў. Раніцай ён распачаў бамбардыроўку Вільні, але заўважыўшы падыход да горада рэшткаў IY і YII-га паўкоў,адступіў ад горада й

5. Зак. 5181.

накіраваўся на злучэньне з ген. Цыцыанавым, які стаяў у Горадні. 23 красаві- ка, не марудзячы, на Віленскім рынку быў абвешчаны Акт Паўстаньня Народу Літоўскага. Тады э была ўтворана "Найвышэйшая Часовая Замяшчаючая Рада", пазней названая "Дэпутацыяй Цэнтральнай Вялікага Княства Літоўскага", паколькі назва "Найвышэйшая" выклікала ў палякаў абвінавачваньні ў літоўскім сэпаратызме. Дэпутацыя складалася з 8 радцаў і 32 намеснікаў, абраных са шляхты.

9 мая абвесціла Акт Паўстаньня Брэсцкае Ваяводства пад кіраўніцтвам генерала земянскга Казаміра Нестара Сапегі. Віленчукі ў першай палове мая сфармавалі муніцыпальную гвардыю ў колькасьці 3000 чалавек, добра абмундураваную, узброеную стрэльбамі, пісталетамі, дзідамі й бердышамі. 11 мая Міхал Агінскі праводзіў агляд гэтых фармаваньняў. Апрача міліцыі Вільня выставіла 2 батальёны пяхоты. 19 мая ў Горадні камісар Гарадзенскага павету Яўхім Храптовіч правёў перапіс мяшчан, "бяз розьніцы стану" (у тым ліку й шляхту) і сфармаваў з іх мі- ліцыю Гарадзенскую, якая была падзелена на сотні й тысячы, з сотнікамі й тысячнікамі на чале, і ўзброена стрэльбамі, дзідамі ды косамі. 2 чэрвеня Тадэвуш Касьцюшка выдаў адозву да жыхароў Вялікага Княства літоўскага. У ёй ён абвяшчаў на тэрыторыі Вялікага Княства Паспалітае Рушэньне. Кожныя 5 сялянскіх "дымоў" павінны былі выставіць 4 рэкруты "са стрэльбай, лядункай ды дзідай". 50 "дымоў" выпраўлялі аднаго вершніка з канём, сядлом, шабляю, пісталетамі і дзідаю. У хуткім часе ў Вільні было сабрана 6000 рэкрутаў. Да 5 чэрвеня ў Гарадзенскім павеце было сабрана 5000 "дымовых" рэкрутаў. Паводле загаду Касьцюшкі рэкрутаў выпрўлялі перш за ўсё да лінейных рэгулярных пяхотных паўкоў, а з рэшты папаўнялі батальёне міліцыі. Гарадзенскія рэкруты папоўнілі страты 2-га і 3-га паўкоў, якія фармавалі зь іх 2-я і 3-я батальёны (цалкам у паўкі пайшло 3000 рэкрутаў).

Міхал Вяльгорскі прызначаны на мейсца галоўнага камандуючага сіламі Літвы, загадаў 12 чэрвеня падзяляць усіх сабраных рэкрутаў на 7 батальёнаў, 4 з якіх былі выпраўлены

на Нёман для прыкрыцьця прускай мяжы. У паветах адбывалася актыўнае рэкрутаваньне і ўзнікалі аддзелы валанцёраў і асобных магнатаў. Ужо 25 красавіка пад Коўна біўся Поўк конны Лідзкага павету, з добраахвотнікаў на чале з Нарбутам. 7 чэрвеня быў утвораны батальён Стральцоў Гродзенскіх пад камандай Трэмбіцкага. Вольныя Стральцы Міхала Агінскага складалі атрад у 480 добра ўзброеных байцоў. Вялікую ролю ў фармаваньні паўстанцкіх аддзелаў на Гарадзеншчыне адыграў ген-майор Земянскі павету Гарадзенскага Канстанцін Ельскі. Ён зьбіраў і абвучаў рэкрутаў, узброеных пі- камі й косамі. З "дымовых" рэкрутаў, шляхты і валанцёраў ён сфармаваў корпус Гарадзенскі, падзелены на 3 паўкі, паводле ўзбраеньня сам Ельскі характарызаваў іх як "моладзь ахвочую, але ў зброю голую". Шляхецкая моладзь гэтага корпусу за ўласныя грошы набыла 400 пар пісталетаў. Ельскі прымаў на Замкавым дзядзінцы парад 300 пешых і 40 конных стральцоў Гарадзенскіх пад камандай паўкоўніка Сахацкага. Гэты аддзел, згодна з ацэнкай Ельскага, быў добра ўзброены, абмундураваны й вымуштраваны. На Жмудзі баявыя дзеяньні разгарнуў Тамаш Ваўжэцкі, пачаткова з 70 вершнікамі, 100 пяхтурамі ды 1 гарматай. Да яго быў пасланы генерал-майор Гедройц з 1-м батальёнам пяхоты, 1 батальёнам касінераў ды 3-мя гарматамі. З гэтымі сіламі і 1000 чалавек паспалітага рушэньня з Тельшаў Ваўжэцкі здзейсніў рэйд на Лібаву, якую паўстанцы захапілі 25 чэрвеня. 22 чэрвеня быў абвешчаны Акт Паўстаньня усёй Курляндыі, на чале з генерал-майорам земянскім Мірбахам. Лібава знаходзілася ў руках паўстанцаў некалькі тыдняў, адбіта расейцамі і зноўку ўзята штурмам 8 жніўня. У ваколіцах Шаўляй біўся Януш Тышкевіч, генерал-майор павету Расенскага, з стральцамі-валанцёрамі, "сваімі" (узброенымі за ўласны кошт) уланамі і 5 гарматамі. Генерал-майор Тэльшаўскага павету Вайткевіч, выставіўшы боны ў моры пад Палангай, захапіў прускія караблі, на адным зь якіх плыў у Прусію расейскі кур'ер з Рыгі. Камісыя Ковенскага павету сфармавала батальён пяхоты і сотню вершнікаў. У Княстве Жмудзкім генерал-майор Нагурскі ўзброіў за ўласны кошт поўк у 500 вершні- каў. Пад Вількамірам

дзейнічаў аддзел Камара, складзены з "дымовых" касінераў й пікінераў. Паветы Ковенскі, Упіцкі, Вількамірскі, Браслаўскі і Княства Жмудзкае выправілі ў бой цалкам 8000 паўстанцаў. За май-чэрвень 1794 г. паўстанцы і рэгулярныя часткі войска Вялікага Княства правялі 13 баёў і сутычак з расейскімі войскамі. Найбольш значнымі з іх былі бai пад Валожынам 15 чэрвеня, прыняты аддзелам Міхала Агінскага, Загорамі 22 чэрвеня й Соламі 25 чэрвеня. Пад Соламі з аддзелам генерала Бенігсена біліся батальёны стральцоў Грабінскага, батальёны 5-га, 7-га і 8-га паўка, які быў адноўлены ў маі 1794 г.

Частка 1-й брыгады Кавалерыі Нарадовай, якая была сасланая пад Кіеў, пачуўшы аб пачатку Паўстаньня, зьнялася з мейсцаў кватараваньня і фарсыраваным маршам, прарываючыся праз расейскія заслоны, пайшла на злучэньне з каронным генералам Грахоўскім, які збіраў на Валыні тыя часткі, якія былі разасланы расейцамі на дальнія межы. Пінская брыгада, на чале з майорам Копецам прайшла шлях з-пад Оўруча, праз Аньнопаль і Астрог (фарсіраваўшы Случ, Гарынь і балаты) і 10 траўня ў колькасьці 1000 вершнікаў злучылася з Грахоўскім. Потым гэтая частка ваявала ў складзе дывізый Зайончэка, Серакоўскага і ўдзельнічала ў апошняй бітве Тадэвуша Касьцюшкі пад Мацеёвіцамі.

Між тым камандуючым усімі ўзброенымі сіламі Літвы быў прызначаны генерал Міхал Вяльгорскі. Ясінскі быў пераведзены ў Варшаву напярэдадні аблогі. Касьцюшка надаў яму чын генерал-лейтэнанта й даручыў камандаваць часткай абароны Варшавы. Вяльгорскі не спяшаўся прымаць камандаваньне й стаў лягерам пад Веронавым. Прускі кароль Фрыдрых Вільгельм, які з 13 ліпеня сумесна з расейцамі ўзяў Варшаву ў аблогу, настолькі быў упэўнены ў сваёй хуткай перамозе, што прапанаваў аднкму з расейскіх генералаў - Дэрфельдэну, разам са сваім корпусам рушыць на Літву. Наўздагон за Дэрфельдэнам Касьцюшка 15 ліпеня выправіў генерала Серакоўскага з 3000 адборных жаўнераў. Між тым Вільня, ключавы пункт паўстаньня, не была прыкрыта рэгулярнымі войскамі. 18 ліпеня

да Вільні падыйшоў з войскамі расейскі генерал Кноррынг. Вільню маглі бараніць толькі 2000 віленскіх мяшчпн, сфармаваных у муніцыпальную міліцыю і 800 жаўнераў рэгулярнага войска. Абарону горада ўзначалілі генерал Юры Грабоўскі і майор Мейен. 19 ліпеня распачаўся штурм горада, які ўзначалій паўкоўнік Зубаў. Вораг здолеў прарвацца на Зарэчча (прадмесце Вільні). Мейен быў вымушаны адыйсці на Радуньскі тракт. Расейцы распачалі бамбардзіроўку горада з гарматаў. Абарона горада трывала 36 гадзін, да 4 гадзін 20 ліпеня, калі нарэшце падыйшоў Вяльгорскі з рэгулярным войскам. Пасьля гэтых падзей Вяльгорскі пісаў Юзафу Панятоўскаму "... ня ведаю краю, ня ведаю людзей. Ясінскі іх ведае. Ясінскі будзе карысьнейшым. Ён іх можа ўзначаліць ... непрыяцель адусюль наступае, Ціціанаў й Бенігсен ад кардону, Рэпнін ад Курляндыі ўвайшоў з 9 тысячамі. Прусакі сабраны пад Гумбіненам, ад 16 да 18 тысячаў, няхай будзе і 10, і так на нас занадта. Адклікайце мяне..." Просьба была выканана й часова мейсцы камандуючага заняў генерал Хлявінскі. 5 жніўня камандуючым быў прызначаны каронны генерал-лейтэнант Станіслаў Макраноўскі.

Серакоўскі, выконваючы прыказ Касьцюшкі аб прасьледаваньні Дэрфельдэна, стаў 15 ліпеня ў Высокім Літоўскім. Тут да яго далучыліся літоўскія паўстанцкія часткі: генерал Зямлі Драгі- чынскай Урбанскі прывёў з сабой 300 чалавек, таксама падыйшлі міліцыя Берасьцейская - 432 ч., кавалерыя павятовая кобрынская - 140 вершнікаў і сотня кобрынскіх стральцоў пад камандай генералўмайора землянскага Казіміра Рушчыца. З рэгулярных частак на падмогу падыйшоў 4 поўк Пярэдняй Стражы пад камандай Мустафы Ахматовіча.

Разам з гэтымі падмацаваньнямі Серакоўскі рушыў у рэйд на Слонім. 2 жніўня аддзел Серакоўскага пачаў бой за Слонім, якіт займаў расейскі генерал Ласі з 4000 войска. Серакоўскі здолеў адбіць Замосьце - прадмесце Слоніма, і ўтрымацца ў ім. Бойка за Зомасьце цягнулася з 9 раніцы да 8 вечара 2 жніўня. Але Серакоўскі ўвёў у бой толькі 2 батальёны пяхоты і 100

кавалерыстаў, і ня здолеўшы выбіць расейцаў са Слоніма, адступіў на Ружаны. У Ружанах ён прастаяў да 7 жніўня, марнуючы час. Касьцюшка бамбардаваў яго лістамі, у якіх патрабаваў рушыць за Дэрфельдэнам, каб прыкрыць лінію камунікацыяў Горадня - Вільня і пры неабходнасьці абараніць сталіцу.

Але Серакоўскі адыйшоў яшчэ паўднёва-заходней, да Бярозы-Картускай, матывуючы гэта неабходнасьцю прыкрыцьця Берасьця. 5 жніўня па загадзе Касьцюшкі для заслоны Берасьця з дывізіі лі- тоўскай Хлявінскага быў выдзелены "дэташмент" (манэўраны атрад без абозаў) з 3-х батальёнаў 5-га літоўскага пешага паўка, паўка гвардыі коннай літоўскай і 10 гарматаў. Пад камандай генерала Грабоўскага гэты аддзел атакаваў і адагнаў ад Берасьця расейскі аддзел пад камандай брыгадзіра Дзіева. Серакоўскі адыйшоў з войскамі да Кобрына. З літоўскіх частак на гэты момант у ягонай дывізіі знаходзіліся: 38 літоўскіх артылерыстаў з 10 гарматамі, 3-ці поўк Пярэдняй Стражы (670 чалавек), каманда з 4-га паўку Пярэдняй Стражы, IX пяхотны поўк (376 чалавек) частка 5-га пяхотнага паўку (240 чалавек), кавалерыя Драгічынская (72 вершнікі), кавалерыя Кобрынская (230 паўстанцаў), міліцыя Берасцейская (432 чалавек) і міліцыя Зямлі Драгічынскай (282 паўстанцы). 7 жніўня генералўмайор Хлявінскі атрымаў паведамленьне, што пад Вільню рушыць моцная расейская вайсковая калёна з артылерыяй. 9 жніўня Хлявінскі ўвайшоў са сваёй дывізіяй ў Вільню, на 34 гадзіны апярэдзіўшы расейцаў, і пачаў рыхтавацца да абароны горада. У склад частак, якія абаранялі Вільню, уваходзілі: 1 батальён 1-га пяхотнага паўка, 3 пяхотны поўк,1 бат. 6-га паўку, 7-мы пяхотны поўк і 8-мы пяхотны поўк (зваўшыйся на гэты момант касінерскім), III-я брыгада Кавалерыі Нарадовай, 2-шы, 5-ты і 6-ты паўкі Пярэдняй Стражы. З паўстанцкіх частак акопы й шанцы занялі: батальён стральцоў Трамбіцкага, міліцыя павету Ваўкавыскага, стральцы Сахацкагаі Грабінскага. Пяхота й конніца ваяводства Троцкага, коньніца Лідскага павету ды стральцы Казіміра Сапегі. Акрамя таго, у Віленскім Арсенале

знаходзіліся старыя гарматы і навыя гарматы, ня меўшыя лафетаў. З дапамогай віленскіх рамеснікаў яны былі адрамантаваны і ўсталяваныя на батарэях. Разам з палявымі гарматамі, якія меліся ў дывізіі, колькасьць артылерыі ў абаронцаў дасягнула 40 гарматаў. На Зарэччы й Поплавах (тут і далей назвы віленскіх прадмесцяў) Хлявінскі паставіў пяхоту ды паўстанцаў пад камандай Юрыя Грабоўскага, на тракце Лідскім ды Мінскім абараняліся 3 батальёны пад камандай Мейена, на тракце Радуньскім стаў генерал Франкоўскі з 3 батальёнамі пяхоты, 6 паўком Пярэдняй Стражы ды 12 гарматамі. Пагулянку абараняла паспалітае рушэньне - касінеры ды пікінеры. Панарскія ўзвышшы прыкрывала адна пяхотная рота й паўстанцкія аддзелы Троцкага ваяводства. 10 жніўня пад Вільню падыйшоў расейскі аддзел колькасцю ў 8000 жаўнераў, пад вечар таго ж дня падцягнуліся дадатковыя расейскія часткі з 18 гарматамі калібрам у 18 фунтаў. А 7-й раніцы 11 жніўня расейцы распачалі штурм Вільні, атакаваўшы ўчастак абароны, які ўзначальваў генерал Франкоўскі. Адначасова былі атакаваны пазыцыі Мейена й паспалітае рушэньне на Пагулянцы. Два батальёны касінераў былі знішчаны ў ракапашным баі. 3-ці пяхотны поўк быў акружаны й адрэзаны на сваіх пазіцыях. Паўкоўнік Ашулевіч загінуў, узначальваючы атаку свайго 6-га паўку Пярэдняй Стражы. Камандзір 3-й брыгады Кавалерыі Нарадовай брыгадзір Кассакоўскі і майор Корсак ня здолелі адбіць напіраючых расейскіх грэнадзёраў. Нарэшце штыкавая атака двух расейскіх батальёнаў на адзін батальён 1-га Літоўскага пяхотнага паўку вырашыла лёс правага крыла абароны горада. А 10-й гадзіне раніцы расейцы апанавалі Панарскія ўзвышшы й распачалі з іх абстрэл горада, які трываў да 10-й гадзіны вечара. Казімір Нестар Сапега, узяўшы цяжкія замкавыя гарматы, сфармаваў зь іх батарэю і прыкрыў агнём Зялёны Мост. Агонь гарматаў Сапегі прымусіў змоўкнуць дзьве расейскія батарэі. Але калі да камандзіраў абароны зьвярнуўся дэлегат ад магістрата горада Пётр Шульц з пытаньнем, ці рыхтавацца жыхарам да бою на вуліцах горада, камандуючы абаронай Хлявінскі Заявіў,

што горад вырашана здаць. Уначы абаронцы пакінулі пазыцыі, выйшлі зь Вільні і ўздоўж Віліі рушылі ў накірунку Дукштаў.

15 жніўня ў рэйд у тылы расейскіх войскаў выправіўся аддзел Стафана Грабоўскага. Камандзір з аддзелам у 800 жаўнераў 7-га і 8-га пяхотнага паўкоў, 1000 валанцёраў і 200 вершнікамі 4-га паўка Пярэдняй Стражы і 5 гарматамі пад камандай капітана артылерыі Нялепіца, рухаўся на Меншчыну з мэтаю ўзьняць там паўстаньне. Аддзел здолеў атакай захапіць Бабруйск. Але паў- коўнікі рыхтуемага Менскага паўстаньня Зенковіч і Грабоўскі ня здолелі падтрымаць яго значнымі сіламі і аддзел патрапіў пад Слуцкам (Любань) 5 верасьня ў пастку і быў разгромлены. Сам камандзір Стафан Грабоўскі загінуў у баі.

На Жмудзі працягваліся актыўныя баявыя дзеяньні. Міхал Агінскі з аддзелам у 1500 пяхоты і сотню вершнікаў зьдзейсьніў сьмелы рэйд на Дынабург, але горад узяць ня здолеў. Гедройц, далучыўшы да свайго аддзелу Вількамірскіх касінераў пад камандаваньнем Камара, прыняў бой пад Пашалотамі і Йонішкамі. Найбольш буйная сутычка з расейскімі войскамі адбылася 29 ліпеня пад Салатані. У ёй акрамя батальёнаў 1-га і 6-га пяхотных паў- коў прымалі ўдзел Віленскія й Упіцкія стральцы і кавалерыя Ковенскага павету. Але ўсе баявыя посьпехі былі змарнаваны стратай Вільні. 12 верасня Касьцюшка загадаў Гедройцу разам з усімі паўстанцкімі аддзеламі адступіць са Жмудзі і прарывацца да Горадні на злучэньне з рэшткамі дывізіі Хлявінскага, якія пасьля страты Вільні і баёў на Жмудзі, таксама адступала да Горадні.

8 верасьня прусакі, пад пагрозай выбухнуўшага ў Вялікапольшчы паўстаньня, зьнялі аблогу з Варшавы і адыйшлі на захад. Расейскі генерал Ферзен таксама быў вывеў свае войскі з-пад Варшавы і адыйшоў на поўдзень, стаў лягерам за Віслай, недалёка ад Варшавы. Екацярына II, даведаўшыся аб зьняцьці прусакамі аблогі, абазвала прускага караля Фрыдрыха Вільгельма "чалавекам без кішак і сораму". Як толькі Расеяй былі атрыманы гарантыі захаваньня міра з Турцыяй, з поўдня быў выкліканы найбольш таленавіты з расейскіх генералаў -

Сувораў,пра якога сучасьнікі казалі, што “ён адзіны варты цэлага войска”. Сувораў, немарудзячы, сабраў 11000 войска з 39 гарматамі, выйшаў зь Нямірава на ўкраіне і фарсіраваным маршам, не зважаючы на багны Палесься й адсутнасьць шляхоў, рушыў на Літву. Ягонай мэтай было, авалодаўшы Берасьцем, сабраць частку расейскіх войскаў, якія дзейні- чалі на Літве і ісьці на злучэньне з паручусамФерзена пад Варшаву. Касьцюшка, даведаўшыся аб маршы Суворава, загадаў узмацніць дывізію Серакоўскага, якая павінна была абараняць Берасьце. На дапамогу ёй быў пасланы генерал Князевіч з лепшым 10-м каронным пяхотным паўком і аддзелам у 320 валанцёраў.

Дывізыя Серакоўскага на 14 верасня ў асноўным складалася з каронных частак. З літоўскіх фармаваньняў у ейны склад уваходзілі: 3 Поўк Пярэдняй Стражы (263 вершнікі), частка 4-га паўка Пярэдняй Стражы пад камандай паўкоўніка Ахматовіча, поўк пад камандаваньнем Казаноўскага (215 чалавек), паўстанцкая Кобрынская Кавалерыя й Берасьцескі батальён пад камандаваньнем Кулешы. Сувораў, які прайшоў за 16 дзён 560 вёрстаў, стаў лягерам у Кобрыне. 15 верасьня зь лягера ў Цераспалі (прадмесце Берасця) насустрач яму выйшаў Серакоўскі з дывізіяй, якая налічвала 5000 чалавекаў і мела 28 гарматаў. Серакоўскі абраў пазіцыю пад фальваркам Крупчыцы ў 5-ці вёрстах ад Кобрына, каля кляштара кармелітаў. Адразу было загадана капаць шанцы й насыпаць батарэі для гарматаў. 16 верасьня прайшло спакойна. На наступны дзень а 8-й гадзіне раніцы непрыяцель быў заўважаны на фронце. Серакоўскі даручыў камандаваньне правым крылом Панятоўскаму, левае крыло ўзначаліў генерал Красінскі, рэзэрвам камандаваў паўкоўнік Кёніг. Багністая рэчка Трасцяніца добра прыкрывала фронт дывізіі, на грэблі пад карчмою Серакоўскі загадаў насыпаць батарэю на 2 гарматы. На заслону тылоў быў пастаўлены 3-ці літоўскі поўк Пярэдняй Стражы. З 9 раніцы гарматы Серакоўскага адкрылы агонь, але расейскія гарматы маўчалі. Потым адразу пачалася расейская атака, дывізія Серакоўскага была захоплена з флангаў, на тылах таксама

з'явіўся праціўнік. Серакоўскі вырашыў адыходзіць, прыкрываючы адыход пяхотным карэ і 3-м паўком Пярэдняй Стражы. А 4-й гадзіне бітва скончылася. Раніцай 18 верасьня дывізыя дайшла да лягера ў Цераспалі. Але а 6-й раніцы 19 верасня кавалерыя Суворава атакавала лягер з двух бакоў. Серакоўскі пачаў адыходзіць, але атакі расейскай кавалерыі працягваліся й адыход ператварыўся ў разгром. Былі страчаны ўсе гарматы. Пад час абодвух бітваў 3-ці поўк Пярэдняй Стражы страціў 16 чалавек, 4 поўк - 54 чалавекі. 112 чалавек было забіта ў паўку Казаноўскага, а Кобрынская кавалерыя, якая пад Цераспалем пайшла ў контратаку супраць расейскай кавалерыі, была пасечана ўся. Генерал Князевіч, які ішоў на дапамогу, здолеў толькі сабраць рэшткі разьбітых частак. Касьцюшка, даведаўшыся пра разгром пад Берасьцем, адразу паслаў дапамогу рэшткам дывізыі Серакоўскага, у тым ліку Пінскую брыгаду Кавалерыі Нарадовай, пад камандаваньнем Копеца. Серакоўскі адвёў ізноў сфармаваную дывізыю ў Пльшчу.

Цяпер галоўнай задачай было не даць злучыцца Сувораву з Ферзенам, які стаяў пад Варшавай. Касьцюшка без эскорта, з адным толькі сваім ад'ютантам Нямцэвічам прыскакаў у Горадню, для інспэкцыі літоўскіх вайсковых сілаў. Тым часам да Горадні зьбіраліся ўсе вайсковыя часткі і паўстанцкія аддзелы, якім было загадана 12 верасьня адыходзіць са Жмудзі. Найперш да Горадні прыйшоў Юры Грабоўскі з рэшткамі дывізіі Хлявінскага. Потым генерал Франгоўскі з 3 тысячамі паўстанцаў, і генерал Мейен з 2500 бяззбройных. Нарэшце падыйшоў Павал Грабоўскі і дывізія Рамуальда Гедройца. У Горадню была перанесена Цэнтральная Лі- тоўская Дэпутацыя.

Касьцюшка падзяліў усё літоўскае войска на 2 дывізіі. Першай, пад камандай Ваўжэцкага і Гедройца, ён загадаў рухацца да Варшавы, другую пад камандаваньнем Макраноўскага і Ясінскага, накіраваў на Берасцейска-Варшаўскі тракт. 20 верасьня дывізія Ваўжэцкага выйшла да Варшавы, цягнучы з сабою абоз у 100 вазоў са срэбрам, забраным з дэпазітаў павятовых Вайскова-цывільных Камісій, а таксама са скурамі і

палатном для вайсковых патрэбаў.

Касьцюшка ад'ехаў з Горадні, даведаўшыся, што генерал Ферзен перайшоў праз Віслу і рушыць на злучэньне з Суворавым. Начальнік паўстаньня накіраваўся ў лягер пад Коцк у Польшчы, дзе стаялі дывізіі Серакоўскага і Панінскага. Загадаўшы Панінскаму з дывізіяй трымаць абарону на рацэ Вепр і чакаць загаду да ўмяшаньня ў бітву, Касьцюшка з дывізіяй Серакоўскага рушыў насустрач Ферзену. У дывізіі Серакоўскага на гэты момант знаходзіліся: Пінская брыгада кавалерыі Нарадовай пад камандаваньнем Копеца, 3-ці літоўскі поўк Пярэдняй Стражы, якім камандаваў Мустафа Ахматовіч і аддзел Кавалерыі Берасцейска-Лі- тоўскай. 10 кастрычніка Касьцюшка сутыкнуўся з корпусам Ферзена пад Мацеёвіцамі. Касьцюшка меў 7000 жаўнераў і 21 гармату супраць 14000 войска і 60 гарматаў у Ферзена. На дапамогу Касьцюшку павінна была падыйсці дывізія пад камандаваньнем генерала Панінскага, але ён загаду не выканаў і Касьцюшка застаўся з удвая меньшымі, чым у Ферзена, сіламі. Корпус Ферзена 10 кастрычніка нанёс паражэньне войскам паўстанцаў, а сам Касьцюшка, цяжка паранены, быў узяты ў палон. Разам з ім у палон трапіў і Нямцэвіч і брыгадзір Копец.

Начальнікам узброеных сіл 12 кастрычніка Найвышэйшая рада прызначыла замест Касьцюшкі літвіна генерал-лейтэнанта Тамаша Ваўжэцкага. Чын генерал-лейтэнанта той атрымаў за ўзяцьце Лібавы і арганізацыю паўстаньня на Жмудзі, меў рэпутацыю патрыёта і смелага жаўнера, але не вызначаўся добрым веданьнем стратэгіі і тактыкі.

14 кастрычніка Сувораў атрымаў паведамленьне аб Мацеёвіцкай бітве і разгроме паўстанцаў. Яшчэ раней Рэпнін (галоўнакамандуюча расейскімі войскамі, якія змагаліся з паўстаньнем) перадаў Сувораву камандаваньне над Ферзенам і Дэрфельдэнам. Сувораў загадаў Дэрфельдэну рухацца з Горадні на Буг, а Ферзену - да Мінска Мазавецкага. Сам Сувораў з войскамі рушыў з боку Берасьця. Задачай 2-х літоўскіх дывізій, якія рухаліся да Варшавы, было прайсці праз абцугі расейскіх

карпусоў, якія з трох бакоў набліжаліся да Варшавы. Першай да Варшавы дайшла дывізія Рамуальда Гедройца ў колькасьці 5500 жаўнераў, якая была пастаўлена на левы бераг Віслы, з таго боку, адкуль Ваўжэцкі чакаў магчымага нападу прусакоў. 14 кастрычніка камандуючы лі- тоўскім войскам Макраноўскі прысягнуў на вернасьць новаму галоўнакамандуючаму Ваўжэцкаму. Макраноўскі вёў сваю дывізію да Варшавы, падзеленай на 3 калёны. Адной з іх камандаваў ён сам, двума астатнімі - Гаржэнскі і Мейен. 20 кастрычніка Сувораў злучыўся з Дэрфельдэнам. Агульныя іх сілы з гэтага моманту складалі 30000 жаўнераў і 84 гарматы. Пад мястэчкам Кабылкаю 26 кастрычніка калёны дывізіі Макраноўскага сутыкнуліся на маршы з войскамі Суворава. Адбіўшы шэраг кавалерыйскіх атак, дывізія здолела прабіцца да Варшавы, але згубіла ўвесь абоз і артылерыю, якія знаходзіліся ў калёне пад камандаваньнем Мейена. Да Варшавы Макраноўскі давёў 6922 жаўнера. Між тым Варшава ліхаманкава рыхтавалася да абароны. Умацоўваліся шанцы і батарэі, якія былі зроблены яшчэ пад час першай (13 ліпеня - 6 верасня) аблогі Варшавы. Галоўным пунктам абароны з'яўлялася Прага - прадмесьце Варшавы на левым беразе Віслы. Толькі здабыўшы Прагу, вораг мог авалодаць адзіным мастом праз раку і прарвацца ў саму Варшаву. Абарону Прагі ўзначаліў генерал Зайончак, які, агледзеўшы ўмацаваньні, падлічыў, што для іх абароны патрэбна 45000 жаўнераў. Рэальна ён для гэтай мэты меў 15000, з якіх па падліках польскіх даследчыкаў ад 7800 да 4120 жаўнераў складалі літвіны з дывізій макраноўскага і Гедройца. 2 лістапада 1794 г. свае пазыцыі на ўмацаваньнях Прагі занялі: 3-ці Літоўскі пяхотны поўк (583 жаўнеры), 4-ты пяхотны поўк (724 ж.), 5-ты пяхотны поўк (739 жаўнераў), 7-мы пяхотны поўк (374 жаўнеры), батальёны стральцоў пад камандай Валана і Грабінскага (58 і 278 стральцоў адпаведна), Стральцы Трэмбіцкага (478 ч.). З кавалерыйскіх літоўскіх частак у апошняй бітве паўстаньня ўдзельнічалі: Поўк гвардыі коннай літоўскай (226 жаўнераў); 2-я брыгада Кавалерыі Нарадовай (114 жаўнеры). Паў- кі пярэдняй стражы Літоўскай; 1-шы (66

ч.), 2-гі (207 ч.), 3-ці (250), 4-ты (330 ч.), 5-ты (329 ч.), 6-ты (193 ч.), з паўстанцкіх конных аддзелаў былі поўк конны Лідскага павету пад камандаваньнем Нарбута (158 вершнікаў), міліцыя павету Ваўкавыскага (118) і Кавалерыя Драгічынская (211 вершнікаў). На пражскіх умацаваньнях стаяла каля 100 гарматаў, таму Сувораў не разлічваў весці доўгую артылерыйскую дуэль. Расейскія жаўнеры рыхтавалі да штурму драбіны і фашыны (зьвязкі гальля, якімі завальвалі роў).

У 3 гадзіны ночы 4 лістапада 7 расейскіх штурмавых калёнаў з поўначы, усходу і поўдня занялі ісходныя пазыцыі для штурму. А 5-й гадзіне раніцы быў пададзены сігнал для штурму і тры артылерыйскіх батарэі: Дэрфельдэна, Пацёмкіна і Ферзена адкрылі агонь з гарматаў. Пасля кароткага, але моцнага агнявого шквалу на штурм умацаваньняў пайшла расейская пяхота, а артылерыя перанесла агонь углыбь і пачала руйнаваць будынкі прадмесьця. Камандуючы абаронай генерал Зайончак у першыя ж хвіліны бою быў паранены ў жывот. У хуткім часе штурм ператварыўся ў рукапашную разню. Асабліва зацятая штыкавая бойка віравала каля былога каралеўскага зьвярынца, дзе прыкрываючыся палісадамі, мужна змагаўся 5-ты літоўскі пяхотны поўк. Трымаючы сваю пазыцыю, ён патрабаваў у Ваўжэцкага дапамогі, але той быў ужо на гэты момант кантужаны расейскім ядром. Ад'ютант пасадзіў Ваўжэцкага на каня і павёў на мост, каб вывезьці ў Варшаву. Каля маста стаяла кінутая гармата і апрытомнейшы Ваўжэцкі злез з каня, сабраў гарматны разлік і прымусіў яго зрабіць некалькі стрэлаў па падбягаючых да места расейскіх егерах. За некалькі гадзін рукапашнай бойкі практычна ўсе абаронцы Прагі былі выразаны. У ліку загінуўшых былі літвіны Якуб Ясінскі, генерал Павал Грабоўскі, паўкоўнік Мейен. Акрамя абаронцаў, жаўнеры Суворава выразалі ўсё мірнае насельніцтва Прагі, разам з жанчынамі і дзецьмі.

Уначы да Суворава з'явіляся дэпутацыя магістрата Варшавы для прыняцьця ўмоў капітуляцыі горада. 9 лістапада расейскія войскі пад музыку паўкавых аркестраў увайшлі ў Варшаву. Але

Тамаш Ваўжэцкі не лічыў справу Паўстаньня скончанай. Вырашыўшы ваяваць да апошняй магчымасьці, ён з рэшткамі дывізіі Гедройца, якая не брала ўдзел у абароне Прагі, і кароннай дывізіяй Панятоўскага рушыў у напрмку Кракава. Але голад, дызентэрыя і дэзерцірства хутка зьнішчылі гэта войска. Урэшце 19 лістапада Ваўжэцкі быў узяты ў палон генералам Дзянісавым.

Пры сустрэчы з Суворавым ён адмовіўся даваць абяцаньне не ваяваць у далейшым з расейцамі і быў адвезены ў Петрапаўлаўскую крэпасьць.

## Прыблізны сьпіс паўстанцкіх аддзелаў, якія фармаваліся ў Вялікім Княстве Літоўскім пад час Паўстаньня 1794 г.

(Паводле: Br.Gembarzewski Rodowody pulkov polskich i oddzialov rownorzednych od r. 1717 do r. 1831 Warszawa, 1925 )

Кавалерыйскія паўстанцкія аддзелы:
Поўк конны Гарадзенскі, камандзір - паўкоўнік Андрэй Казаноўскі
Утвораны ў маі ў Саколцы
Бітвы: Крупчыцы 17.9., Берасце 19.9., Мацеевіцы 10.10
Кавалерыя Віленская, камандзір - генерал-майор Тадэвуш Корсак
Утворана ў чэрвені
Бітвы і сутычкі: Івянец 19.6., абарона Вільні 19/20.7.
Кавалерыя Ковенскага павету:
Кавалерыя Паморская: камандзір - Крушынскі
Поўк кавалерыі Лісоўскага.
Валанцёры конныя Троцкія: камандзір татарын Мухля
Поўк 1-шы конны ахвотнікаў(валанцёраў - Г.М.) Жмудзкіх: камандзір - генерал-майор Ян Нагурскі.
Поўк конны Лідскага павету: камандзір - Нарбут
Бітвы і сутычкі: бітва пад Коўнам 25.4
Кавалерыя Брэсцка-Літоўская: камандзір - Марцін Пашкоўскі
Бітвы і сутычкі: бітва пад Мацеевіцамі 10.10., абарона Прагі 4.10.
Поўк 2-гі конны княства Жмудзкага: камандзір - паўкоўнік Панятоўскі
Жмудзкія конныя валанцёры, камандзір - Пжэцішэўскі
Бітвы і сутычкі: сутычка пад Пашалотамі 10.7
Кавалерыя Кобрынская: камандзір - генерал-майор Казімір Рушчыц
Бітвы і сутычкі: Слонім 2.8., Кобрын 15.9.
Поўк конны князя Казіміра Сапегі: камандзір - Сапоцька, утвораны ў жніўні.
Корпус конны генерал-майора Шаата
Гарадзенскія конныя стральцы: камандзір - падпаўкоўнік Сахацкі
Шавельскія валанцёры: камандзір - генерал-майор Стетекевіч
Бітвы і сутычкі: бітва пад Загорамі 16.6
Расонскія уланы: камандзір - генерал-майор Януш Тышкевіч
Бітвы і сутычкі: сутычка пад Жаграмі 9.6
Кавалерыя Прэнская: камандзір - паўкоўнік Улан
Віленскія валанцёры:

Бітвы і сутычкі: бітва пад Ашмянамі 8.6
Пешыя паўстанцкія аддзелы
Стральцы зямлі Бельскай: камандзір - майор Цэтыс
Бітвы і сутычкі: сутычка пад Лахавым 1.7
Батальён касінераў: камандзір - Даукша
Міліцыя Гарадзенская: камандзір - Эренкрейц
Утворана 25.5
Батальён стральцоў: камандзір - Грабінскі
Бітвы і сутычкі: Солы 25.6, абарона Прагі 4.10
Валанцёры Гарадзенскага:Утвораны ў чэрвені
Корпус Гарадзенскі: камандзір - генерал-майор Канстанцін Ельскі
Пікінеры/касінеры Вількамірскія: камандзір - Камар
Бітвы і сутычкі: Пашалоты 10.7, абарона Прагі 4.11
Батальён Брэсцка-Літоўскі: камандзір - падпаўкоўнік Кулеша
Бітвы і сутычкі: бітва пад Крупчыцамі 17.9
Аддзел Лісоўскага:
Аддзел паўстаньня Курляндскага: камандзір - генерал-майор Мірбах
Утвораны 27.6
Вольныя стральцы: камандзір Міхал Казімір Агінскі
Бітвы і сутычкі: Валожын 15.6, Івянец 19.6
Батальён Стральцоў Ковенскіх: камандзір - генерал-майор Прозар
Бітвы і сутычкі: Шемберк 3.6, Радзівілішкі 12.6
Бельскія пікінеры: камандзір - майор Рольцберг
Бітвы і сутычкі: сутычка пад Ставішкамі 3.7
Кобрынскія стральцы: камандзір - генерал-майор Казамір Рушчыц
Стральцы Віленскія і Упіцкія: камандзір - капітан Сацкевіч
Бітвы і сутычкі: бітва пад Салатамі 29.7
Стральцы князя Казіміра Сапегі: камандзір - Гейштар
Стральцы Гарадзенскія: камандзір - паўкоўнік Сахацкі
Бітвы і сутычкі: абарона Прагі 4.11
Стральцы Шавельскія: камандзір - генерал-майор Стеткевіч
Бітвы і сутычкі: бітва пад Загорамі 22.6
Стральцы Гарадзенскія: камандзір паўкоўнік Міхал Трэмбіцкі
Утвораны 1675
Бітвы і сутычкі: абарона Прагі 4.11
Стральцы Расонскія: камандзір - генерал-майор Міхал Тышкевіч
Віленская Муніцыпальная Гвардыя:
Утворана ў маі
Аддзел Цельшаўскага паўстаньня: камандзір - генерал-майор

Вайткевіч

Стральцы: камандзір - падпаўкоўнік Валан
Бітвы і сутычкі: абарона Прагі 4.11
Міліцыя Ваўкавыскага павету:
Бітвы і сутычкі: абарона Прагі 4.11
Стральцы Княства Жмудзкага

6 Зак. 5181

***Ілюстрацыя 1***.

Рэгімент Гвардыі пешай ВКЛ.

Утвораны ў 1717 годзе.

Места кватэраваньня: Варшава.

Шэфы: Генерал Флемінг, падскарбі ВКЛ (1717-1759)
Кн. Адам Чартарыйскі (1759- 1775)
Генерал-маёр кн.Станіслаў Ябланоўскі (1775- 1784)
Ігнат Тызенгаўз (1784- 1793) высланы ў Ресею 15.04.1794

Паўкоўнікі: Франц Шыльдэнбах (1770)
Ян Дэскур (1774)
Ігнат Тызенгаўз (1789-1793)

Бітвы і сутычкі: Варшаўскае паўстаньне 17-18.04.1794 г.

На малюнку :

Афіцэр Рэгіменту Гвардыі пешай Літоўскай у мундуры ўзору 1792 г. Мундур гвардыі, як і раней, абапіраўся на агульнапрыняты ў Эўропе стыль. На галаве афіцэра бікорн абшыты жоўтым галунам , аналягічны бікорну коннай Гвардыі Літоўскай, але ўпрыгожаны кіткай чорнага коляру. Мундур чырвоны з сінімі вылогамі. На грудзях у афіцэра рынграф.

Афіцэр узброены шпагай , похвы якой прычэплены да бандальера з чорнай скуры.

***Ілюстрацыя 2.***
На малюнку :
Шэраговы Рэгіменту Гвардыі пешай Літоўскай у мундуры ўзору 1792 г. Мундур аналягічны кроем афіцэрскаму, але з суконнымі пагонамі замест эпалетаў. Бікорн упрыгожвае пампон жоўтага коляру. На штанах адмысловая аздоба, характэрная толькі для паўку пешай Гвардыі Літоўскай.

***Ілюстрацыя 3.***

На малюнку :

Шэраговы грэнадзёрскай роты Паўка пешай Гвардыі Літоўскай. Адзнакай грэнадзёраў быў высокая шапка, якая з пераду ўпрыгожвалася металёвай пласьцінай з выбітым на ёй каралеўскім вензелем (шыфрам). Паверху пласьціны шапка была абшыта чорнай футрай, а зь пераду зьвісаў эцішкет з белага вітога шнура. Колерам прыборнага металу ў Літоўскай Гвардыі быў жоўты. Грэнадзёры , як і астатнія жаўнеры і афіцэры Гвардыі насілі парыкі. Асаблівасьцю зьнешняга выгляду грэгадзёраў былі пышныя і закручаныя вусы - прадмет гонару жаўнераў.

***Ілюстрацыя 4.***

Рэгімент Гвардыі коннай ВКЛ.

Утвораны ў 1717 годзе , як Лейбрэгімент драгунаў каралеўскіх ВКЛ, а з 1762 году - Рэгімент конны Караля Ягамосьці Вялікага князя Літоўскага. З 1784 году - Рэгімент Гвардыі коннай ВКЛ і,апошняя назва , з 1793 г. - Рэгімент карабінераў Гвардыі коннай ВКЛ.

Места кватэраваньня: Горадня (1717-1783); Пружаны (1783-1792)

Шэфы: генерал кн. Сапега (1717-1755), генерал кн. Радзівіл (1755-1759), генерал-лейтынант Станіслаў Ігнаці Радзівіл (1759-1764), генерал-маёр Грабоўскі (1765-1786), кн.Мікалай Радзівіл (1786-1790), Стрыенскі Ян (1792).

Паўкоўнікі: кн. Мікалай Радзівіл (да 1786), Хрыстафор Энгельгардт (1786- 1794).

Бітвы і сутычкі : Барская канфедэрацыя.

Паўстаньне 1794 г. - пад Берасьцем 6.07.1794 і абарона Прагі 4.11.1794.

На малюнку:

Маёр Рэгімента Гвардыі коннай у мундуры ўзору 1792 г. Гвардыя ВКЛ працягвала ўжываць мундуры так званага "іншаземнага" кроя. Афіцэр апрануты ў чырвоны з сьветла-сінімі вылогамі (колеры гвардыі) мундур бяз лацканаў і падпярэзаны афіцэрскім шарфам. Поўк лічыўся драгунскім, таму і афіцэры і шэраговыя ўжывалі высокія батфорты і ласіны з белай скуры. Колерам прыборнага металу ў Літоўскай коннай Гвардыі быў жоўты. Афіцэр на малюнку ўзброены гвардэйскім палашом з багата аздобленай гардай.



Палаш гвардэйскі , якім былі ўзброены афіцэры Рэгіменту коннай Гвардыі Літоўскай. Гарда пазалочаная, у дэкор упісаны каралеўскі шыфр.

***Ілюстрацыя 5.***

На малюнку :

Бамбардзір Корпусу Артылерыі ВКЛ у мундуры на 1792 - 1794 г.г. Бамбардзіры з'яўляліся камандзірамі гарматных разьлікаў. На каске ў бамбардзіраў зьмешчана латунная эмблема ў выглядзе палаючай гранаты. На пярэдняй частцы над брыльком каска ўпрыгожана латуннай паскай, якая зьнешне нашадвае галун. Чорная кітка мацавалася кукардай у выглядзе кавалерскага крыжа. Выява палаючай гранаты месьцілася таксама на лядунках бамбардзіраў.

Бамбардзір апрануты ў летнія штаны , запраўленыя ў боты. Акрамя таго, артылерысты ўжывалі зялёныя суконныя штаны з чорнымі лампасамі.



8- мі фунтовая гаўбіца зробленая паводле ўзору французскай гаўбіцы сыстэмы Грыбаваля. Адна з двух тыпаў гармат , якія меліся на ўзбраеньні Корпусу Артылерыі ВКЛ пад час паўстаньня 1794 году. Лафет гаўбіцы паказаны ў разрэзы. На малюнку бачна жалезная вось лафета і жалезны шруб з дапамогай якога ажыцьцяўлялася вертыкальная наводка гаўбіцы.

***Ілюстрацыя 6.***

Рэгімент 1-шы пешы Булавы Вялікай ВКЛ.
Утвораны ў 1717 годзе, як поўк інфантэрыі Вялікага гетмана ВКЛ, а з 1776- Рэгімент пешы Булавы Вялікай ВКЛ.
Места кватэраваньня: Барысаў (1717 - 1783), Слонім (1783-1792), Вількамір (з канца 1792).
Шэфы: Вялікія гетманы ВКЛ: Міхал Вішнявецкі (1735-1744), Міхал Казімір Радзівіл (1744- 1762), Міхал Масальскі (1762-1768), Міхал Агінскі (1768- 1793), Сымон Касакоўскі (1793-1794).
Бітвы і сутычкі : Вайна 1792 г.: Мір 11, 06
Паўстаньне 1794: Салаты 29.08; абарона Вільні 11.08.
На малюнку:
Жаўнер 1-га пешага Рэгіменту ВКЛ апрануты ў мундур узору 1789 г. У 1790-1792 гадах поўк камплектаваўся рэкрутамі з Слонімскага, Лідзкага і Слуцкага паветаў.



Пруская пяхотная стрэльба ўзору 1780 г. Гэтымі стрэльбамі была ўзброена пераважная большасьць жаўнераў пешых паўкоў ВКЛ. Ложа стрэльбы гарэхавае , акоўка на ложы і ўтулкі пад шомпал - латунныя, акоўка на прыкладзе - жалезная. Шомпал жалезны з меднымі заканчэньнямі. Штык трохкутны з спружыннай зашчоўкай на трубцы. Даўжыня стрэльбы 1450мм. , са штыком - 1850 мм. Руля гладкасьценная калібрам 17,71 мм., вага кулі - 32 грама, адлегласьць забойнага стрэлу - 320 м. Вага стрэльбы - 5 кіляграмаў, а са штыком - 5,36 кг.

***Ілюстрацыя 7.***

На малюнку:

Афіцэр стральцоў Рэгіменту 1-га пешага Булавы Вялікай у мундуры на 1792 - 1794 гады. Крой мундуру аналягічны крою і колярам мундура шэраговага стральца. Адзнака афіцэрскай годнасьці - шарф і эпалет на левым плячы. На галаве ў афіцэра высокі фетравы ківер са скураным брыльком. З нізу ківер абшыты галунам і ўпрыгожаны эцішкетам з вітога белага шнура. Афіцэр узброены шабляй падвешанай на пендэнце, які апрануты пад афіцэрскі шарф.

***Ілюстрацыя 8.***
На малюнку:
Шэраговы стралец рэгіменту 1-га пешага Булавы Вялікай ВКЛ на 1794 г. Жаўнер апрануты ў мундур характэрнага для стральцоў зялёнага коляру 1-га пешага паўка, з тым жа колерам прыборнага металу. На галаве ў яго фетравы капялюш з шырокім, загорнутым з левага боку крысам (рондам). Тулья капялюша абшыта галунам. Капялюшы падобнага тыпу гэтаксама шырока ўжываліся артылерыстамі Корпусу артылерыі Літоўскай і ў паўстанцкіх стралецкіх аддзелах. Ледэрверк зроблены з чорнай скуры . З пераду на пендэнце падвешаны патранташ. Стралец узброены Казеніцкім штуцарам і цясаком.



Штуцар Казеніцкі (вытворчасьці збройнай мануфактуры ў Казеніцах пад Варшавай). Гэтым штуцарам узбройваліся стральцы пешых паўкоў войска ВКЛ, а таксама ўжывалі ў паўстанцкіх стралецкіх аддзелах . Руля наразная ( 7 нарэзаў) калібрам 16,4 мм. На рулі метнік, разьлічаны на вялікія адлегласьці стрэлу. Ложа гарэхавае, акоўкі ложы - латунныя, акоўка прыкладу - сталёвая. З левага боку прыклада ёсьць выступ, а з правага - пенал для куляў і запасных крамянёў. На долу ложы тры сталёвыя ўтулкі для сталёвага з медным заканчэньнем шомпала. Даўжыня штуцара - 1090 мм., вага - 3,87 кг.
На малюнку пад штуцарам выява кляйма Казеніцкай мануфактуры і сэрыйны нумар штуцара, якія разам з выявай дзяржаўнага герба выбіваліся на доннай частцы рулі.

***Ілюстрацыя 9.***
Рэгімент 2-гі пешы Булавы Вялікай ВКЛ.
Утвораны ў 1775 годзе з рэгіменту коннага драгунаў Булавы Вялікай ВКЛ.
Места кватэраваньня: Горадня, Сакулка (1792).
Шэфы: Міхал Агінскі (1775-1793).
Паўкоўнікі: Ігнат Мараўскі (1775-1784), Рыгор Валан (1784-1789), Караль Мараўскі (1789-1794).
Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Мір 11.06., Берасьце 23.08.
Паўстаньне 1794: баявыя дзеяньні на Жмудзі.

На малюнку:
Афіцэр 2-га пешага паўка войск ВКЛ у мундуры прынятым у 1789 годзе.
У 1790-1792 гадах поўк камплектаваўся рэкрутамі з ваколіцаў Прэнаў, Эйшышкаў і Паставаў. У чэрвені 1794 году поўк быў папоўнены рэкрутамі з гарадзенскага павету.






Срэбны медаль "Руплівааму". Ім узнагароджваліся лепшыя выхаванцы Корпусу кадэтаў , альбо Рыцарскай школы ў Варшаве, якая падрыхтоўвала афіцэраў і для войска ВКЛ.

***Ілюстрацыя 10.***

На малюнку:

Шэраговы 2-га пешага Рэгіменту Булавы Вялікай ВКЛ у мундуры ўзору 1789 году. На малюнку добра бачна лядунка з чорнай скуры, упрыгожаная бляхай у коляры прыборнага металу з выявай "Пагоні".



Пікі паўстанцкіх пікінёрскіх аддзелаў. На малюнку добра бачны жалезныя палосы, якія засьцерагалі дрэўка ад удараў халоднай зброі. На ніжніх канцах пікаў - жалезныя ўтокі, прыробленыя для захаваньня раўнавагі і лягчэйшага ўтыканьня пікі ў зямлю пад час адпачынку.

***Ілюстрацыя 11.***

Янычарская харугва Булавы Вялікай ВКЛ.
Места кватэраваньня : пры Вялікім гетмане ВКЛ.
Шэфы: Вялікія гетманы Літоўскія
Ротмістры: Ян Булгак, Ігнат Лахніцкі (1780), маёр Стакоўскі (1781)

Янычарская харугва Булавы Польнай ВКЛ.
Места кватэраваньня: пры Польным гетмане ВКЛ.
Шэфы: польныя гетманы ВКЛ.
Ротмістры: Антоні Талочка.

На малюнку:
Ротмістр янычарскай харугвы Булавы Вялікай ВКЛ. На галаве афіцэра высокая янычарская шапка абвязаная белай чалмой з затканым золатам канцом. Куртка апранута на доўгі белы жупан і ўпрыгожана пятліцамі з кутасікамі. Афіцэр узброены карабелай - аздобнай шабляй з цемлком.



Цясак шэраговых янычарскіх харугваў. Рукаяць цясака зроблена ў форме рукаяці карабелы - папулярнага ў шляхты Рэчы Паспалітай тыпу шаблі.

***Ілюстрацыя 12*** .
На малюнку:
Геймайн (шэраговы) 3-га Рэгіменту Булавы польнай войска ВКЛ у мундуры на 1776 - 1789 гады. Жаўнер апрануты ў белую камізэльку, кароткія штаны і панчохі з чаравікамі. Мундур , які апрануты на камізэльку, мае шырокія фалды, зашпіленыя ўнізе на гузік. На панчохі і чаравікі зьверху апрануты гетры, па баках зашпіленыя на гузікі. Для жаўнераў і афіцэраў абавязковым з'яўлялася ўжываньне пудраных парыкоў. На галаве насілі бікорн, абшыты па верхнім краі галунам і ўпрыгожаны пампонам.
Колерам мундураў пяхоты ВКЛ у гэты перыяд быў цёмна-блакітны. У кожнага паўка быў уласны колер вылогаў і прыборнага металу.

***Ілюстрацыя 13.***

На малюнку:

Афіцэр 4-га пешага Рэгіменту Булавы польнай ВКЛ у пяхотным афіцэрскім мундуры 1776-1789 гг. Крой афіцэрскага мундура аналягічны крою мундура шэраговага. Адзнакай афіцэрскай годнасьці былі шарф, эпалеты і цемляк на шпаге. Бікорн у афіцэра абшыты галунам іншага кшталта чым у шэраговага і ўпрыгожаны белай тканевай кукардай з прымацаванай да яе кіткай з белых пер'яў каплуна. Замест чаравікоў з гетрамі, афіцэры часта ўжывалі высокія боты.



Афіцэрская шпага саксонскага тыпу - неад'емная частка пяхотнага афіцэрскага мундура да рэформы 1789 году. Пасьля рэформы засталася на ўзбраеньні афіцэраў Рэгіменту Гвардыі пешай Літоўскай, часам ужывалася афіцэрамі Корпусу артылерыі і дадавалася да так званага "бальнага" генеральскага мундура. Даўжыня клінка - 800 мм.,гарда зроблена з медзі і пазалочана, похвы скураныя.

***Ілюстрацыя 14.***

Рэгімент 3-ці пешы Булавы Польнай ВКЛ.

Утвораны ў 1717 годзе як поўк інфантэрыі гетмана польнага Літоўскага , З 1759 - Рэгімент пешы Булавы Польнай ВКЛ, а з 1776 - Рэгімент 3-ці Булавы польнай ВКЛ. Канчатковая назва з 1793 году - Рэгімент 3-ці Літоўскі.

Места кватэраваньня : Менск (1775), Ёнішкі (1778), Наваградак, Шэрашова (1778-1789), Коўна (1789), Вільня (1790), Коўна (1791), Прэны (1792), Шаты (1794).

Шэфы: Польныя гетманы ВКЛ: Станіслаў Дэнхоф (1717-1728), Міхал Казімір Радзівіл (1736-1744), Міхал Юзаф Масальскі (1744-1762), Аляксандар Міхал Сапега (1762-1776), Язэп Сасноўскі (1776-1780), Людвік Тышкевіч (1780-1793), Язэп Касакоўскі (1794).

Паўкоўнікі: генерал-лейтынант Бжастоўскі (1754-1778), Язэп Асіпоўскі (1778- 1789), Ігнаці Гедройц (1789-1793), Павал Грабоўскі (1794).

Бітвы і сутычкі : Вайна 1792: Граны 24.07

Паўстаньне 1794: абарона Вільні 11.08,абарона Прагі 04.11.

Поўк у 1790-1792 гадах камплектаваўся рэкрутамі з ваколіцаў Панявежа, Шаўляў, Вількаміра і Цельшаў. У чэрвені 1794 году поўк папаўняўся рэкрутамі з гарадзенскага павету.

На малюнку:

Шэраговы 3-га пешага паўка ВКЛ у мундуры ўзору 1789 году.



Пяхотная стрэльба прускага ўзору 1782 г. якой былі ўзброены жаўнеры пешых паўкоў войска ВКЛ. Ложа стрэльбы гарэхавае, акоўкі - латунь альбо жалеза, акоўка на прыкладзе зроблена з жалеза.

***Ілюстрацыя 15.***

Рэгімент 4-ты пешы Булавы Польнай ВКЛ.

Утвораны ў 1775 годзе з рэгіменту коннага (драгунскага) Булавы польнай ВКЛ.

Места кватэраваньня: Берасьце (1775-1782),Вільня (1787-1789), Барысаў (1790), Менск (1791), Слуцак (1792), Жыжморы (1794).

Шэфы: Польныя гетманы ВКЛ: Язэп Сасноўскі (1776-1780), Людвік Тышкевіч (1780-1793), Язэп Касакоўскі (1794).

Паўкоўнікі: Адам Паплонскі (1776-1790), Ян Мейян (1790-1793).

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792 : Мір 11.06

Паўстаньне 1794: Паўстаньне ў Вільне 22-23.04, абарона Прагі 04.11.

Поўк у 1790-1792 гадах камплектаваўся рэкрутамі з Бабруйскага і Мазырскага паветаў.

На малюнку:

Жаўнер 4-га паўка. Пад куртку апрануты летнія палатняныя штаны, запраўленыя ў боты. На пагонах бачна акантоўка паўкавога коляру, якая ўжывалася для вызначэньня цотных паўкоў. З боку вісіць тарністр для харчовага прыпасу. Да тарністру прычэплена бляшаная біклага.

***Ілюстрацыя 16.***

Рэгімент 5-ты пешы ВКЛ.

Утвораны ў 1775 годзе з Рэгіменту коннага (драгунскага) Каралевіча.

Места кватэраваньня: Пінск (1775-1778), Вільня (1778), Мсьцібӑў (1779-1782), Вільня (1783), Берасьце (1789).

Шэфы: генерал-інспектар Міхал Грабоўскі (1775-1783),Павал Юры Грабоўскі (1783- загінуў 4.10.1794).

Паўкоўнікі: Юры Грабоўскі (1776-1783),Мацей Франкоўскі (1783-1793), Рафал Беркен (1794).

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Мір 11.06., Берасьце 23.08.

Паўстаньне 1794: Солы 25.06., ваколіцы Берасьця 06.08.,абарона Прагі 4.11.

У 1790-1792 гадах поўк камплектаваўся рэкрутамі Пінскага і Ваўкавыскага паветаў.

На малюнку:

Шэрагговы 5-га пешага паўка ў мундуры ўзору 1789 году, узброены прускай стрэльбай узору 1780 г. і расейскім цясаком.



Баявыя косы паўстанцкіх аддзелаў касінераў. Уверсе паказана каса для кашэньня травы з выпрастанай кавалём пяткай і дрэўка з прарэзанай пад пятку шчылінай. Ніжэй - каса насаджаная на дрэўка і гатовая да бою. Пад ёй разак для сечкі з выпрастаным і перакутым на наканечнік стрыжнем для рукаяці.

***Ілюстрацыя 17.***

Рэгімент 6-ты пешы ВКЛ.

Места кватэраваньня: Вільня, Наваградак (1790-1791), Панявеж (з 1792).

Шэфы: Ксаверы Масальскі (1775-1785), Ксаверы Несялоўскі (1785-1792).

Паўкоўнікі: Тэсбі Белькур (1781), Казімір Рушчыц (1794).

Бітвы і сутычкі : Вайна 1792: Мір 11.06., Берасьце 23.08.

Паўстаньне 1794: Салаты 29.07., абарона Вільні 11.08.

У 1790-1792 гадах поўк камплектаваўся рэкрутамі з наваколіц Наваградка.

На малюнку:

Шэраговы 6-га пешага паўка ў форме па-за шыхтом. Ледэрверк зьняты. На галаву, замест каскі, апранута шапка-фуражэрка. На адгорнутых рагах крыса курткі бачна акантоўка паўкавога коляру. Штаны зімовыя, суконныя, запраўленыя ў боты.



Цясак саксонскага тыпу айчыннай вытворчасьці. Падобнымі цясакамі былі ўзброены шэраговыя, унтэр-афіцэры і стральцы пешых паўкоў войска ВКЛ, а таксама бамбардзіры і кананіры Корпусу артылерыі Літоўскай.

Рукаяць цясака апраўлена ў жалеза альбо медзь, похвы драўляныя, абцягнутыя скурай.

На похвах - металічны кручок для падвешваньня цясака на скураной абойме пендэнта. Ужываліся таксама іншыя варыянты пераробкі саксонскага тыпу цясака.

***Ілюстрацыя 18.***

На малюнку:

Афіцэр 6-га Пешага Паўка войска ВКЛ у мундуры ўзору 1789 году. На афіцэрскай шапке замест прадпісанай ашыўкі акольшпа чорным каракулем, акольш абшыты сівым каракулем. Афіцэрскі шарф , таксама ў парушэньне статута, павязаны пад куртку. Шабля вісіць на бандальеры. Штаны летнія, палатняныя, запраўлены ў боты. Колер прыборнага металу, як ва ўсіх цотных паўкоў, белы.




Першапачатковы знак ордэна "Вайсковага гонару" - залаты альбо срэбны авальны медаль, памерам 42,8 - 32,2 мм. Выбіваўся з 12 чэрвеня да канца жніўня 1792 году.

***Ілюстрацыя 19.***

Рэгімент 7-мы пешы ВКЛ.

Утвораны з гарадзенскага батальёну ў 1790 годзе.

Места кватэраваньня: Вільня (1791), Смаргонь (1791), Ашмяны (1792), Вільня (1793), Смаргонь (1794).

Шэфы: Казімір Нестар Сапега (1790-1792), Людвік Гельгуд (1793-1794),

Паўкоўнікі: Фелікс Гаржэцкі (1790-1791), Стэфан Грабоўскі (1791-1794).

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Берасьце 23.07.

Паўстаньне 1794: Паўстаньне ў Вільні 22-23.04; Солы 25.06., абарона Вільні 11.08., Любань 4.09., абарона Прагі 4.11.

Поўк камплектаваўся рэкрутамі з Ашмянскага павету, з Троцкага і Віленскага ваяводстваў.

На малюнку:

Шэраговы 7-га пешага паўка . Куртка зашпілена на правы шэраг гузікаў, на нагах белыя палатняныя штаны, запраўленыя ў боты.

***Ілюстрацыя 20.***

Рэгімент 8-мы пешы ВКЛ.

Утвораны 1.03.1790 году як Рэгімент дому Радзівілаў. Раззброены расейцамі ў студзені 1794 году. Адноўлены ў красавіку таго ж году.

Места кватэраваньня: Нясьвіж (1791), Чарнобыль (1791),Нясьвіж (1792), Сталовічы (1793), Нясьвіж (1794).

Шэфы : Караль Радзівіл (1790), Севярын Ржэвускі .

Паўкоўнікі: Міхал Радзівіл, Севярын Ржэвускі (з 1.03.1790), Дамінік Дзядзерка (1791-1793).

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Мір 11.06., Зэльва 4.07., Залужжа 11.07., Берасьце 23.07.

Паўстаньне 1794: Солы 25.06., абарона Вільні 11.08., Любань 4.09.

У 1790-1792 гадах поўк камплектаваўся рэкрутамі з ваколіцаў Нясьвіжа і Слуцака. Падчас паўстаньня 1794 году часта зваўся Касінерскім.

На малюнку:

Афіцэр 8-га пешага паўка ВКЛ апрануты ў мундур узору 1789 г. Куртка зашпілена на левы шэраг гузікаў, зьверху курткі апрануты бандальер з чорнай скуры, на якім падвешана шабля. Штаны суконныя, выпушчаныя паверх ботаў.



Узор нашэньня афіцэрскага цемляка , прадпісаны ў 1791 годзе для афіцэраў і таварышаў кавалерыі, афіцэраў пяхоты, артылерыі і вайсковых інжэнераў. Для афіцэраў усіх радоў войскаў цямляк выконваўся са срэбнай і чырвонай цясьмы. Для таварышаў у Кавалерыі Нарадовай і Пярэдняй Стражы цямляк рабіўся ніцяны. Паштовыя таксама ўжывалі цямлякі, але зробленыя з фарбаванай у белы колер скуры.

***Ілюстрацыя 21.***

1-я Брыгада Кавалерыі Нарадовай войск ВКЛ.

Утворана ў 1776 годзе, звалася таксама Гусарскай ці Ковенскай.

Места кватэраваньня: Коўна, Менск (1789), Кейданы (1790), Вількамір, Панявеж, Расоны, Шаўлі.

Камандзіры: Казімір Тышкевіч (да 1778), Сымон Забелла (да 1791), Мікалай Сілістроўскі, Вранкоўскі (з 1792).

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792 : Сьвержань 10.06., Мір 11.06., Берасьце 23.07.

Паўстаньне 1794: Шчучын 13.05., Панявеж 20.05., Шкуды 12.08.

На малюнку:

Таварыш 1-й Ковенскай брыгады Кавалерыі Нарадовай у мундуры на 1794 год. Мундур падобнага крою быў прыняты ў 1785 годзе для брыгадаў Кавалерыі Нарадовай і паўкоў Пярэдняй Стражы і ўжываўся да канца Паўстаньня 1794 году. Таварышы ў Кавалерыі Нарадовай часта ўжывалі два эпалеты замест аднаго, прадпісанага статутам.

Брыгады Кавалерыі Нарадовай мелі жоўты прыборны метал.



Піка (ланча, кап'ё,спіса), прадпісаная для ўзбраеньня таварышаў у брыгадах Кавалерыі Нарадовай і паўках Пярэдняй Стражы. Грот і палосы па баках дрэўка, якія засьцерагалі яго ад удараў халоднай зброі - сталёвыя. Грот мог быць трох, альбо чатырохграністы. Пасярэдзіне дрэўка скураны цямляк - у дадзеным выпадку ня ўпрыгожаньне, але пятля для рукі вершніка. На доле дрэўка скураное стрэмечка для нагі, на выпадак, калі піка знаходзіцца ў паходным становішчы з цямляком ,апранутым на плячо. Дрэўка пікі ,паводле Рэгуляміна 1786 году, фарбавалася ў чырвоны колер. Да верхняй частцы пікі, пад гротам, мацавалася харугаўка.

***Ілюстрацыя 22.***

2-я Брыгада Каварерыі Нарадовай войск ВКЛ.

Утворана ў 1776 годзе з харугваў лёгкай конніцы, т.зв. "пяцігорацаў". Звалася таксама Пяцігораскай ці Пінскай.

Места кватэраваньня: Пінск і ягоныя ваколіцы.

Камандзіры: Ксавэры Хамінскі, Пётар Антоні Твардоўскі (з 14.10.1790), Язэп Копец (з 1793).

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Мір 11.06., Дубенькі 18.07.

Паўстаньне 1794: Мікалаеў 23.05., 1-я абарона Варшавы 13.07-6.09., Вільня 10.08., Швэдзкія батарэі 25.08., Паважкі 26-28.08., Блонь 9.09., Мацеёвіцы 10.10., Прага 4.11.

На малюнку:

Маёр 2-й Пінскай брыгады Кавалерыі Нарадовай у мундуры ўзору 1785 году. На куртке добра бачна каляровая акантоўка па швах на сьпіне. На куртку павязаны афіцэрскі шарф, адзнакай маёрскай годнасьці з'яўляецца адна папярэчная палоска на эпалетах. Акрамя прадпісаных статутам лядунак з чорнай скуры, у кавалерыі часта ўжываліся белыя лядункі .



Шабля -"касьцюшкоўка" з простакутнай жалезнай гардай. Падобнымі шаблямі былі ўзброены афіцэры пяхоты, вайсковыя інжэнеры, афіцэры і таварышы Кавалерыі Нарадовай і Пярэдняй Стражы. На малюнку паказаны выгляд зьверху, на якім добра бачны шчыток, які засьцерагаў руку. Похвы шаблі зроблены з дрэва, абцягнуты скурай і акуты жалезам.

***Ілюстрацыя 23.***

1-шы поўк Пярэдняй Стражы войск ВКЛ, Яго Каралеўскай Мосьці Вялікага князя Літоўскага.

Утвораны ў 1776 годзе з харугваў лёгкай кавалерыі (уланскіх). Пасьля разгрому паўстаньня 1794 году поўк залічаны ў склад расейскага войска пад назвай Літоўска-татарскага.

Места кватэраваньня: Онікшты, Рэжыца (1789), Хлапенічы (1790), Відзы.

Паўкоўнікі: Мустафа Бараноўскі (1785-1792), Міхал Кіркор.

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Опса 22.05., Мсьцібаў 10.07.

Паўстаньне 1794: Абарона Вільні 11.08., Войшкі 14.08., абарона Прагі 4.11.

На малюнку:

Афіцэр 1-га паўку Пярэдняй Стражы ў мундуры ўзору 1776-1785 гадоў. З 1785 году паўкі Пярэдняй Стражы ўжывалі мундуры аналягічныя мундурам брыгад Кавалерыі Нарадовай, але з традыцыйным белым колерам прыборнага металу.

***Ілюстрацыя 24.***

3-ці поўк Пярэдняй Стражы Булавы польнай ВКЛ.

Утвораны ў 1776 годзе з харугваў лёгкай конніцы . Назва сьведчыць аб тым, што да 1789 году шэфам паўка быў Польны гетман ВКЛ.

Места кватэраваньня: Мазыр, Лоеў (1789), Мазыр (1790), Стрэшын (1791), Ваўкавыск (1792).

Паўкоўнікі: Казімір Раманоўскі (1776-1785), Антоні Хлявінскі.

Бітвы і сутычкі: Вайна 1792: Зэльва 4.07.

Паўстаньне 1794: Крупчыцы 17.09., Берасьце 19.09., Мацеёвіцы 10.10., абарона Прагі 4.11.

На малюнку:

Афіцэр 3-га паўка Пярэдняй Стражы ў епанчы. Епанча апраналася паверх курткі пад час дажджу і зашпілівалася на гузікі падшытыя споду. Літоўская кавалерыя ўжывала цёмна-сінія епанчы з чырвонымі ( у колер вылогаў мундура) каўнерамі. На малюнку бачны невялікі дадатковы каўнер епанчы , з-пад якога выглядае чырвоны каўнер курткі. Куртка зашпілена на правы шэраг гузікаў, каб зручней насіць бандальер з авальным срэбным медальёнам на ім. Афіцэр апрануты ў чырвоныя штаны, якія ў 1792-1794 гадах ужывалі як парадныя.



Палаш з імпартовым прускім лязом і прыробленай да ляза рукаяцьцю мясцовага вырабу. Падобныя палашы былі на ўзбраеньні паштовых у Кавалерыі Нарадовай і паўках Пярэдняй Стражы войска ВКЛ у 1792-1794 гадах. Гарда жалезная, похвы драўляныя , абцягнутыя скурай і акутыя жалезам.

***Ілюстрацыя 25***.

4-ты поўк Пярэдняй Стражы войска ВКЛ.

Утвораны ў 1733 годзе з прыдворных татарскіх харугваў Патоцкага. Уваходзіў у склад Саксонскага войска. На службу ў войска ВКЛ перайшоў у 1764 годзе.

Места кватэраваньня: Камянец-Літоўскі (1782-1787), Барысаў (1790).

Паўкоўнікі: Сіхадзінскі (1733), Чымбай Мурза Рудніцкі (1756-1764), Язэп (Юсуф) Беляк (1764-1794), Мустафа Ахматовіч (1794)- загінуў пад Мацеёвіцамі.

Бітвы і сутычкі: Вайна 7-мі гадовая. Барская канфедэрацыя: Слонім 3.07.1769., Сталовічы 21-22.09.1771. Вайна 1792: Сьвержань 10.06., Мір 11.06., Зэльва 4.07., Ізабэлін 7.07., Мсьцібаў 10.07., Берасьце 23.07.

Паўстаньне 1794: Крупчыцы 17.09., Берасьце 19.09., Мацеёвіцы 10.10., абарона Прагі 4.11.

Поўк традыцыйна камплектаваўся з літоўскіх татараў.

На малюнку:

Паштовы 4-га паўка Пярэдняй Стражы ў фетравым ківеры ўзору 1785 году. Ківер упрыгожаны шнурамі ("кордамі") . Жаўнер ня мае шыйнага гальштука, апрануты ў сінія зімовыя штаны з чырвонымі лампасамі. Паштовы ўзброены палашом у металёвых похвах і прускім карабінам узору 1787 году.

*Ілюстрацыя 26.*

5-ты поўк Пярэдняй Стражы войска ВКЛ.

Утвораны ў 1733 годзе з прыдворных харугваў Патоцкага. Да 1764 году ўваходзіў у склад Саксонскага войска.

Места кватэраваньня: Сухаволя (1772), Крынкі (1789), Вялена (1792).

Паўкоўнікі: Аляксандар Мустафа Карыцкі ( да 1785), Горыч (1785-1787), Станіслаў Бушэўскі (1787-1792), Людвік Лісоўскі (1792-1794).

Бітвы і сутычкі: 7-мі гадовая вайна. Барская канфедэрацыя : Сталовічы 21-22.09.1771.

Паўстаньне 1794: Абарона Вільні 11.08., абарона Прагі 4.11.

Поўк традыцыйна набіраўся з літоўскіх татараў.

На малюнку:

Паштовы 5-га паўка Пярэдняй Стражы ў мундуры ўзору 1776 году. Паўкавы коляр - зялёны. Паштовы апрануты ў кароткую куртку - "катанку", на галаве высокая "пікаваная" шапка, якую да 1785 году ўжывалі паштовыя ва ўсіх паўках Пярэдняй Стражы ВКЛ. Праз плечы перакінута лейка для лядункі і флінтпас для нашэньня карабіна з правага боку.

***Ілюстрацыя 27.***

6-ты поўк Пярэдняй Стражы ВКЛ.

Утвораны з паўку каралеўскіх прыдворных уланаў у траўні 1792 году.

Места кватэраваньня : Кобрын, Ломна (1792).

Паўкоўнікі: Якуб Азулевіч (загінуў пры абароне Вільні 11.08.1794).

Бітвы і сутычкі: Паўстаньне 1794: Вільня 11.08., Прага 4.11.

Поўк набіраўся з літоўскіх татараў.

На малюнку:

Паштовы 6-га паўка Пярэдняй Стражы ў скураным ківеры ўзору 1791 году з двумя скуранымі брылькамі (зпераду і ззаду). Ківер упрыгожаны шнурамі і бляхай з выявай "Пагоні". Апрануты жаўнер у куртку і летнія палатняныя штаны "чэхцеры", выпушчаныя паверх ботаў. Паштовы ўзброены шабляй замест статутнага палаша.



Прускі драгунскі карабін узору 1787 году. Гэтымі карабінамі ўзбройваліся паштовыя ў брыгадах Кавалерыі Нарадовай і паўках Пярэдняй Стражы ў 1792-1794 гадах. З левага боку ложа мелася антабка для падвешваньня карабіна да флінтпаса. Дрэва ложы гарэхавае, акоўкі латунныя,а на прыкладзе - сталёвая. Даўжыня карабіну - 1305 мм., калібар - 16,98 мм., вага кулі - 29 грамаў, а вага самога карабіна - 3,78 кг. Карабін дазваляў трапна страляць на адлегласьць да 180 метраў.

***Ілюстрацыя 28.***
На малюнку:
Шэраговы Рэгіменту Коннай Гвардыі Літоўскай. Шэраговыя Коннай Гвардыі, як і афіцэры, ужывалі бікорны і парыкі, а таксама чырвоны мундур бяз лацканаў і белыя ласіны з батфортамі. У адрозьненьне ад афіцэраў, у шэраговых верхні край бікорна быў абшыты галунам іншай формы. Узбраеньне шэраговых і унтэр-афіцэраў Коннай Гвардыі Літоўскай складалася з палаша і карабіна, які быў падвешаны праз плячо на флінтпасе.

***Ілюстрацыя 29.***
На малюнку :
Генерал - маёр войска ВКЛ у парадным мундуры ,т.зв. "вялікім" мундуры. Адзнакай годнасьці генерал-маёра з'яўляецца вышыўка ў выглядзе хвалістай стужкі на каўнеры і манжэтах курткі. Пад куртку апранута белая камізэлька - "лейбік". У адрозьненьне ад афіцэрскага і жаўнерскага, генеральскі лейбік меў каўнер і чырвоную. акантоўку па краі каўнера і бартоў. Колер прыборнага металу ў генералаў войска ВКЛ быў жоўты. Пад парадны мундур літоўскія генералы апраналі чырвоныя штаны з залацістымі лампасамі. У склад палявога мундура ўваходзілі шэрыя, падшытыя скурай (для коннай язды) штаны з сінімі лампасамі, альбо такія ж сінія з чырвонымі лампасамі.




Кавалерскі крыж (3-я сьцепень) Ордэну "Вайсковага Гонару", які часам зваўся знакам Вайсковага ордэну. Крыж першапачаткова насіўся на стужцы ордэну Сьв. Станіслава (чырвонай з белай акантоўкай па краях), а потым на стужцы ўласных коляраў - блакітнай з двумя чорнымі палоскамі ля краёў.

***Ілюстрацыя 30.***

На малюнку:

Генерал-маёр войска ВКЛ у "кунтушовым" мундуры на 1794 год. Адзнакі генерал-маёрскай годнасьці тыя ж, што і на "вялікім" мундуры. Прыборны метал - жоўты. Нягледзячы на статутныя для літоўскіх генералаў капялюшы блакітнага коляру, кавалерыйскія генералы ўжывалі чырвоныя капялюшы. На малюнку генерал паказаны са стужкай і зоркай ордэну Сьвятога Станіслава.



**Узор нашэньня афіцэрскага цяляка на рукаяці "карабелы" - шаблі, якую шырока ўжывалі камандзіры паўстанцкіх аддзелаў 1794 году.**

***Ілюстрацыя 31.***
Корпус Аптылерыі войска ВКЛ.
Генералы: Салагуб (1754-1759), Патоцкі (1759-1762), Браніцкі (1768-1775), Казімір Нестар Сапега (1775-1794).
Паўкоўнікі: Масальскі (1754-1783), Фрыдэрык Кронеман (1783-1792), Каэтан Казельскі (1792), Якуб Ясінскі (загінуў 4.11.1794).
На малюнку:
Афіцэр Корпусу артылерыі ВКЛ у летнім мундуры на 1792-1794 гады. Апрануты ў мундур колераў артылерыі - зялёны з чорнымі вылогамі. Прыборны метал артылерыі- жоўты. На галаве афіцэра каска аналягічная пяхотнай. Афіцэрская каска ўпрыгожвалася белай кіткай і белым эцішкетам з вітога шнура. Да летняга мундура дадаваліся белыя палатняныя штаны - чэхцеры. Афіцэр узброены шпагай, прычэпленай да чорнага бандальера. На бандальеры авальны медальён,вельмі папулярны ў паўстанцаў 1794 году.



3-х фунтовая палявая гармата - асноўны тып гарматы на ўзбраеньні Корпуса артылерыі. З 1790 году кожнаму пешаму паўку 2-х батальённага складу павінна была дадавацца па чатыры такіх гарматы разам з паўкавой артылерыйскай камандай. На малюнку паказана гармата раньняй сэрыі, якая зроблена паводле аўстрыйскага ўзору з даўжынёй рулі ў 16 калібраў. Лафеты ўсіх гарматаў фарбаваліся ў зялёны коляр і аздабляліся па баках каралеўскім вензелем і нумарам гарматы.

***Ілюстрацыя 32.***

Корпус інжэнераў войска ВКЛ.
Шэф: Казімір Нестар Сапега.
Паўкоўнік: Якуб Ясінскі.
На малюнку:

**Інжэнер у мундуры на 1792-1794 гады. На куртку апранута капота - верхняя шыхтавая вопратка з каўнерам і манжэтамі чорнага коляру. Зьверху капоты - пендэнт з чорнай цясьмы, затканай залатой ніцьцю. Афіцэрскі капялюш інжэнераў і артылерыстаў меў чорны аксамітны верх, акольш быў абшыты сівым каракулем. Над акольшам бачны залаты галун - адзнака афіцэрскай годнасьці.**



1. Тадэвуш Касьцюшка ў мундуры генеральскім.
Маляваў К.Швекерт



2. Якуб Ясінскі.
Паводле Джаваньні Батысты Лампега.

3. Юльян Нямцэвіч ва ўзросьце 20 гадоў.
Мастак невядомы.



4. Казімір Нестар Сапега. Нарадзіўся ў Берасьці ў 1754, а памёр у Вене ў1795.
У 1767 - 71 гадах скончыў Рыцарскую школу ў Варшаве. З 1776 году - генерал артылерыі ВКЛ. На сейме 1786 году выступіў у падтрымку вайсковых рэформаў. Удзельнік паўстаньея 1794 году.





5. Францішак Сапега. (1772-
- 1829). Кансулянт Таргавіцкай канфедэрацыі. Генерал артылерыі ВКЛ і шэф корпусу артылерыі і корпусу інжынераў ВКЛ.Генерал лейтынант з 1794 году.



6. Караль Прозар. (1759-1841). Абозны вялікі літоўскі. Прадстаўнік Рады Найвышшай на Літве ў 1794 годзе. Удзельнік часовага ўраду літоўскага 1812 году.



7. Ян Аскерка. (1735 - 1796). Стражнік польны літоўскі. Арыштаваны ў 1794 годзе і сасланы ў Сыбір, дзе і памёр.



8. Антоні Касінскі. (1769-1823) Адʼютант К.Прозара.У 1794 меў годансьць капітана.



9. Ігнат Тызенгаўз (-1822) Шэф пешай Гвардыі ВКЛ. За ўдзел у паўстаньні сасланы ў Сыбір. У 1812 годзе ўдзельнік часовага ўрада Літвы.



10. Міхал Клеафас Агінскі (1765 - 1833. Кампазытар.Пад час паўстаньня 1794 году кіраваў ўласным аддзелам. Уваходзіў у склад паўстанчага Урада.



11. Томаш Ваўжэцкі. Галоўны начальнік паўстаньня 1794г. У часе паўстаньня быў адным з кіраўнікоі на Жмудзі і Курляндыі.



12. Рамуальд Гедройць. (1750-- 1824). Сябра Рады Найвышэйшай ВКЛ. Генерал-лейтынант 1794. Старшыня камітэту вайсковага Літвы ў 1812 годзе.



13. Сымон Касакоўскі (1741 - - 1794). Вялікі Гетман ВКЛ з 1793 г. Пакараны сьмерцю за здраду ў 1794 годзе.



14. Станіслаў Макраноўскі (1761 - 1821). Генерал у паўстаньні 1794 г. Пятага чэрвеня 1794 узначаліў вайсковае кіраўніцтва ў ВКЛ.



15. Язэп Вельгорскі (1759 - 1817). Генерал. Узначаліў абарону Вільні.



16. Каспер Чыж . (1747 - 1825). Сябра суда крымінальнага ВКЛ 1794 г.



17. Стэфан Грабоўскі (1759 - 1847). У корпусе кадэтаў 1771 - 1774. Паўкоўнік у 1794 годзе. У палоне да 1796 году.



18. Канстанцін Ельскі (- 1799). Генерал-маёр гарадзенскага павета.

# СЛОЎНІК АДМЫСЛОВЫХ СЛОЎ І ТЭРМІНАЎ

***Антабка*** - Металёвая акоўка ў выглядзе паўкоўца прымацаванага пад ложам стрэльбы, якая служыла для мацаваньня лейкі на якой пераносілася стрэльба.

***Аток*** - акольш.

***Багінет*** - назва трубкавага штыка, якая ўжывалася ў літоўскім войску ў васемнаццатым стагодзьддзі.

***Бандальер*** - скураная шырокая лейка на якой праз плячо насілася шабля альбо лядунка.

***Баранкавы*** - зроблены з адмысловага гатунку каракуля.

***Бікорн*** - двуххутны фетравы капялюш, які ўжываўся ў войску ВКЛ у 18 ст.

***Вылогі*** - дэталі мундура, якія розьніліся колерам ад агульнага колеру мундура: каўнер, лацканы, манжэты , акантоўкі.

***Гарда*** - металёвая дэталь рукаяці халоднай клінковай зброі, якая засьцерагала руку з пераду. Часьцей за ўсё складалася з адной альбо некалькіх металёвых дужак.

***Гамашы*** - высокія скураныя гетры на гузіках, якія засьцерагалі панчохі і чаравікі ад бруду і вільгаці.

***Гаўбіца*** - гармата, прызначаная для страляньня гранатамі па навеснай траекторыі. Г. мела кароткую (5-10 калібраў) рулю і канструкцыю лафета, якая дазваляла надаваць рулі вялікія куты нахілу.

***Грайцар*** - прылада для выцягваньня нястрэліўшага набою з рулі гарматы. Г. накручваўся на канец артылерыйскага шомпала.

***Граната*** - артылерыйскі набой у выглядзе пустога ў сярэдзіне ядра, якое запаўнялася порахам. Для дэтанацыі гранаты на патрэбнай адлегласьці ўжываўся запальнік (драўляная альбо металічная трубка набітая гаручым рэчывам), які ўстаўляўся ў адтуліну ў корпусе гранаты і загараўся пад час стрэлу.

***Грот*** - жалезны ўтульчаты наканечнік капья (ланчы, пікі, дзіды).

***Гусары*** - у канцы 16-17 стст. - цяжкая кавалерыя войска ВКЛ, якая ўжывала ахоўны доспех (кірасы і шышакі) і была ўзброена цяжкімі і доўгімі копьямі. Гусарскія харугвы прызначаліся для прарыву баявых парадкаў ворага і лічыліся элітнымі часткамі кавалерыі войска ВКЛ. Гусарскія харугвы існавалі да 1775 году, але з пачатку 18 стагоддзя ўжо не ўжывалі дасьпехаў і ўласьцівага ім комплексу ўзбраеньня.

***Епанча*** - даўгі плашч з вялікім адкладным каўнерам. Епанча апраналася зьверху мундура. Ужывалася ў кавалерыі ВКЛ.

***Запальная палічка*** - частка замка крамянёвай зброі, на якую высыпаўся порах для падпальваньня набою.

***Кантаніст*** - назва рэкрута, які набіраўся ў войска згодна з ухвалай сойму 7 сьнежня 1789 году.

***Капота*** - даўгая вопратка у выглядзе сюртука з каўнерам і манжэтамі. ***Капота*** ўжывалася як верхняя вопратка ў афіцэраў кавалерыі, пяхоты, артылерыі і інжэнераў войска ВКЛ.

***Карабін*** - кароткая стрэльба з гладкаствольнай руляй, якой узбройваліся паштовыя ў войску ВКЛ.

***Карцеч*** - артылерыйскі набой, які складаўся з валавянных куляў. Яна ўжывалася для стральбы па пяхоце і кавалерыі з блізкай адлегласьці.

***Картуз*** - частка артылерыйскага набою ў выглядзе палатнянага меха, у які засыпалася неабходная для стрэлу колькасьць пораху. Карцечны набой гэтаксама ўкладаўся ў картуз.

***Кітка*** - султан для ўпрыгожваньня вайсковых галаўных убораў. Рабіўся звычайна з пер'яў ці конскага воласу.

***Клапы*** - лацканы вайсковага мундуру.

***Клямра*** - спражка для вайсковай дзягі (пендэнта).

***Кунтуш*** - верхняя шляхецкая вопратка з характэрнымі адкіднымі рукавамі.

***Ласіны*** - шчыльна аблягаючые нагу штаны, якія шыліся з бялёнай ласінай скуры.

***Ледерверк*** - скураныя лейкі для нашэньня зброі і амуніцыі ў шэрагоўца. У склад ледерверку ўваходзілі: пендэнт, флінтпас, бандальер і пас для нашэньня тарністра.

***Лейбік*** - таксама "жупанік" - палатняная камізэлька бяз каўнера, якая апраналася паверх кашулі , пад мундур.

***Ленунг*** - штомесячнае жалаваньне жаўнера ў войску ВКЛ .

***Людвісарня*** - майстэрня ў якой адліваліся гарматы і званы.

***Лядунка*** - скураная торба для нашэньня набояў.

***Палкавы колер*** - колер вылогаў які быў прадпісаны кожнаму пешаму паўку войска ВКЛ. Адзін паўкавы колер прыпадаў на два пешыя паўкі, якія розьніліся колерам прыборнага металу. Літоўская кавалерыя ўжывала адзін колер вылогаў - чырвоны, з пэўнымі адценьнямі па паўках. Артылерыя і інжэнерныя войскі ўжывалі чорны колер вылогаў.

***Палаш*** - клінковая зброя з шабельнай рукаяцьцю і простым лязом. Палашамі ўзбройваліся паштовыя ў войску ВКЛ.

***Палух*** - металёвая дужка (клямар) на скрыжаваньні шаблі. У палух укладаўся вялікі палец рукі, што ўзмацняла ўдар шабляй.

***Панцэрныя*** - у 17 стагоддзі - сярэдняя кавалерыя ў войску ВКЛ, якая ўжывала кальчугі. Панцэрныя харугвы зваліся таксама "казацкімі". У літоўскім войску праіснавалі да 1775 году, але з пачатку 18 ст. ,як і гусары, перасталі ўжываць ахоўнае ўзбраеньне.

***Паштовы*** - шэраговы кавалерыі нешляхецкага паходжаньня. Паштовыя звычайна набіраліся з вольных людзей шляхам вярбоўкі.

Часам таварыш мог наняць і ўзброіць замест сябе двух паштовых. У баі паштовыя складалі 2-гі, 4-ты і 6-ты шэрагі швадрону.
***Пендэнт*** - пас са спражкай, які прызначаўся для нашэньня шпагі, шаблі альбо цясака. Афіцэрскі пендэнт рабіўся з цясьмы і быў затканы срэбрам на чырвоным тле. Пендэнт шэраговых і ўнтэр-афіцэраў пяхоты , таварышаў і паштовых кавалерыі быў скураны. Афіцэры апраналі пендэнт пад афіцэрскі шарф.
***Прыборны метал*** - колер усіх металёвых дэталяў мундура: гузікаў, спражак, блях на галаўных уборах і лядунках, аковак халоднай зброі, а таксама эпалетаў, галуноў і вышывак. Колерам прыборнага металу мог быць жоўты (золата, медзь, латунь), альбо белы (срэбра, жалеза, волава) і вызначаўся рэгулямінамі для асобных частак ці радоў войск.
***Рынграф*** - металёвая пласьціна ў форме маладзіка, якая месьцілася на грудзях у афіцэраў. У войску ВКЛ у канцы 18 ст. рынграф ужывалі толькі афіцэры Рэгіменту пешай Гвардыі.
***Рэгулямін*** - вайсковы статут, які распрацоўваўся Камісыяй Вайсковай альбо Дэпартаментам Вайсковым і зацьвярджаўся Соймам. Рэгуляміны зацьверджаныя Соймам былі абавязковымі як для войска Кароны, гэтак і для войска ВКЛ. Рэгуляміны датычыліся тактычнай падрыхтоўцы, узбраеньня і абмундураваньня асобных родаў войска.
***Рэгімент*** - афіцыйная назва палка ў пяхоце і Гвардыі войска ВКЛ.
***Таварыш*** - шэраговы-шляхціц у літоўскай кавалерыі. Займаў месца паміж афіцэрам і паштовым. Падзел на таварышаў і паштовых захаваўся з часоў сярэднявечча, калі кожны рыцар выпраўляўся на вайну з двумя- трымя ўзброеннымі вайсковымі слугамі, што складалі ягоны ўласны маленькі аддзел - "пошт".
***Тарністр*** - таксама "тарністэр" , скураная торба для жаўнерскага прыпасу, якую шэраговы пяхоты насіў на левым баку. Да тарністра мацавалася бляшаная біклага.
***Флінтпас*** - лейка для нашэньня пяхотнай стрэльбы. У кавалерыі флінтпасам зваўся шырокі пас для нашэньня на баку кавалерыйскага карабіна. Для чапляньня антабкі карабіна да флінтпаса прышываўся адмысловы кручок.
***Харугаўка*** - шоўкавы сьцяжок, які мацаваўся да кавалерыйскага капья альбо пікі. Колеры харугавак вызначаліся рэгулямінамі для кожнай кавалерыйскай часткі.
***Харугва*** - злучэньне ў літоўскай кавалерыі . У канцы 18 ст. харугва складалася са 100 вершнікаў.
***Цапфы*** - выступы на баках рулі гарматы, з дапамогай якіх руля мацавалася на лафеце.
***Цемляк*** - аздоба на рукаяці клінковай зброі, якая звычайна сьведчыла пра афіцэрскую годнасьць уладальніка зброі.

***Цясак*** - кароткая шабля, якая была на ўзбраеньні жаўнераў пяхоты і артылерыі войска ВКЛ.

***Чэхцеры*** - белыя палатняныя штаны, уведзеныя ў літоўскай кавалерыі ў 1785 годзе, а ў пяхоце ў 1789 годзе.

***Шаравары*** - таксама "рэйтузы" - кавалерыйскія штаны з разрэзамі і стрэмячкамі ўнізе калашын. У літоўскай кавалерыі ўведзены з 1785 году.

***Швадрон*** - злучэньне ў кавалерыі, якое складалася з двух харугваў.

***Шліфы*** - таксама "нараменьнікі" - эпалеты.

***Штуцар*** - стрэльба з нарэзамі ў рулі, якая прызначалася для трапнага стрэлу на вялікую адлегласьць.

***Шыфр*** - каралеўскі вензель.

***Шэф*** - ганаровы патрон паўка ў войску ВКЛ. Шэф павінен быў сачыць за забесьпячэньнем свайго паўка амуніцыяй, абмундураваньнем і (да 1778 г.) - узбраеньнем. Шэфамі паўкоў былі гетманы і генералы літоўскага войска, а таксама найбагацейшыя магнаты ў Вялікім княстве. Шэф адначасова меў годнасьць першага паўкоўніка свайго паўка.

# Зьмест

# Ад выдаўцоў.

Шаноўны чытач! Вы трымаецё першае выданьне будучай выдавецкай суполкі "ARBOR" , арганізацыя якой зараз падыхо- дзіць да завяршэньня. Дзякуючы дапамозе выдаўца Зьміцера Салошкіна мы ўжо зараз змаглі прыступіць да ажыцьцяўленьня сваіх выдавецкіх плянаў. Некалькі слоў пра "ARBOR". Ініцыятарам стварэньня выдавецтва з'яўляецца Павал Казанэцкі, дзякуючы актыўнай падтрымкі якога пабачыла сьвет і гэтая кніжка. У далейшым выдавецтва абяцае ня адступаць ад беларускай тэматыкі, асаблівую ўвагу надаючы разьвіццю беларускага кнігадрукаваньня. Аднак паспрабуем меней абяцаць, ды болей рабіць.

А пра гэтую кнігу пісаць няма чаго, яна гаворыць сама за сябе.

З.Вайцяховіч


Навукова-папулярнае выданьне

Міхась Грыгор'еў

Войска ВКЛ
Ад Сасаў да Касьцюшкі
(1765-1794)

Рэдактар З. Вайцяховіч

Падпісана ў друк 25.01.94. Фармат $60\times84^{1}/_{16}$. Гарнітура Таймс
Папера афсэтная № 1. Наклад 3000 паасобнікаў. Зак. 5181.

Выдавец З.Салошкін Ліцэнзія ЛВ № - 575 220040 Менск в.Някрасава 35-1-68.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

